ББК 84(4Беи)6
А 40
УДК 882.6-1

Выданне ажыццёўлена пры фундатарскім
удзеле фірмы «Dainova» (г. Мінск)
і кампаніі «Slava» (г. Маладзечна)

Мастак *Мікалай Казлоў*

Рэцэнзенты:

*В. В. Зуёнак, Я. С. Пархута, В. С. Макарэвіч,*
*М. П. Кенька, А. В. Сабалеўскі*

**Аколава В. В.**
А 40 Случарыны: Кн. паэзіі.— Мн.: Полымя, 1994. — 432 с., 1 арк. партр.
ISBN 985-07-0070-Х.

За вокнамі Сусвету і неспакойнага чалавечага жыцця — вечар Веку. Ён (да яркасці!) мудры і (да выкліку!) трагедыйны, з дарогайшляхам у восем паслячарнобыльскіх вёснаў на Палессі. За гэты рызыкоўны на сацыяльныя змены і непрадбачлівы на палітычныя падзеі час і напісана кніга паэзіі Валянціны Аколавай «Случарыны». Для аўтара яна — своеасаблівы духоўны спавед Незалежнай Беларусі і пошук новых паэтычных сродкаў.

А $\frac{8820600000 — 042}{М 306 (03) — 94}$ БЗ — 94 ББК 84(4Беи)6
ISBN 985-07-0070-Х

*З дзён учарашніх*
*случанская зямля і яе духоўнасць —*
*удзячны Уладзіміру Сыракомлі, казачніку Рэдкаму,*
*Аркадзю Чарнышэвічу, Янку Скрыгану,*
*Галіне Макаравай,*
*сённяшнім — Максіму Лужаніну, Рыгору Шкрабе...*
*Як буслянак вясной — пералік імёнаў:*
*высокі і ·даляглядны.*
*Мая радзінная айчына крывічоў, прыпалеская*
*Салігоршчына — на гордасць мужная і былінная.*
*Дзякуй Бацькаўшчына за творчае натаеннне*
*майго сэрца!*
*Для случанкі-паэта роднае і кроўнае —*
*залацей і прыгажэй*
*за вучоныя лабірынты і "заморскія філасофіі".*
*Не астудзіся, Радок, да агню*
*і мудрасці матчынай Мовы!*

# ВЕЧНАСЦЬ ШАНУЕ — КОЖНУЮ З ЗОРАК

*Случанскія санеты*

## НІ З УЧОРА ЗВЯЧОРА СВЕТ НАРОДЖАНЫ Ў СВЕТ

Ні з учора звячора свет народжаны ў свет.
Як любоў да радзімы адным сэрцам змагчы?
Зоркі гойдае ў Случы спавядальны санет.
Сядзіць сокал на правым і на левым плячы.

Восем боханаў часу вугалее ў начы.
Жоўтым лісцем усцеле Вечнасць восені след.
Хто чые ўсе трывогі да адзінай злічыў?
Зоркі гойдае ў Случы спавядальны санет.

Ні з учора звячора свет народжаны ў свет.
Як любоў да радзімы адным сэрцам змагчы?
Жоўтым лісцем усцеле Вечнасць восені след.
Маладзік адзінокі ў краснагосці-начы.

Ні з учора звячора свет народжаны ў свет...
Зоркі гойдае ў Случы спавядальны санет.

## ВОСЕНЬ ЖОЎТАЯ ДА НІТКІ ТЧЭ ВЯКІ НА ГРУДЗЕ

Восень жоўтая да ніткі тчэ вякі на грудзе.
Толькі раз адзіны, людцы, можна жытку жыці,
Мецъ случанскую радзіну і ў свята і ў будзень.
Не на тое свеціць сонца — цені каб цяніці.

Не на тое цвітуць ружы — росы каб расіці.
Для любові мяне мама гадавала ў людзі.
Не на тое словы ў песні — вусны каб вусніці.
Восень жоўтая да ніткі тчэ вякі на грудзе.

Для любові мяне мама гадавала ў людзі.
Толькі раз адзіны, людцы, можна жытку жыці.
Мецъ случанскую радзіну і ў свята, і ў будзень.
Не на тое спее жыта — каб зямлю зямліці.

Для любові мяне мама гадавала ў людзі...
Восень жоўтая да ніткі тчэ вякі на грудзе.

## БОГ ДАСЦЬ І ВЕЧАР, І АДВЯЧОРАК

Бог дасць і вечар, і адвячорак.
Прыйдуць малітвы і пакаянне.
Цені ад ночы ў восьмера столак.
За развітаннем — дзень невяртання.

З крылаў анёлаў — неба маўчанне.
Вечнасць шануе — кожную з зорак.
Дзякуй за горыч светлы, каханне!
Ростань — саколы, што без саколак.

Чэмер адпіці раніцы з зёлак.
За развітаннем — дзень невяртання.
Цені ад ночы ў восьмера столак.
З крылаў анёлаў — неба маўчанне.

Бог дасць і вечар, і адвячорак...
Вечнасць шануе — кожную з зорак.

# АДКУЛЬ НІ ІСЦІМУ — ПЕСНЮ АДГУКНУ

Да жывога следу казака прыльну:
Чаму сіня мора паціху плыве?
Хто дарогу ходзіць ад вачэй да сну?
Колькі год на свеце маладзік жыве?

Хто пасцелю сцеле ночаньцы ў траве,
Росамі бялёну, тканую з ільну?
Як з аднога сонца зары ўсходзяць дзве?
Адкуль ні ісціму — песню адгукну,

Да жывога следу казака прыльну:
Чаму сіня мора паціху плыве?
Хто дарогу ходзіць ад вачэй да сну?
Колькі год на свеце маладзік жыве?

Адкуль ні ісціму — песню адгукну...
Да жывога следу казака прыльну.

# ЕХАЛІ ЎДВОЕ КРАЕМ-ДАЛІНАЙ

Ехалі ўдвое краем-далінай,
Яркаю ўсцежай расквечаных зор.
Ехалі ў Вечнасць Ян і Яніна,
Двое праз цёмен закрычаўскі бор.

Ноч маладая гасцініла ў двор.
Ехалі ў Долю Ян. і Яніна:
Травы шаўковілі з мяты шацёр.
Перацвітала ў Слуцку каліна.

Конь варанёны з конем буланым
З рыссю гарачай вянчалі касцёр:
Родная з родных! Мой жа каханы!
Рэхам адгуквала з ранішніх гор.

Ехалі ўдвое: Ян каля Яны...
Сэрцам — ля сэрца, ранамі ў раны.

## ПРЫЛАСКАЛІ ХЛОПЦА З ЧУЖОЙ СТАРАНЫ

Далёка радзіма. Роду не відаць.
Прыласкалі хлопца з чужой стараны.
Будзе край дунайскі ваяра чакаць.
Вось з якой навіны дзень той навіны.

Нізка ў травах сонца. Блізка — ноч і сны.
Будзе ўплач матуля сына ўспамінаць.
Краем стэпу — краем цвітуць палыны.
Будзе да галубкі голуб прылятаць.

Будзе галубіца — голуба кахаць.
Прыласкалі хлопца з чужой стараны.
За далёкай даллю мора не відаць.
Казак і радзіма на ўвесь свет адны.

Ад капыт да грывы — масцю конь — з вясны...
Вось з якой навіны дзень той навіны.

## СУМ ПА ЗДРАДНІЦЫ, КРАСНАЙ ДЗЕ-ВІ-ЦЫ

Сум па здрадніцы, краснай дзе-ві-цы,
Не гукай святло ружай на далонь.
Сонца схіліцца к ценям: дзе-вя-ці.
Пераскача грак праз вясны агонь.

Не гукай любоў, памяць не палонь...
Як расінаю мора мераці,
Ланцугом каваць неба ў абалонь,
Як без кораня садзіць дзе-раў-цы?

Перасохлае зерне — се-я-ці,
Раз-званіць званы ў царскі перазвон,
Як ад зор адняць зоры Вечнасці,
Ссаладзіць палын, разбасіць гармонь?

Песняй кланяцца жалям дзевяці...
Сум па здрадніцы, краснай дзе-ві-цы...

# КАЗАКІ СТАЯЛІ — ВАЧЫМА ДА ЛЁСАЎ

Казакі стаялі — вачыма да лёсаў.
Каня варанога расчэсвалі грыву.
Чаравалі ў чары на корань авёса.
Каласілі ў колас жытнёвую ніву.

Нектаром паілі кабыліцу сіву,
Што і падкаванай пасвілася босай.
Думалі далёка пра любоў шчасліву.
Пялёсткі шыпшыны чырванілі ў росах.

Чаравалі ў чары словам безгалосым.
Маўчаком маўчалі, як хмель даўся піву...
Травы маладыя падалі ў пракосы.
Думамі малойцы кланяліся дзіву.

Казакі стаялі — вачыма да лёсаў...
Чаравалі ў чары на корань авёса.

## І НЕ ЕЎ БЫ, І НЕ ПІЎ БЫ, КАБ ЛЮБІЎ...

За ўвесь грэшны свет й вялікі — не судзі...
І не еў бы, і не піў бы, каб любіў.
Чорны бровы — не ў размовы — як адзін.
Май у стэпе: палыны ўсе разбудзіў.

Я ніводнай з тваёй ласкі не забыў.
Звугалелыя боль-крыўды астудзіў.
І не еў бы, і не піў бы, каб любіў.
Чорны бровы не ў размовы — як адзін.

За ўвесь грэшны свет й вялікі — не судзі...
Я ніводнай з тваёй ласкі не забыў.
Звугалелыя боль-крыўды астудзіў.
І не еў бы, і не піў бы, каб любіў.

Чорны бровы не ў размовы — як адзін...
За ўвесь грэшны свет й вялікі — не судзі.

# НЕ НА ЎЦЕХУ СЛАВА, КАЛІ НЕ З ДАБРА

Не на ўцеху слава, калі не з дабра.
Родная — чужога пад вянец вядзе.
Месяца на небе — цёмная пара:
Клікаці да Бога?! Ці склікаць людзей?!

Макам самасейным — доля на градзе:
Так святыя ў пекле ўспамінаюць рай,
Так ад сонца промні па грудзі ў вадзе,
Так сіротна зоркам ля майго двара.

Месяца на небе — цёмная пара.
Родная — чужога пад вянец вядзе.
Не на ўцеху слава, калі не з дабра:
Клікаці да Бога?! Ці склікаць людзей?!

Так сіротка зоркам ля майго двара...
Месяца на небе — цёмная пара.

# КАРЧМАРУ СТАРОМУ ВЕК ЗМАЛОДЗІЎ СЭРЦА

Карчмару старому век змалодзіў сэрца:
Не да сну ў каляды, кожнай дзеўцы — рады.
Смеху — многа спеху, жартам — мала перца.
Што ж цяпер казаці? Што ж цяпер парады?

Вось такое дзіва, вось такія праўды:
Карчмару старому — ноч каротка ў сенцах,
Пацвяляцца спрытам халасцяцкім рады.
Грыміць громам сэрца, дрыжыкі ў каленцах:

Як пусціла корань сохлае паленца,
Як зімой хто поле ледзяныя грады,
Як рассыпаў зоркі маладзік з акенца.
Вось такое дзіва, вось такія праўды.

Куды вецер вее — туды голле гнецца...
Карчмару старому век змалодзіў сэрца.

## ШЫРОКІЯ ТРАВЫ — ВУЗКІЯ Ў ПРАКОСАХ

Шырокія травы — вузкія ў пракосах:
Скураныя боты й шоўкавы платочак.
Да тваіх прыносіў маладзенькіх косак.
Цябе ж не засватаў, што з князёвых дочак.

Восем дзён згарачыў, не даспаў сем ночак.
Перапіў вачыма сем расяных росаў.
Выграніў гасцінец — залаты пярснёчак...
Вечара праз вечар — сіняя палоса.

Шырокія травы — вузкія ў пракосах:
Скураныя боты й шоўкавы платочак
Да тваіх прыносіў маладзенькіх косак.
Цябе ж не засватаў, што з князёвых дочак.

Хто ж каго пакінуў, міленькая, з носам?..
Шырокія травы — вузкія ў пракосах.

## ЧАМУ КОНЬ НЕ П'Е, КАПЫТАМІ Б'Е?

Чаму конь не п’е, капытамі б’е,
Скача над вадой рыссю маладой?
Думай сам сабе, зведай сам сябе,
Як стаіш адзін ля царквы святой.

Восені — раздол. Памяці — прастол...
Вызнай сам сябе. Зведай сам сябе.
Пачакай! Пастой! Ты мне той й не той.
Словы — не ў жальбе. Сэрцы — не ў дзяльбе.

Запытай сябе. Разгадай сябе,
Як стаіш адзін ля царквы святой.
Вёсны — не ў дзяльбе. Лёсы — не ў жальбе.
Слёзы — пехатой й ростанню-хадой.

Чаму конь не п’е, капытамі б’е?..
Думай сам сабе. Зведай сам сябе.

## ЛЮБІЎ — ДЫ НЕ ЎЗЯЎ

Любіў — ды не ўзяў. Вузелам звязаў.
Жаласць — прытуліў да худых плячэй.
Гнуткая лаза. Горкая сляза.
Каменю з таго ў грузе — не лягчэй.

Радасць — ад вачэй. Смутак — да начэй.
Любіў — ды не ўзяў. Вузелам звязаў.
Жаласць — прытуліў да худых плячэй.
Не вярнуць назад. Не гукнуць назад.

Каменю з таго ў грузе — не лягчэй.
Горкая сляза. Гнуткая лаза.
Радасць — ад вачэй. Смутак — да начэй.
Любіў — ды не ўзяў. Вузелам звязаў.

Сэрцы два: ўрашчэнт. «Ростань, што яшчэ?»
Вечнасці з таго вечыць — не лягчэй...

# КОНЬМІ ВАРАНЫМІ — ВЕЧАР ЛЯ ВАЧЭЙ

Коньмі варанымі — вечар ля вачэй:
Не гняві, міленькі, Бога і людзей,
Што з твайго пагляду: памяці — ярчэй,
Што, як ты — такога: не сустрэць нідзе.

Не пужай, міленькі, Бога і людзей:
Што адмовіў зоркам — гэтулькі начэй,
Што прытульваў холад да агню грудзей,
Што разлука ў сэрца болем не пячэ.

Коньмі варанымі — вечар ля вачэй:
Слухайся, міленькі, Бога і людзей.
Грузкі груз — трывогі ля вясны плячэй.
Палыном зялёным палыновіць дзень.

Што на смутак, родны, здумаеш яшчэ?!.
Коньмі варанымі — вечар ля вачэй.

## НЕ ГАРДУЙ ТЫ МНОЮ — БЫЦЬ ТАБЕ ЗА МНОЮ

Не гардуй ты мною — быць табе за мною:
Тваё гардаванне ў мяне — пад нагамі.
Не вадзі размовы за маёй спіною.
Божаныя людзі мудрымі багамі.

Двума паўнаводзяць рэкі берагамі.
Не ўталіць пустыню ліўневай вадою.
Зоркі не збадаеш месяца рагамі.
Грэшнаю дарогу — не прайсці святою...

Ружавыя кветкі ружацца вясною.
Тваё гардаванне ў мяне пад нагамі.
Не вадзі размовы за маёй спіною.
Божаныя людзі мудрымі багамі.

Не гардуй ты мною — быць табе за мною...
Не вадзі размовы за маёй спіною.

## ГУКНУ ДА КОСЮ З БЕЛАЮ ГРЫВАЙ

Гукну да косю з белаю грывай:
Бі капытамі. Стань пад вароты.
Зелена — ніва. Пеніцца — піва.
Вязі дарункі: персцень і боты

Той, што сказала: «Злюбіцца потым».
Дарога ў Слуцак звеку шчасліва
І праз нядзелі, і праз суботы...
Едзь за казачкі, горда-маўклівай,

Той, што хацела: быць найшчаслівай.
Позна — дарункі: персцень і боты.
Зелена — ніва, пеніцца — піва.
Што ж ты, мой косю, мінуў вароты?!

Б'еш капытамі? Белішся — грывай?..
Дзе ж ты, казачка: смела-жартліва?

## ЗОРКАМІ ПРАЗ ЦЕНЬ ВОБЛІК ТВОЙ РАСЦЕ

Зоркамі праз цень воблік твой расце.
Між якіх людзей, дзе ты сёння, дзе?
Век — пакарацеў, мудрасці схацеў.
Зімна зноў вадзе, а цябе — нідзе.

Боль адсірацеў, памяць сум прадзе.
Смех чуваць гасцей. Час — як грамацей.
На слязы судзе сведак — анідзе.
Лебядой густой маладосць цвіце.

Век пакарацеў. Мудрасці схацеў.
Боль адхаладзеў. А цябе — нідзе.
Зоркамі праз цень воблік твой расце.
Між якіх людзей, дзе ты сёння, дзе?

Час — як грамацей. Смех чуваць гасцей...
Зоркамі праз цень воблік твой расце.

## ОЙ, ЦІ ЎЗЫДЗЕ, ЦІ НЕ ЎЗЫДЗЕ МАЛАДЗІК РАГАТЫ?!

Ой, ці ўзыдзе, ці не ўзыдзе маладзік рагаты?!
Калі верыш — гордым словам вусны частаваны.
Калі праўдзіш: не разлаціш свае думкі ў латы.
Ой, ці прыйдзе, ці не прыйдзе ранак праз
туманы?!

Ой, каго абраў абраннік, малады й каханы?!
Як вясёлы кожны вечар — з сямі чарак святы.
Калі верыш — гордым словам вусны частаваны.
Калі плачаш горка-горка: сэрцам вінаваты.

Як злуешся — спрэчкі-звады не высмечвай з
хаты.
Мой н410родны, мой нямілы, й зоры маюць раны.
Ой, ці ўзыдзе, ці не ўзыдзе маладзік рагаты?!
Ой, ці прыйдзе, ці не прыйдзе ранак праз
туманы?!

Калі верыш — гордым словам вусны
частаваны...
Ой, каго абраў абраннік, малады й каханы?!

## ПАДМАНУЎ САМОГА САМ СЯБЕ ЯЎСЕЙ

Падмануў самога сам сябе Яўсей:
Сёмая нядзеля — як гасцей няма.
Прыварожкі ў рожкі сёння словы ўсе.
Сватаецца ў холад да цяпла зіма.

За сябе самую плача ноч сама.
Калі любіш верна — сумуй пакрысе.
Спачуваць такому, людзечкі, дарма:
Калі тлум на сэрцы — то ў жыцці — кісель.

Калі словы — праўда, думак — грыбасей.
Сёмая нядзеля — як гасцей няма.
Падмануў самога сам сябе Яўсей.
Сватаецца ў холад да цяпла зіма.

Прыварожкі ў рожкі сёння словы ўсе...
Калі любіш верна — сумуй пакрысе.

## ВАРТАЕ ШТО СМЕХУ — СТАЛАСЯ ЎСУР'ЁЗ

Вартае што смеху — сталася ўсур'ёз.
Як любіў — кахаю — й Богу адкажу.
Высцелі, случанка, дыванамі лёс.
Не адмежыць сэрцам ад віны мяжу.

Як любіў — кахаю — й Богу адкажу.
Праўдзе — не збаяцца гневу і пагроз,
Рассыпаць пяскамі: чорную ілжу.
Залаты ў калядах — памяці мароз.

Высцелі, случанка, дыванамі лёс.
Як любіў — кахаю — й Богу адкажу.
Вартае што смеху — сталася ўсур'ёз.
Не адмежыць сэрцам ад віны мяжу.

Праўдзе — не збаяцца гневу і пагроз...
Залаты ў калядах — памяці мароз.

## ЦЕНЯМІ Ў ЦЕНІ — НОЧ ПА СЦЯНЕ

Ценямі ў цені — ноч па сцяне.
Лягу як спаці — цяжка ўздыхаю:
На тваё — выйшла, на маё — не.
Тую, што ўведаў — болей не знаю.

Тую, што ўкняжыў — не адгукаю.
Радасць адыдзе. Боль адміне.
Голас каханкі ў хоры шукаю.
Плача, як каня, раніца ў сне.

Ценямі ў цені — ноч па сцяне.
Тую, што ўведаў — болей не знаю.
Радасць адыйдзе. Боль адміне.
Тую, што ўгневіў, не адгукаю.

На тваё — выйшла, на маё — не...
Ценямі ў цені — ноч па сцяне.

## САМ БОГ ТОЕ ЗНАЕ, КАГО — ХТО КАХАЕ

Сам Бог тое знае, каго — хто вяртае.
Будзь, мілы, здаровы. Такія знай словы.
Каго — хто кахае, сам Бог тое знае.
Стары сум адвеку, нярадасна-новы.

Насечаны дровы. Счарнелыя бровы.
Пра лёс: кожны дбае, ля воч: май трымае.
Дарогі — разлогі. Трывогі — абновы.
Сам Бог тое знае, каго — хто кахае.

Сам Бог тое знае — хто й як забывае.
Будзь, мілы, здаровы! Такія знай словы.
Сам Бог тое знае каго — хто вяртае.
Счарнелыя бровы. Трывогі — абновы.

Сам Бог тое знае — чый боль прамінае...
Зазюля кувае. Сто вёснаў гукае.

## СЛУЦКІЯ Ў СУБОТУ КНЯЖЫЯ МАНЕРЫ

Слуцкія ў суботу княжыя манеры.
І ў чужых, і ў родных пазычаюць грошы.
Бярозавым прутам б'юцца кавалеры.
Кожны — неслухмяны, кожны — нехарошы.

Дождж абуў на лузе мокрыя галошы.
Вырай піша ноты на вякоў паперы.
І ў чужых, і ў родных пазычаюць грошы.
Вечнасць расчыняе праз верасень дзверы.

Бярозавым прутам б'юцца кавалеры.
Казачок — мізэрны, твар — з пяці гарошын.
Слуцкія ў суботу — княжыя манеры.
Дождж абуў на лузе мокрыя галошы.

Бярозавым прутам б'юцца кавалеры...
Слуцкія ў суботу — княжыя манеры.

## СІНІЯ ВАЛОШКІ АДСІНЕЛІ Ў ЖЫЦЕ

Сінія валошкі адсінелі ў жыце:
Позна, любы, позна. Зоркі свецяць — розна.
Богам не бажыце. Грэхам не грашыце.
Напаслед каханню не глядзіце слёзна.

На душы — парожна. І ў крыві — марозна.
Судом не судзіце. Смехам не смяшыце.
Вечар вербалозны. Туманам — пагрозна.
На калінах спелых восень не тушыце.

Пра бяду чужую кляты не кажыце.
Зоркі свецяць — розна. Позна, любы, позна.
Сінія валошкі адсінелі ў жыце.
Вечар вербалозны. Туманам — пагрозна.

Позна, любы, позна. Зоркі свецяць —
розна...
На душы — парожна. І ў крыві — марозна.

## СЛУЦКІЯ Ў СУБОТУ КНЯЖЫЯ МАНЕРЫ

Слуцкія ў суботу княжыя манеры.
І ў чужых, і ў родных пазычаюць грошы.
Бярозавым прутам б'юцца кавалеры.
Кожны — неслухмяны, кожны — нехарошы.

Дождж абуў на лузе мокрыя галошы.
Вырай піша ноты на вякоў паперы.
І ў чужых, і ў родных пазычаюць грошы.
Вечнасць расчыняе праз верасень дзверы.

Бярозавым прутам б'юцца кавалеры.
Казачок — мізэрны, твар — з пяці гарошын.
Слуцкія ў суботу — княжыя манеры.
Дождж абуў на лузе мокрыя галошы.

Бярозавым прутам б'юцца кавалеры...
Слуцкія ў суботу — княжыя манеры.

# СІНІЯ ВАЛОШКІ АДСІНЕЛІ Ў ЖЫЦЕ

Сінія валошкі адсінелі ў жыце:
Позна, любы, позна. Зоркі свецяць — розна.
Богам не бажыце. Грэхам не грашыце.
Напаслед каханню не глядзіце слёзна.

На душы — парожна. І ў крыві — марозна.
Судом не судзіце. Смехам не смяшыце.
Вечар вербалозны. Туманам — пагрозна.
На калінах спелых восень не тушыце.

Пра бяду чужую кляты не кажыце.
Зоркі свецяць — розна. Позна, любы, позна.
Сінія валошкі адсінелі ў жыце.
Вечар вербалозны. Туманам — пагрозна.

Позна, любы, позна. Зоркі свецяць —
розна...
На душы — парожна. І ў крыві — марозна.

## БРОВЫ ЧОРНЫЯ — ЯК ВУГАЛЬ У ПРЫПЕЧЧЫ

Чалавечы сум расстання, чалавечы:
Не сіротны ён — вачыма не ўдавелы.
Не скалечыў ён душу, не анямечыў.
Яблык соладу надзеі — пераспелы.

Адбалелы боль маўчання, адбалелы.
Бровы чорныя — як вугаль ў прыпеччы.
Сёння снег прачнуўся, белы-перабелы.
Чалавечы сум расстання, чалавечы:

Не скалечыў ён душу, не пакалечыў.
Адбалелы боль былога, адбалелы.
Чалавечы сум расстання, чалавечы:
Сёння снег прачнуўся, белы-перабелы.

Бровы чорныя — як вугаль у прыпеччы...
Чалавечы сум расстання, чалавечы.

## ПРЫСЯГАЛА І БОГАМ, І ТАБОЙ, І ЛЮДЗЬМІ

Прысягала і Богам, і табой, і людзьмі:
Не з чужых нагавораў — з маладой галавы.
Ратавала каліну ад пажараў слязьмі.
Наспытала каханнем палыновай травы.

Пераплавіла ў зоры свечкі з белай царквы.
Расставалася ў ростань, як княгіня з князьмі.
Горкі след за табою вырастаў з муравы.
Вырай з небам асеннім на дарогу вазьмі.

Прысягала і Богам, і табой, і людзьмі:
Наспытала каханнем палыновай травы.
Ратавала каліну ад пажараў слязьмі.
Не з чужых нагавораў — з маладой галавы.

Расставалася ў ростань, як княгіня з князьмі...
Прысягала і Богам, і табой, і людзьмі.

2—1225

## СМЕХ ЧУЖЫ, ЯК ДЫМ, ЗВЕЕЦЦА Ў ПЯСОК

Смех чужы, як дым, звеецца ў пясок.
Сем раз не сядзі не ў сваім сядле.
Звонкі галасок. Вечар праз лясок.
А ў малойца, знаць, бедна — на стале,

Што з чужых кішэнь дастае талер...
Белы каўнярок. Жоўты паясок.
А ў малойца, знаць, памяць — на вузле,
Што глядзіць сем раз няпраўдзіва ў бок.

Смех чужы, як дым, звеецца ў пясок:
А ў малойца, знаць, коней — не стае.
Што пайшоў з вачэй босым праз лясок.
І згубіў любоў, раздарыў талер.

Смех чужы, як дым, звеецца ў пясок.
Знік казак з вачэй — праз густы лясок.

# АД ВАРОТАЎ —
# ПРАЗ МОСЦІЧАК

Ад варотаў — праз мосцічак:
Да лазы і арэшыны
Адыходзіў мой госцічак,
Малады, ненагрэшаны,

Сам сабою насмешаны,
Казачок, з кіпець — росцічак.
Зоркі ўсе з ім — разгледжаны,
Вішні ўсе з ім — без костачак.

Ад варотаў — праз мосцічак,
Добрым словам усцешаны,
Адыходзіў мой госцічак,
Сам сабою насмешаны,

Казачок, з кіпець — росцічак...
Сямікнязем — той госцічак!

## ЗА ЯРЫЦАЙ, ЗА ПШАНІЦАЙ

За ярыцай, за пшаніцай
Случы матчынай выток.
Там — вясной не навясніцца,
Там — азёрны капыток,

Спеліць жыта васілёк,
Звонка цінькае сініца,
Зоры зораць вугалёк.
Там — гара стаіць гарыцай:

Там хацеў казак жаніцца,
Заснаваць сямейны ўток,
Шчасцем смагна наталіцца,
Збудаваць хаціну ў толк.

Там хацеў казак жаніцца...
За ярыцай, за пшаніцай.

## ВЕЧАР ВОСЕНІ — ДАЎГІ

Месяц звострыць два рагі,
Расчужэлы да мілосці:
Вечар восені — даўгі.
Жаль, шкада той маладосці,

Што згасціла ў воўчы госці,
Мой нягодна-дарагі,
Раздалёкі да былосці.
Судзяць грэшнікаў багі.

Боль — сцяжэлы ад тугі,
Разгарчэлы да гаркосці,
Мой нягодна-дарагі,
Раздалёкі да былосці.

Вечар восені — даўгі...
Месяц звострыць два рагі.

## ДАСЦЬ БОГ ДОБРЫ ВЕЧАР І ГАСЦЕЙ У ХАЦЕ

Дасць Бог добры вечар і гасцей у хаце...
З маладой крушыны ўспеніцца віно:
Дзе цябе шукаці? Дзе цябе гукаці?
Хай благое ўтоне, скоціцца на дно.

Не хапае ў радасць скрыпачкі адной.
Ад каго забраці, як адмайстраваці?!
Пазірну на ружы праз вясны акно.
Майстра-час згукнецца з ратавальнай раці:

Дзе любоў шукаці? Дзе любоў гукаці?
Як хадзіць праз Вечнасць памяці адной?
Дасць Бог добры вечар і гасцей у хаце.
З маладой крушыны ўспеніцца віно:

Дзе цябе шукаці? Дзе цябе гукаці?..
Хай разлука ўтоне, скоціцца на дно.

## НЕ ПА ЛЮБОВІ — З КАХАНАЙ КАХАЎСЯ

Як мне вясёлым і радасным быці?!
Божанька, божа, па кім дзень удаўся?!
Каго змілоўваў — няміла забыці:
Не па любові — з каханай кахаўся.

Доляй з нядоляю нагасцяваўся.
Вочы ў якой азярыне ўтапіці?!
Ягадай воўчаю начаставаўся.
Каго змілоўваў — няміла забыці.

Як мне вясёлым і радасным быці?!
Не па любові — з каханай кахаўся.
Чорныя ручанькі як адбяліці?
Доляй з нядоляю нагасцяваўся.

Як мне вясёлым і радасным быці?!.
Каго змілоўваў — няміла забыці.

## ПЕСНЯЙ ДОЛЮ СВАЮ ДОЛЮ

Галадзіцай-галадою
Мяне доля гадавала.
Дым-агнём і лёд-вадою
Цалавала, абдымала.

Да вачэй слязу гукала,
Лебядзіцай-лебядою
Хлеба з соллю не давала.
Сураўніцай-суравою,

Мураўніцаю-травою
Цела ў вёсны малявала.
За бядой ішла бядою:
І шчаслівай летам стала.

Песняй долю сваю долю...
Ёй санет пішу ў спатолю.

## А ШТО ГЭТА ЗА СЛУЧАНКА — ЛЮБЛЮ І ЛЮБІЎ?

А што гэта за саколе — што без крыл ляціць?
А што гэтакі за месяц — зоркі запаліў?
А што гэта за квет вішні — як званы — звініць?
А што гэта за случанка — люблю і любіў?

А што гэта за лёд першы — сам сябе разбіў?
А што гэта за каліна — чырванню гарыць?
А што гэта за случанка — забыць не забыў?
А што гэта за саколе, што без крыл ляціць?

А што гэткая за памяць — ранаю шчыміць?
А што гэта за случанка — люблю і любіў?
А што гэта за саколе — што без крыл ляціць?
А што гэта за лёд першы — сам сябе разбіў?

А што гэтакі за Слуцак — праз вякі глядзіць?..
А што гэткае за жыцце — не ў мілосці жыць?!

## БРАТАВУ БЯДУ — ПАЛЬЦАМ РАЗВЯДУ

Братаву бяду — пальцам развяду,
А сваю — да солкіх дзён — збядую.
Завару палын на агні з ільду.
Лодку — з сохлых чаратоў — зладую.

Сёстраву вясну — адмаладую.
Да расяных траў зоркі пакладу.
Святы ў аднагосць перасвяткую.
Плач — русалчын боль — у вадзе знайду.

Мора-акіян бродам перайду.
На піры князёў — адгаладую.
Братаву бяду — пальцам развяду,
А сваю — да солкіх дзён — збядую.

Завару палын на агні з ільду...
Мора-акіян бродам перайду.

## КАЗАКА ЎДАВІЦЫ ПАКАХАЛІ ЎТРОХ

Бела-сівы голуб да арлоў зляцеў.
Вечар каля брамы. Дарога ля ног.
Хітрая прыласка — з чатырох масцей.
Казака ўдавіцы — пакахалі ўтрох.

Не саром іх, Божа, збарані іх, Бог!
Зоркі свецяць зоркам. Цень ступае ў цень.
Восень на балоце журавініць мох.
Казак і ўдавіцы — весць каля вясцей:

Любові чатыры ў адной жалкаце.
Не саром іх, Божа, зберажы іх, Бог!
Ростані чатыры ў адной гаркаце.
Восень на балоце журавініць мох.

Сэрцайкі чатыры ў адной сумаце...
Бела-сівы голуб да арлоў зляцеў.

## ЦІ КАНЯ НЕ МЕЎ, ЦІ ДАРОГ НЕ ЗНАЎ?

Ці каня не меў, ці дарог не знаў,
Што зара — не ўстала?
Ці без воч глядзеў, ці не так кахаў,
Што любоў — прапала?

Ці вады не піў, ці слёз не сушыў,
Што адрокся Бога?
Ці ў падман сябе, ці ў разлад душы,
Што любоў — астрогам?

Ці сяброў не меў, ці ў пустыні жыў,
Што ад долі — бегам?
Ці святло ўчарніў, ці ноч адбяліў,
Што любоў — паспехам?

Што на цень — слязьмі? Што на дол —
грудзьмі?..
Што з бядот — сямі?

## БАГАТАМУ — ЦЯЖКА БЕДНУЮ ЛЮБІЦІ

Багатаму — цяжка бедную любіці,
Зоркі на далоні Вечнасці разліць...
Час — прасіць парады, як далей пражыці,
Шчырасцю случанскай крыўды адгаіць.

Час — прасіць пасагу. Сэрца пакарыці.
Час — вясны з паглядаў любае адпіць.
Багатаму — цяжка бедную любіці.
Не дазволь, Каханне, некаханым быць.

Памажы, казачка, песню даспяліці,
Зоркі на далоні Вечнасці разліць.
Багатаму — цяжка бедную любіці.
Не дазволь, Каханне, некаханым быць.

Час прасіць пасагу, сэрца пакарыці...
Час прасіць парады, як далей пражыці.

# ЗНІКЛА, ЗРЫНУЛА ЧОРНАЕ З ВОЧ

Знікла, зрынула чорнае з воч,
Адкаснулася — смела — ад долі.
Не з любові — благое. Знароч.
Пераболены болі да болі.

Перасолена солень да солі.
Пераночыла выселкі ноч.
Божа! Сэрца — не зноўленай волі?!
Не з любові — благое. Знароч.

Знікла, зрынула чорнае з воч.
Адкаснулася — смела — ад долі.
Пераночыла выселкі ноч.
Восень — мудрая й дрэвамі ў голлі!

Не з любові — благое. Знароч...
Знікла, зрынула чорнае з воч!

## РАДОК САНЕТА — СВЯТАМ НА ЗЯМЛЮ!

Радок санета — святам на Зямлю!
Матулінай расквечанаю мовай!
Айчыны імем — маладосць талю.
Случанскае — з малітваў гордых! — слова.

Імгненнем Вечнасці — жыцця палова.
Высока — песні. Смагна — вёсны п'ю.
Матуліна — з усіх князёвых! — слова.
Айчыны імем — маладосць талю.

Радок санета — святам на Зямлю!
Імгненнем Вечнасці — жыцця палова.
Высока — песні. Смагна — вёсны п'ю.
Случанскае — з малітваў гордых! — слова.

Айчыны імем — маладосць талю...
Радок санета — святам на Зямлю!

# ЯН І ЯНІНА

*Случанскі вянок санетаў*

## ВЕЧАР

Дагарае смаляна лучына.
Спаць кладуцца ля траў чаўнакі.
Чым прынаджана сэрца хлапчыны,
Што ў казачку ўлюбёны такі?

Зелень-сад яго кліча штоночы.
Сны трывожыць дзявочы пагляд.
Ды бяда, што казак — сын сірочы,
Гардавіца гаворыць ля град.

Расчыняюцца засень-вароты.
Ля іх коннік спыняецца ўпотай.

Дзень цішэе, жывы, гаманкі.
Бэз пялёсткі ссыпае ў далоні.
Маладзік прыхарошвае скроні.
Вечар сіні плыве да ракі.

## ЯН І ЯНІНА

Вечар сіні плыве да ракі.
Сонца промні палошча ў азерцы.
Паўтараюць быліны вякі.
Зноў чакаюць спаткання два сэрцы.

Дзе ты, ясная зоранька, дзе?
Ян здалёку гукае Яніну —
І насустрач каханай ідзе.
Ноч прыводзіць туман у даліну.

Словы шчырыя слых беражэ.
А прызнанні — даўжэй, даражэй.

І на зоры глядзяць аблачыны.
І так светла душы ля душы.
І замоўлена клятва ў цішы:
Першы раз знае любасць дзяўчына.

## НАЧЛЕГ

Першы раз знае любасць дзяўчына.
Першы раз пакахала яна.
І, як вечнасць, стаіць за плячыма
Маладая ў абдымках вясна.

Колькі слоў самых радасных будзе —
Пра таемны на лузе начлег.
На світанні дарогу разбудзіць
Казачэнькі даверлівы смех.

Сівы конь страсяне белай грывай.
Панясе рэха ўдалеч: «Шчасліва!»

І заплачуць расой светлякі.
Лотаць жоўтая ў лузе прывяне,
Нібы зведае ўсё пра расстанне.
Першы раз яе смутак такі.

## РАЗЛУКА

Першы раз яе смутак такі...
Гуслі ж граюць вясёлыя ноты —
Гэта просіць дзявочай рукі
Знатны князь, што балюе ў суботу.

А Яніна — пільнуе акно.
Да ракі выбягае старанна.
Толькі любага там не відно:
Ані вечарам позна, ні рана.

А надзеі і сны — гарачэй:
Мой саколе, вяртайся хутчэй!

Свет нямілы Яніне без Яна.
Ды сватоў благлаўляюць бацькі.
Ім парады даюць сваякі,
А вяселле да шлюбу прыбрана.

## КАЛЯДЫ

А вяселле да шлюбу прыбрана.
Нарачонага ж Яна няма.
Зноў завея ўсхадзілася рана.
На Каляды лютуе зіма.

Лёд на рэчцы прамерзлы, настылы.
Бел-мароз размалёўвае дзень.
Князь — стары дзед — пагрозны, нямілы,
Да нявесты кульгава ідзе.

Трыццаць слуг з ім адданых, спанелых,
Да паслуг самых гідкіх умелых,

Гаспадарацъ вачмі на двары.
(Што яшчэ вам пра іх гаварыць?)
Калі думка ад гневу шчыміць...
А гасцей — на кірмаш хоць бяры.

## ВЯСЕЛЛЕ

А гасцей — на кірмаш хоць бяры.
За сталы пазаселі цясовы.
І звіняць, як вясной камары,
Іх жартоўныя песні і словы...

Месяц зоркі забраў у палон.
Дрэвам іней раздорвае россып.
Ян бяжыць да Яніны ў сяло,
Ды пад вэлюмам — русыя косы!

Ды пярсцёнак — на правай руцэ!
Пацалункаў апёк — на шчацэ...

Ноч напомніць Яніне пра Яна.
Сцісне рукі яна ў кулакі,
Стрымгалоў пабяжыць да ракі,
Ды разлукай сваёй пакарана...

## СМЕРЦЬ

Ды разлукай сваёй пакарана,
Адшукае ў пасцелі снягоў,
Стражай княжай забітага Яна...
З вуснаў хлопца халодны агонь —

Перальe ў свае вусны гарачы...
Разарвуцца вятры-невады
Ад жальбы і дзявочага плачу.
Пачарнее валун ля вады.

Гронкі чорнымі стануць каліны.
Палыном згоркне шчасце Яніны.

Сівы конь адзічэе ў бары...
Казку шэптам ляснік пераказваў,
Калі сцежку ў суніцы паказваў:
Смерць Яніна знайшла на зары.

## ВЕРНАСЦЬ

Смерць Яніна знайшла на зары.
Побач з Янам ляжыць у магіле.
Пяць вякоў з той мінула пары,
Але памяць пра вернасць не гіне.

...Паглыбела рака з болю-слёз.
Плынь спакойная стала вірамі.
Зноў зялёны, густы вербалоз
Абступае ваду берагамі.

Сонца кручы ўзяло абяруч.
І праздалі раку людзі — *СЛУЧ*.

Мы пяройдзем глыбінь па брадах,
Адшукаем сунічнік даспелы,
Чуўся голас мне боязна — смелы...
Колькі згадак размыла вада!

## НА СЛУЧЫ

Колькі згадак размыла вада?
Пад сасной булькатала крыніца,
А блакітная летняя даль
Чырванела ад спелых суніцаў.

Ружа-кветка цвіла на шчацэ.
Цень ад лодкі кранаўся прадоння...
Я не ведала там, на рацэ,
Што ляснік мне падораны доляй.

О, кахання святло-міражы!
Раскажы, лёс, пра ўсё раскажы!

Пра маёвую квецень згадай,
Адшукай шчасця згублены дзень,
Прытулі маладосць да грудзей...
Колькі жыццяў згубіла бяда!

## НОЧ НА КУПАЛУ

Колькі жыццяў згубіла бяда!
Паўтарала вярба па-над кручай.
Там ляснік на рамонках гадаў.
Наракаў мяне любай ля Случы.

Нечаканай маланкі крыссё —
Затуліла зямлю, змоўклі мары.
Ты запомні, запомні пра ўсё:
Біўся гром аб высокія хмары.

Я глядзела, як лівень бяжыць,
Як струмень яго кожны дрыжыць.

Дождж не ведаў ратунку-збавення.
Мы сушылі намоклы агонь,
Сагравалі ў далоні далонь...
Вечнасць выкрала ночы імгненне.

## ПЕСНЯ ПРА ЯНА І ЯНІНУ

Вечнасць выкрала ночы імгненне...
Ручаі абмінулі дзірван.
Развіталіся з дрэвамі цені.
Сталі песняй Яніна і Ян.

Толькі два астраўкі, як блізняты,
Сярод мелі пясчанай маўчаць,
Нібы гэта яны вінаваты,
Што жывым трэба зведаць адчай.

Нібы слова не чулі: «Каханы!»
Не загойвалі памяці раны.

Сум сапраўдны баіцца жальбы...
Але зноў просяць піць смагна кані.
І дзяўчынак завуць звонка — Яні!
Кружаць парамі зноў галубы.

## ВЯРТАННЕ

Кружаць парамі зноў галубы.
Зноў ляснік ласянят даглядае.
Ён юнацтва свайго не забыў —
Летам папараць-кветку шукае.

Я прыйду ў лес сунічны, прыйду,
Каля хаткі бабровай спынюся.
І дзве ягады спелых знайду.
Да цябе, незваротны, вярнуся.

Знаю, Случ не цячэ пад гару.
Знаю, лівень не тушыць зару.

Ды й цябе, родны, нельга забыць.
І сінь-рэчанька морам не стане.
І для ўсіх паўтарае каханне:
Трэба змоладу верна любіць!

## ПАМЯЦЬ

Трэба змоладу верна любіць —
Мне бабуля ў дзяцінстве казала.
Азярынай бы час той разліць,
Сцежку ўбачыць, што лёс мой звязала.

І шырокім прасторам лягла.
І не знае ў душы паралеляў.
Як даўно я ля Случы была!
Як даўно я не рвала лілеяў!

Пагукай мяне, дзе ты, ляснік?
Ды святлее, маўчыць маладзік.

І навокал такое зняменне...
Будзе белым каліна цвісці,
Снегам сталасць да скроняў ісці
І вясну сустракаць, як здзіўленне...

## МОВА

І вясну сустракаць, як здзіўленне,
Будзе кожненькі зелень-лісток.
Мова, колькі ў цябе пакаленняў,
Дзе бруіцца твой славы выток,

Дзе заўчора-звячора гавораць,
Дзе агонь пагарае-гарыць,
Дзе дзяўчаты вячоркі сну дораць,
Дзе ў зязюленькі крылца баліць?!

Край случанскі — праменьчык
Радзімы,
Ты былінны, таемны і дзіўны!

Пакуль мамы пяюць калыханку
І вітаюць буслы новы дзень,
*Мая Мова, ідзі да людзей:*
*Ад святла да начы і да ранку!*

# МАГІСТРАЛ

Дагарае смаляна лучына.
Вечар сіні плыве да ракі.
Першы раз знае любасць дзяўчына.
Першы раз яе смутак такі.

А вяселле — да шлюбу прыбрана.
А гасцей — на кірмаш хоць бяры.
Ды разлукай сваёй пакарана,
Смерць Яніна знайшла на зары.

Колькі згадак размыла ва́да.
Калі жыццяў згубіла бяда?!

Вечнасць выкрала ночы імгненне.
Кружаць парамі зноў галубы.
Трэба змоладу верна любіць.
І вясну сустракаць, як здзіўленне!

# ПЛЫВЕ ЧОВЕН, ВАДЫ ПОВЕН

*

Плыве човен, вады повен,
Да ракі-Дунаю...
Хто каму ў каханні ровен?
Песню запытаю.

Ой, малода, ружы доня,
Дзве касы ільновы,
Незгадана твая доля.
І — вясновы словы.

Плыве човен, вады повен,
Тонуць вёслы ў лозах.
Хто каму ў каханні ровен?
Запытаю розум.

Ой, малода, ружы доня,
Дзве касы ільновы.
Незгадана твая доля.
І — вясновы словы.

Плыве човен, вады повен.
Знікла дно клянова...
Хто каму ў каханні ровен?
Берагі нанова

Паўтараюць: ой, дзявоня,
Ой, малода-кветка,
Тваёй долі, ружы доня,
Човен той быў сведкам...

*

З вечара да рана я чакала Яна.
Хлопца размілога, росту прымалога.
Пад высокім вязам веснавалі разам:
Вочанькам да вока, каб глядзець далёка...

З вечара да рана я чакала Яна.
Май зялёны, росны. Я ж зусім дарасла.
Ды без дай прычыны не было хлапчыны:
Ці спалохаў вецер, ці дружка прывеціў?

З вечара да рана я чакала Яна.
Зеллейка варыла, словы гаварыла:
Прылятай, саколе, да сваёй саколы
Праз вяршыні-горы і лясныя долы!

---

З вечара да рана я чакала Яна.

*

А на ясным небе цёмна хмара ўстала.
На мяне, дзяўчыну, ды няслава ўспала.
Не кляні, матуля, не ганьбуйце, людзі,
Што майго вяселля ды вясной не будзе.

Варажбе не веру. Рана рута звяла.
Чараваць не ўмела — казака кахала.
Ды друга малода яго вішні-вочы
Даспяліла ласкай, дацямніла ночы.

Да каня гнядога той казак вяртаўся.
І вяртаўся ў памяць, і ў слязу вяртаўся.
А на ясным небе цёмна хмара ўстала,
На мяне, дзяўчыну, ды няслава ўспала...

*

Учора не быў ён. І сёння не быў.
А заўтра — далёка паедзе.
Дарогу да вуснаў мой любы згубіў:
Сябе ля мяне не разгледзеў.

І што хмель заручын, і сваццi ручнік,
Прыпеўкі-насмешкі: з гаркотай?!
Нібы маладзік, казачэнька той знік.
І ценем зрабіўся ля плоту.

Учора не быў ён. І сёння не быў.
Туман рассцілаўся так нізка.
Дарогу да вуснаў моў любы згубіў,
Хоць сэрцам падходзіў так блізка.

*

Не хваліся, казачэнька, кучаравым чубам
І яшчэ слаўцом-прыманкай: тым, што буду
любай.
Не табе мае дарогі упадуць пад ногі.
На дваіх, малод вясёлы, гэты вечар строгі.

3—1225

Не прыручвай, Не прывучвай да абдымкаў:
казкі,
Адлятай у песню-далеч, сокал, калі ласка.
Не хваліся, казачэнька, кучаравым чубам.
Я другому пад вярбою прашапчу: «Мой любы...»

Але, ведай напаследак за табой, казача,
Случ у Прыпяць прыцякае і ў паводку плача:
Не мялее, а глыбее, плынь з вірам вянчае —
Маладосці-краснагосці бераг прыкмячае!

*

Месяц узыходзіў, як млынова кола.
Светлякі пісалі на траве: «Мі-ко-ла».
Над імя — складамі, над імя — гадамі:
Памяць, як прыслуга, па пятах за намі.

Ясны мой саколе, свеце мой пахмуры,
Сеялі мы вецер, а пажалі буру.
Нагаворы робяць злыя людзі, знаю.
Колькі дзён мінула — я ж мацней кахаю.

Месяц узыходзіў, як млынова кола.
Светлякі пісалі на траве: «Мі-ко-ла».

*

Пакаціўся туман па даліне.
Прызнаваўся хлапчына дзяўчыне.
Першы раз дакранаўся да слова:
Я кахаю! — звінела вяснова.

Ападалі пялёсткі дадолу.
Ноч вяла іх, шчаслівых, дадому.
І ля кожнай расіны-сцяжыны
Зацвіталі дзве кветкі-ажыны.

Пакаціўся туман па даліне.
Спалі два галубы на галіне.
Вышывала святочную блузку.
Песня лашчыла па-беларуску.

*

— Плылі гусі, плылі гусі...
— Чалом — песням Беларусі!
— Ой, у лузе-сухалозе...
— Не жыві, век, у пагрозе.

— Ляціць галка цераз балку...
— Ведай, доня, Мову змалку.
— Стаяць вербы над вадою...
— Доня, будзь ва ўсім сабою!

— На гары лён чыста-белы...
— Пра любоў кажы нясмела.
— Ляцеў голуб па-над морам...
— Праўду паўтарай і зорам.

— Цякла рэчка з-пад маста...
— Лёсам, доня, не прыстань.
— Зайшоў вечар за аконца...
— Не згубі святла ад сонца.

---

Маці доню гадавала...
Калыханкі напявала.

# ДЗЕНЬ ЗНАСІЎ СЕМ ЧАРАВІКАЎ

---

*Калыханкі-случанкі*

*Для Кацi і Алеся Атрашкевічаў*

## ПАЙШОЎ ВЕЧАР-СЛУЧ ДА МІНСКА

Пайшоў вечар-Случ да Мінска.
Калыханак панёс нізку.

Па дарозе — развязаў.
І ўсім дзецям — расказаў.

Напаўголаса іх спеў.
Раніцай — дамоў паспеў.

Вось што могуць *случары!*
Спіце, дзеці, да зары.

*Калыханачка-случанка,*
Ночы мудрая маўчанка,

Беражніца гукаў-слоў,
Заўтра ў Мінск вяртайся зноў.

Люлечкі-люлі. Люлечкі-люлі.
Сны ўсе зоркі — выпілі!

## СОН,
## НЕ МНІ ПАДУШКІ

Сон, не мні падушкі
Ля маёй дачушкі,

Не цвяліся вельмі.
І не грукай дзвермі,

Бо няма прычыны...
Спяць хто — малайчыны.

За два залатыя —
Казачкі даўгія.

За дзін рубельчык —
Зораў карабельчык.

За адзін даларчык —
Сноў дзіцячых ларчык.

На летнюю ночку
Абдымаю дочку.

Раз, два і раз сорак.
Добрай ночы, зморак!

Сон, не мні падушкі
Ля маёй дачушкі,

Стражам стань, ахоўвай,
Добрай ночы — словам!

Баю-бай, засынай...
Што благое — праміняй.

## ДОБРАЙ НОЧЫ, ХЛЕБЕ!

З працай-сяміручкай
Зналася Случ-Случка.

З раніцы да ночкі
Званіла ў званочкі.

Росанькі — бяліла.
Жытанька — спяліла.

З казкай — засынала.
Зоркі — калыхала:

Па адной на небе.
Добрай ночы, *хлебе!*

З працай-сяміручкай
Зналася Случ-Случка.

Баю-бай, дзяўчынка!
Засні, Кацярынка.

## ВОСЬ ЯК ЗА-СЫ-НА-Ю

Пашыю панчошку
Вераб'ю на ножку.

Да дзіцячых цельцаў
Прывяду ноч з сенцаў.

З сонца — нітак напраду.
З месяца — зраблю дуду.

І на ноч зайграю.
Вось як за-сы-на-ю...

Без ласунку і ўгаворак
Сню пра кожненькую з зорак,

Што да ранку свеціць.
Засынайце, дзеці!

Пад дудачку — гранне,
Дню на развітанне.

Ноч ідзе праз сенцы.
Дзеці, родны сэрцы,

Спіце ў калыбельцы
На белай пасцельцы.

Баю-бай. Засынай.
Што благое — прамінай.

## ДОБРАЙ НОЧЫ, ДЗЕНЬ!

За чатыры злотых
Выкупіў дзень боты.

Вечарам стаптаў.
(Што з мякіны — знаў.)

І заснуў ад гора:
(Меў цярплівы нораў.)

Добрай ночы, дзень!
Сон — каля грудзей,

Ля вачэй — дыхання.
Спіце ўсе, *случане,*

Каці і Алесі.
Ноч — у паднябессі.

Ранкам — новы чаравік
Дню падорыць маладзік,

Змайстраваны з кветак...
Сон лю-ля-е дзетак.

## ДАБРАНОЧ, ДЗЯЎЧЫНКА!

Слуцкую панчошку
Апрану на ножку.

Правую — хутчэй.
Левую — лаўчэй.

Слухаць калыханку
Сяду каля ганку.

А як прыйдзе сон —
Лягу ля акон.

Месяцу — кіўну.
Хуценька засну.

Слуцкую хусцінку
Накіну на спінку.

Правы край — да долу.
Левы край — да столу.

Слухаць *случарыны*
Любяць Кацярыны,

Казак восем просяць.
Сыплюцца сны просам:

Кожнаму — крупінка.
Дабраноч, дзяўчынка.

Ай-люлі. Ай-люлі.
Што благое — праміні.

## ПАБЕГ ДЗЕНЬ ПАД ГРУШКУ

Пабег дзень пад грушку.
З крапівы падушку

Зладзіў — і заснуў.
Казкі — абмінуў.

Слухаў іх Алеська.
Калыханак дзежка

Вырасла да неба.
Спаці, дзеці, трэба!

Ходзіць мрой дрымучы.
Спяць вякі ля Случы,

Як брацік ля брата.
Зораў — поўна хата,

Свецяцца — да столі.
Добрай, дзеці, долі!

Вырастайце ў людзі.
Сон — на поўны грудзі:

Дыхае, гуслярыць.
Ночкай — уладарыць.

Баю-баю, бай-кі!
Спяць *Случ* і *случанкі.*

## СПІЦЕ, ДЗЕЦІ, СПІЦЕ

Шэра-хітранькі ваўчок
Пераспаў за ноч бачок.

Перамуліў хвосцік —
Драпежлівы госцік.

Вые і галосіць,
Калыханак просіць —

Сярод бела дзёнца,
Што смяецца й сонца.

Воўчая натура —
Сем клыкоў і скура,

Ведае й лісічка,
Жоўтая спаднічка,

Бо ваўчка пабіла —
Піліпаўку ўсніла.

Прадала слязінку
За адну ваўчынку.

З перабітым бокам
Ваўчок скача — скокам.

Спіце, дзеці, спіце,
Пра ваўчка не сніце.

Ён схаваўся ў лесе.
Засынай, Алесік!

Баечкі-баю.
Ціхенька пяю.

## НА БАЛОЦЕ ЗАСНУЎ БУСЕЛ

Чапяла спаць не хацела.
І пабіла сваё цела —

Вугалочкам печы.
Думала аб нечым

Не гарача-цёплым...
Вечар. Ценям — цёмна.

Вугалёк калыша прысак.
Калыханак нізка нізак —

Як караліны ці бусы.
На балоце заснуў бусел.

Жабка — пры канаве.
Лета — пры атаве.

Рэха каля рэха...
Нарабіла ж смеха —

Чапяла малая.
Клічце, дзеці, Бая,

Мудрага дзядульку.
Гулі-гулі-гульку!

## СНЫ
## ЎСЕ ЗОРКІ ВЫПІЛІ

Спаці ўвечар не хачу.
Па сонейку — плачу,

Што святло — згубіла,
Промнейкі разбіла

На трынаццаць шкельцаў.
Як цяпер пагрэцца?

Разглядзець вясёлку?
Нітку праз іголку

Белую прадзеці?
Дзівакі, хто — дзеці.

Засынай, дзяўчынка,
Песта-Кацярынка,

Мая жартаўніца,
Жыццё — вучаніца.

Сонца спіць. Заснула.
Ноч здалёк гукнула.

Люлечкі-люлі!
Сны ўсе зоркі выпілі.

## БАЮ-БАЙ, СЛУЧАРЫК!

Калыханак церамок
Вечар возьме на замок.

Выдасць — па цікаўнай.
І адной — забаўнай.

Мудры Случарочак
Адамкне замочак —

Пруцікам лазы,
Рожкамі казы.

Малака нап'ецца.
Месяцу ўсміхнецца.

Мамку пацалуе,
З цацкай патанцуе.

І засне — за трох.
Так ці кожны б змог

З вас, хлапчыны-хлопцы,
Алесі-малойцы?

Баю-бай, *Случарык*,
Радасці ліхтарык!

Засынай, засні,
Зоркі — адамкні.

Баю-бай. Засынай!
Што благое — прамінай.

## ДЗЕЦІ ХУТКА ВЫРАСЛІ

Зелянее жыта.
Шоўкам поле шыта.

Каля рэчкі-Случы
Дзень схаваў абручык.

Шкоданьку ўтапіў,
Толькі дзе — забыў...

Ночку ўсю русалка,
З косамі маўчанка,

Хадуном хадзіла,
Абручык будзіла.

Карэніла лозы,
Высушвала слёзы.

Спаць — зусім не спала,
Пропадам прапала.

Вось што, дзеці, будзе,
Хто спаці — забудзе.

Ноч і дзень для тога,
Каб слухацца Бога.

Люлечкі-люлі. Люлечкі-люлі.
Дзеці хутка выраслі.

## БАЮ-БАЙ, ВЯЧОРАК

Калыханкі ля крыніцы
Сталі ўвечар ваду піці,

Каб заснулі гусі
Па ўсёй Беларусі,

Хлопчыкі й дзяўчынкі,
Хмары й аблачынкі,

Сонца і прамёны,
І прастор зялёны.

Баю-бай, Вячорак.
Дзяцей — колькі й зорак.

Засынай, малеча!
Сон упаў на плечы,

Коўдру нацягнуў,
Ля вачэй заснуў

Стражам — каля цельцаў.
Ноч — не зварухнецца,

Не скране й пярынкі.
Долі вам, дзяўчынкі!

Ні адной хмурынкі!
Шчасця вам, хлапчынкі,

Здаровейка, ладу,
Як пладоў для саду!

Баечкі-баюшкі.
Сон — каля падушкі.

## ДОБРАЙ НОЧЫ, МОЙ СЫНОЧКУ!

Пайшоў Вечар па платочку
Ды ў адзіным чабаточку.

Добрай ночы, мой сыночку!
Спі салодзенька ўсю ночку.

Пайшоў Вечар па лясочку
Ды ў чужэнькім паясочку.

Добрай ночы, мой сыночку!
Снам забаўненька ўсю ночку.

Пайшоў Вечар па пясочку
Ды ў дзіравым паясочку.

Добрай ночы, мой сыночку!
Снам раздольненька ўсю ночку.

Пайшоў Вечар па цянёчку
Ды ў адзіным лапаточку.

Добрай ночы, мой сыночку!
Снам цікаўненька ўсю ночку.

Люлі-люлі-люлькі.
Змайстравалі дудкі.

## ДЗЕЦІ, НОЧ ГУКНІЦЕ!

Насыплю пшаніцы
Поўны рукавіцы —
Хай клююць сініцы.

Знайду жыта бочку
З крыльмі галубочку,
Што сеў у цянёчку.

Ячменіку жменю
Схаваю ў кішэню,
З грабеньчыкам, пеўню.

Спелых канапелек
Сыпну з чарапенек
Вечару ў каршэнек.

Дзеці, ноч гукніце!
Проса й жыта сніце,
Галубоў карміце,

Лашчыце сініцаў
Белаю пшаніцай...
Сон — з сямі санніцаў —

Гушкае сцяну.
Хуценька — засну.

## СПЯЦЬ АЛЕСЬ І КАЦЯ

Ад кіслага малачка
Біў цянёчкам па бачках —

Дзень па вечарыне.
Час — заснуць хлапчыне.

Два зярняці бобу —
Паклалі ў каробу:

Закалыхваць-калыхаць.
Час прыйшоў, дзяўчынка — спаць.

Мяшок сачавічкі
Склявалі сінічкі,

Дзюбкі дзве стачылі,
Міг не адпачылі.

З багатай засечкі —
Торбу ўсыплю грэчкі.

Каша дзецям будзе
І галодным людзям.

Каласок авёса
Ходзіць летам боса.

Спяць Алесь і Каця.
Ноч — на сенажацях.

Баю-бай, сны гукай!
Што благое — прамінай.

## ЗАСЫНАЙЦЕ, ВОЧКІ!

Не знай, Кот, калодку —
Разаб'еш галоўку.

Не хадзі па лаўцы —
Дастанецца лапцы.

Хвосцікам — не хвосці.
Сон ідзе ў ноч-госці.

Пачастую казкай.
Слухай, калі ласка!

Раз, два, тры, чатыры!
Рэчцы мелка ў віры.

За дзве ўсохла ночкі.
Засынайце, Вочкі!

Берагі ўзняліся,
Потым — разышліся.

Случ — такая рэчка,
Як у просе грэчка:

У сухмень — галосіць
І паводкі — просіць.

Люлі, люлі, люлі!
Дзеці й Кот паснулі.

## ДЗЕНЬ ЗНАСІЎ СЕМ ЧАРАВІКАЎ

Дзень знасіў сем чаравікаў.
Ноч-абноўку ценьмі клікаў.

Лёг ля Случы — засынаць.
Час зямны — адпачываць.

Казак звонкі галасок —
Бай звязаў у вузялок.

Вечар скідвае адзенне.
Зорак — спелае насенне

Прарастае каля воч.
Добрай ночы, дзеці й ноч!

Дзень знасіў сем чаравікаў.
Гэта дзіванька — вяліка.

Засынайце з ім, дзяўчынкі,
Паслухмянкі-малайчынкі.

## НОЧ ПЛЫВЕ,
## ЯК КАРАБЕЛЬ

Верабейка-верабей,
Ноч плыве, як карабель.

Сон — ля тваіх крылцаў.
Бай — з блакітных сітцаў.

Лапку ў промні пакладзі.
Сонца дзюбкай астудзі.

Баю-бай, птушынка!
Засні, Кацярынка.

Донечка-даненька,
Мяккая пасцелька

З лёну выткана ў расе.
Засынайце, дзеці ўсе,

Ад Брэста да мора!
Добрай ночы — зорам!

Птушкам і дзяўчынкам,
Ружам і хлапчынкам!

Баю, верабейка,
Шчабятаць — умейка.

## СЫН ТАКІ МАЛЕНЬКІ

Як Алесю спаці —
Скрыпку майстраваці

Бай прынадзіўся, дзівак.
Ён на выдумкі — мастак.

З сямі гукаў-зыкаў,
Алесіка клікаў,

Казкі ўсе пераказаў...
З жартаў сплецена лаза —

Гусценька ў радочак,
Спі, Алесь-званочак!

Вырастай малойцам,
Дзіцянятка-сонца.

Баю-бай, баенькі!
Сын — такі маленькі.

## БАЙ ІДЗЕ ПА МОСЦЕ

Дзень сядзеў на лаўцы.
Кот заснуў на лапцы

Шэрай, як былінка.
Засні, Кацярынка!

Бай ідзе па мосце.
Кліча казкі ў госці.

Нясе слоў карзінку:
Баяць Кацярынку!

Спіце, дзеці, спіце!
Сон — сатканы з ніцяў —

Залатых, случовых.
Прамінае ўчора!

Ноч праз ноч плыве.
Росанькі ў траве.

## БЕГАЎ ЗАЙКА
## ЎСЛЕД ЗА ЦЕНЕМ

Бегаў зайка ўслед за ценем праз авёс.
Вечар спелае калоссе сноў прынёс.

І рассыпаў ля дзіцячых вачанят.
Бегаў зайка ўслед за ценем цераз сад.

Спрыт намуліў ногі-пяты, раніў хвост.
Бегаў зайка ўслед за ценем цераз мост.

Замарыліся абодва малайцы,
Спяць да раніцы ў авёсе два ганцы.

Засынайце, Кацярынка і Алесь!
Калыханкі спеў вясёленькі, ты ўвесь?

# ХОДЗІЦЬ СОН У БЕЛАЙ ХУСТЦЫ

Ходзіць Сон у белай хустцы.
Спаць пара двухкрылай гусцы.
Баю-бай. Спачывай!

Ходзіць лесам дрымата,
Закалыхвае й ката.
Баю-бай. Спачывай!

Ходзіць Сон па сенажаці,
Вечар кліча да дзіцяці.
Баю-бай. Спачывай!

Ходзіць сонца да замор'я.
Сон жадае ўсім здароўя.
Баю-бай. Спачывай!

Ходзіць поўнік каля воч.
Добрай ночы, дзеці й ноч!
Баю-бай. Спачывай!

## СОН — У КАЛЫБЕЛІ

Сон — у калыбелі,
На мяккай пасцелі.

Вочкі, не маргайце.
Вушкі, засынайце.

Ходзіць Бай каля акна.
Спіце, Вочкі, давідна.

Мёдам-саладочкам
Частавана ночка.

Спіце, Вочкі, спіце.
Сны да ранку сніце.

Вочкі, не маргайце.
Вушкі, засынайце.

Сон — у калыбелі,
На мяккай пасцелі.

Люлі, люлі, люлі!
Дзеці ўсе паснулі.

## СПІ,
## АЛЕСІК МІЛЕНЬКІ

Спі, Алесік міленькі,
Галубочак сізенькі.

Вецер, шумна не гудзі,
Майго сына не будзі.

Спі, Алесік міленькі.
Вечар летні дзіўненькі.

Гром грымучы, не грымі.
Гнеў з маланкай, праміні.

Спі, сыночак міленькі,
Галубочак сізенькі.

Ноч цыганкай — на двары —
Сны вартуе да зары.

Спі, сыночак міленькі,
Галубочак сізенькі.

Вецер, шумна не гудзі,
Майго сына не будзі.

## НОЧ КЛАДЗЕЦЦА Ў ЛОЖАК

Сон — ціхі званочак.
Колькі ў ночы вочак —

Знаюць небыліцы.
Спяць даўно сініцы.

Крылцы каля лапак.
Колькі ў казак шапак —

Ляжыць пад падушкай?
Знаюць Бай з дачушкай.

Ноч кладзецца ў ложак.
Колькі ў ценяў ножак —

Даўжынёй да неба?
Спаці, доня, трэба!

Сон расце з калючак.
Колькі ў ночы ручак?

Ведае маркота,
Сонная турбота.

Вечар — на падушку!
Калышу — дачушку.

## СПІЦЕ, КАЦЯ І АЛЕСЬ!

Спіце, Каця і Алесь.
Ваш да ранку сон увесь.

Засынайце ўдвое.
Помніце пра тое:

Слухаць маму з татам —
Буднім днём і святам.

Вырастайце ў людзі.
Сон — на поўны грудзі.

Люлі, дзеці, люлі.
Пчолы спяць у вуллі.

Мёд — каля мядочка.
Спіце, сын і дочка.

Люлі, дзеці, люлі.
Зоркі ўсе паснулі.

## СОН — ВУСЫ ПУСЦІЎ

Праз размошчаны масток
Бег натомлены Каток —

Вочкамі свяціць,
Лапкамі грабці,

Хвосцікам мясці.
Доня, спі-расці.

Сон вусы пусціў,
Цэлы дзень расціў.

Муркае, як кот,
Скача цераз плот.

Люлі, люлі, люлі,
Калыханкі ўчулі

Дзеці з вуснаў мамачкі.
Ноч — чатыры лапачкі —

Ходзіць па падушцы.
Сняцца Сны дачушцы.

## ВЕЧАР ВЫЦЯНІЎ ЦЯНЁК

Маляваны Матылёк,
Гультаёчак-гультаёк

На бярозавы пянёк
Сеў на цэленькі дзянёк.

Сонца схілена на бок,
Вечар выцяніў цянёк.

Спі, Алесечак-сынок!
Засынае й галубок.

Ён забаўкі знае.
І спіць, і гуляе.

Раніцай — прачнецца,
Ў Случы акунецца.

Ой, люлі-люленькі.
Спіце, Галубенькі!

## ПРЫЙШОЎ ВЕЧАР У ДАЛІНКУ

Прыйшоў вечар у далінку.
Дзень кладзецца на пярынку:

Вачыма — да зорак,
Дыханнем — да зёлак.

Ой, люлі, люлятка!
Засынай, дзіцятка.

Хлопчык-*Случарочак,*
Алесь-баяночак,

Распраменьвай плечкі —
Як сцяблiны грэчкі.

Супакойвай ножкі,
Хай спачнуць дарожкі.

Ручаньку — пад шчочку,
I так — усю ночку.

Ой, люлі, люлятка!
Засынай, дзіцятка,

Алесь-*баяночак,*
Хлопчык-*Случарочак!*

## ЛЕСНІЧОЎКА ГОРАД СНІЦЬ

Сем сыноў меў леснічок
І дзевяцерка дачок.

Багацей нікога —
Не было год многа.

Казку ўзяў у сведку
Сон за вестку — гэтку.

Пераказвае па свеце.
Лесніковы, спіце, дзеці!

Шышак — кошык на сасне.
Зорак — высеў у акне.

Кожна-кожна на прыкмеце.
Лесніковы, спіце, дзеці,

Сёстранькі й браценцы!
Зачыніў дзень сенцы.

Аніхто — не тупаціць.
Леснічоўка горад сніць.

## СПІ, ДЗЯЎЧЫНКА-МАЛАЙЧЫНКА!

Спі, дзяўчынка-малайчынка!
Вырастай — хутчэй.

Кацярына-Кацярынка,
Ноч — каля вачэй.

Сон з падушкі — не скрані.
Лён-кашульку апрані.
Мамачку — прысні.

Спі, дзяўчынка-малайчынка.
Пад падушкай — дзень.

Кацярына-Кацярынка,
Расці-маладзей.

Сон з падушкі — не скрані,
Лён-кашульку апрані.
Бацечку — прысні.

Спі, дзяўчынка, малайчынка,
З сонцам рана ўстань.

Кацярына-Кацярына,
Вырастай да пань!

Сон з падушкі — не скрані.
Лён-кашульку апрані.
Беларускі край прысні.

Баю-бай! Спачывай!
Што благое — прамінай!

# КАЛЫХАНАК
# ТРЫЦЦАЦЬ ТРЫ

Калыханак трыццаць тры
Верш спявае да зары —

Ціха-ціха, што ў расе
Чуюць травы й кветкі ўсе!

Знічкі — падаюць, гараць,
*Случары* — салодка спяць.

*Случары* і *Случарынкі.*
Вочы зор і зор брывінкі —

Закалыхвай, верш, радок.
Добрай ночы, *Случарок!*

Жытнім сцебелем — дыханне.
Падрастаюць хай *Случане.*

Казак смачны абаранак
Дасмакуе мёд-світанак.

Калыханак трыццаць тры
Верш гайдае да зары.

Люлі-люлечкі. Засні.
Што благое — праміні.

# ЗНАЛА ВОСЕНЬ ПЕСЕНЬ ВОСЕМ

---

*

Каля майго церама, каля маіх весніцаў
І ў вясну зялёную змайстравана лесвіца.
Хто яе адолее, хто мой сум паборае —
Пацалункаў ласкавых на шчацэ паболее.

Грайце, грайце, гуселькі!
Карагодзьце, ножанькі!
Выбягалі песні дзве да слязы-дарожанькі:
Маладуй, казак. Весялуй, юнак!
Вецер сее мак...
Мне з табою, ясны голубе, ды не быць ніяк.

*

Заракаўся мой міленькі ка мне не хадзіці,
Толькі просяць яго вусны зноў вады адпіці:
З кубка бела і клянова, з новага вядзерца.
Зачакалі вочы хлопца любасць з майго сэрца.

Ой, студзі зару, калодзеж, летнюю, з расою.
Затулюся ад хлапчыны русаю касою.
Хай праходзіць-мімаходзіць

Да густой травіцы:
Кубкі два яму пад ногі пералью вадзіцы.

Не дражніся гонар-словам, не бяры зароку,
Людзі бачаць — абгавораць твае жарты збоку.
Заракаўся мой міленькі ка мне не хадзіці,
Толькі просяць яго вусны зноў вады адпіці...

*

Ляціць саколе да сакаліны:
Едзь, казачэнька, краем даліны.

Ляціць галубе да галубіцы:
Едзь, казачэнька, каля крыніцы.

Ляціць цяцера да цецярэвы:
Едзь, казачэнька, праз засень-дрэвы.

Ляціць сарока паўз край аблокаў:
Мой казачэнька, як ты далёка!

Ляціць зязюля, звонка кувае:
Мой казачэнька — горы мінае!

Коціцца галка чорная борам:
Без казачэнькі сумна і зорам.

Воран прысядзе на крыло дуба:
Мой казачэнька, дзе ж твая згуба?

Пава ляцела ды ў рэчку ўпала:
Я казачэньку недакахала...

*

Не агонь-касцёр гарыць,
не вада ў катле кіпіць —
Сэрца маладзецкае ные, у грудзях шчыміць:

Адвяжы, казак, каня,
сядзь, малодзе, ля камля,
Смутак свой дарозе скінь,
красну дзеўчыну пакінь.

Ноч ударыць капытом:
Не хадзі нязваны ў дом.
Месяц стане над брывом:
Адмахніся рукавом

Ад кахання-наслання.
Перша люба — не радня.
Адыдзіся, адыдзі, рукі-ласкі развяжы.

Не агонь-касцёр гарыць,
Не вада ў катле кіпіць:
Кіньце звады гаварыць. Буду век яе любіць.

Бел-мароз зайшоў на двор
і глядіцца ў люстра зор:
Мерзні-мерзні, чорны тхор —
на дзяўчыну нагавор.

---

Грымне лівень на зямлю:
Красну дзеўчыну люблю!

Перасохнуць рэчкі тры,
Смутак вып'юць той вятры.
І адкоціцца гара. Абвянчаецца зара...
Грайце-грайце, гуселькі, ля вясельнага двара!

*

Маладыя хлопцы, шчасця рыбалоўцы,
Як у рэчку сетку, кідаюць мне слоўцы:
Ой, каго-кагосьці клікала ты ў госці?
Прабягу па мосце, адкажу без злосці:
Плотка-рыба грае, сабе пару мае.
Па адным Міколе сэрца замірае.

Маладыя хлопцы, шчасця рыбалоўцы,
Як у рэчку сетку, кідаюць мне слоўцы:
Ой, каму-камусьці збрую выбірала,
Сцежку прывячала, коніка сядлала?
Запяю наўкола пра цябе, Мікола:
Месяц узыходзіў, як млынова кола...

*

А тваё каханне — да шлюбу прыбрана,
Сакаліна Яна.

А тваё лятанне, ой па белу свету,
Сокал, восьма лета:

Адчакалі вочы, адчарнелі бровы,
У вуголлі — дровы...

Сакаліна Яна. Ехаў я туманам
З вечара да рана

Да цябе адное, ружы веснавое,
А цяпер нас — трое?!

Трое, любы, трое... на пасагу ж — двое:
Ёсць сваты на тое.

Сакаліна Яна, конь згубіў падковы,
Хто з нас выпадковы?

Ой, не знаю, сокал, ой, парадзьце, людзі:
Што з каханнем будзе?!

---

Сакаліна Яна...

*

Вада корань мые, сэрца ў хлопца ные,
Што няма любові, што пахмуры бровы,
Што згубілі пару вачаняты кары,
Што малода знікла, як світальна знічка.

Не хадзі, казача, па-над берагамі.
Патанула ў бродзе вернасць паміж намі.
Хмара клён пабіла, лісцейка апала.
Я цябе, хлапчына, моцна адкахала.

Не хадзі, казача, па-над ручаямі,
Як мароз траскучы паміж палазамі.
На другу далоню мая доля ўпала.
Я цябе, хлапчына, моцна адкахала.

Не хадзі, казача, па-над азярынай.
Вырасту пад ногі спелаю калінай.
Чырвань перастыне, ягада прагоркне.
Адсмяецца вецер за крутым пагоркам...

*

Ішлі зоры. Ішлі хмары. Ішлі яны розна.
Мы з табой, казак, не ў пары,
прызнаюся: позна.

А сінь-ранне вэлюм снегу прымярае стрэхам.
Восень песень, восень смеху паўтарае рэха.

А ў палудзень вецер-студзень
знойдзе завіруху.
Абгавораць яе людзі, як злую свякруху.

А пад вечар мароз скрыпне. Крокі запаволіць.
Напаследак гавары мне: хто каго няволіць?

А ў ноч-цемень крыкнуць цені
адгалоссем жалю.
Абмінуў казак мой церам — стрэлася чужая.

Ішлі зоры. Ішлі хмары. Ішлі яны розна.
Мы з табой, казак, не ў пары,
прызнаюся: позна.

# СЛУЧАРЫНЫ

*Паэтычны паклон казачніку Рэдкаму,*
*земляку — ДЗЕДУ СЛУЧАРУ,*
*які пражыў на белым свеце*
*113 самародкавых гадоў...*

*

Дасць Бог добрай долі і святой радзімы,—
Дзед Случар вяртаннем растапіў слоў зімы.

*

Па правай дарозе, па леваму шляху,—
Кланялася Вечнасць вырайнаму птаху.

*

З церама на ганачак гуслі пераслухаць,—
З раніцы да вечара думак сем раздумаць.

*

Цені ночы ды ў разоркі заворвалі чорна,—
Не гайдайся ў Случы гойдка, беладонны човен.

*

Белень-ложу слаці ведай — дзе, калі й якому,—
Ад маланак спачываці зможана і грому.

*

Траякія зёлкі. Горкія гаворкі,—
Што стэп палыновы, разглядзелі: толькі.

*

Як прыдбаеш мудры розум, не раздолвай долу,—
Слова (з крыльмі — галубіца) зразумеў і голуб.

*

Праз варожую забаву сэрца ўведала атраву,—
Не параньце лета ў травах: як касіць атаву.

*

Случ, ноч і падушка. Май, хмель і пятрушка,—
Дарогу да любай казак песняй гушкаў.

*

Адзін коннік тварам — лебедзь, да расы бялёны—
Другі коннік — воран чорны, да брывоў чарнёны.

*

Калі брат дабром багаты, не тваё дабро,—
Пераходзь дарогу ў сваты не з пустым вядром.

*

Твае плёткі, казачок, для мяне — падвязкі,—
Дзеда Случара ў вяках вечаровы казкі.

*

Нагаворы й ліха не гамоняць ціха,—
Ведае (з любові: дзеці) й цыганіха.

*

Як каноплі скосіш, жарты перапросіш,—
А пакуль падсобвай сямімужай Фросі.

*

Не ў панядзелак. І не ў аўторак,—
І не з табою выспеў сад зорак.

*

Наняці цымбалы: княжая прычына,—
Музыка да вуснаў — лекаў сто, хлапчына.

*

Далей за Варшаву пайшла злая слава,—
Раніцай налева, вечарам направа.

*

Век адну любіці — не жбан піва піці,—
І за талер слуцкі вернасць не купіці.

*

Гуляць з казакамі — не бразгаць замкамі,—
Пустая дарога ў здраду паміж намі.

*

З корнем вырву малачаец, праз плот перакіну,—
Нагаворы скіну ў яму. Любоў не пакіну.

*

Месца лішняе для хмары ў неба дажджавога,—
Сэрца пухне з размілосці. Мабыць, дражджавое.

*

Неба не старэе. Камень — не пушынка,—
Мой ты казачэнька, дзівачок-случынка.

*

За кім наўздагоны чорныя праклёны? —
Шуміць гай зялёны. Для ўсіх час — бароны.

*

Казак ходзіць каля хаты, не ўмываты, не
ўціраты,—
Кот вясёла на чатыры наступіў сабе на пяты.

*

Мілым ды саколам за цясовым столам,—
Казака назвалі мае думкі хорам.

*

Яшчэ поле не арана, само, жыта, родзіш? —
Яшчэ любасці не знала, рана ў сваты — ходзіш.

*

Аднаму каму з малойцаў дзеўча застанецца,—
Не гнявіся на трывогі, маладое сэрца.

*

Лёгка-лёгенька пярсцёнак да рукі каціці,—
Цяжка-цяжанька з нялюбым жытаньку пражыці.

*

Не дазнала маці хлопца пятае ўхажоркі,—
Хто гуляе спрытна й лоўка — дзве нагі ў аборкі.

*

Не ўводзь мяне у славу, як смала: ліпучу,—
Адмыюся, ведай, русалчынай Случчу.

*

Прычарую й месяц. Прычарую й зоркі,—
Каб і мёд, казача, стаў частункам горкім.

*

Лепш у белым, чым у чорным, на вуліцу выйсці,—
Песня матчына случанска — з бяды-гора выйсце.

*

Хлопцу ўліла чару, што й сама не знала,—
Як прачнуўся ў шлюбе, паўтарае — мала.

*

Густы грэбень кос шкадуе. Напалам зламаўся,—
Ты ў каго такі няўдалы, случарок, удаўся?

*

Як да шлюбу стану — гуляць перастану,—
Не кажы такое й ветру, грэшны Яну.

*

Халадзей за лёд лютага вада,—
Найспрытней за спрыт радасці хада.

*

Лёс згароджу густым плотам і высокім тынам,—
Не хваліся, случарочак, неназваным сынам.

*

Не чужыя ў хаце госці, людзі ўсе свае,—
Сем разоў з любоў-размовы сэрца растае.

*

Спаці кладзецца сум сам з сабою,—
Нагардаваўся, ласка, табою.

*

Да адной случанкі гасцей трое ў сваты,—
Холад маладзёны ў вырослае мяты.

*

Вада ў сенях, піва ў бочцы, лета ў белых росах,—
Рассыпаюцца размовы пра случанак просам.

*

Як градовіць град, так табе не рад,—
Зоркай ні адной не зірну назад.

*

Гнула, гнула вішаньку — ягады як спелі,—
Мы з табой, случар-казача, любоў не ўдалелі.

*

З белага шоўку шыю каўнерык,—
Глянь на абноўку, мой кавалерык.

*

Абяруч за сваю долю казакі ўзяліся,—
Перадзіўлены свет белы, случарам — дзівіся.

*

Перавознік, бел-малойчык, перавозь і вёсны,—
Калі маеш з сямі праўдаў залачоны вёслы.

*

Свечка згасала ў сінія вочы,—
Ліўнем валошкі плакалі ўночы.

*

А хоць позна, а хоць рана, толькі лад і згода,—
На любоў і шанаванне з веку ў век галода.

*

З мёду прынаду, хустку з шаўковіц,—
Дары, казача: чым ласкі мовіць.

*

Калі хочаш князяваці — будзь як чалавек,—
Калі хочаш мець случанку — то на цэлы век.

*

Каб нас, павянчаных, не маглі сурочыць,—
Мый вадой случанскай рукі, твар і вочы.

*

Ці напраўду любіш, ці з людзей смяешся,—
Што адзіным імем-клічкамі завешся?

*

Пад новы двор і новы шацёр,—
Неба іграла ў гуслейкі зор.

*

Сталі мае рукі да тваіх вязаці,—
Ведай, любы, ведай, як любоў шукаці.

*

Зораў адбітак — высокагусты,—
Раскрыжаваны позіркі ў люстры.

*

Пасцель пухову слала ўскрай лёсу,—
Сцежку князёву росіла босай.

*

Чырваю да чырвы — ружы на вяселлі,—
Веснавіла вёсны ў зеляновым зеллі.

*

Распівалі бочку піва, другую віна,—
Што ж, случанка, не шчасліўіш: з казаком, адна?

*

Нанімала музычэньку на скрыпачцы грацi,—
Ён парадзіў майму сэрцу, верна як кахаці.

*

Лён ірвала зеляненькі, да сонца схілёны,—
Персцень мела залаценькі, зорамі калёны.

*

Адзін казак на Валыні, другі на Ўкраіне,—
Адзін плод на грушы-дзічцы, другі на каліне.

*

Ой, не дадому, ой ад Дунаю,—
Еду да Случы, помняць там — знаю.

*

Чаравік згубіла, два шнурочкі ў вузел,—
Любоў і расстанне кружацца на крузе.

*

Чарнаморцаў коней гнедых восем ля парога,—
Папытаюся ў анёлаў пра самога Бога.

*

Добры людзі, скуль благое, чорнае пры чэрні?—
Напалову з бедаў-злосцяў веку дом вячэрні.

*

Прапалола васілёчкі сярод граду-ночкі,—
Казаковыя ўзбудзіла спакойныя вочкі.

*

Наймай сабе музычэнькаў: дзве бяседы ўперад,—
Твае словы ў мае думкі не закінуць нерат.

*

Яшчэ не твая ды й не заручоная,—
З возера вада з ліўнем разлучоная.

*

Звечара ўзышла ясная зара,—
Маладосць расла вішняй ля двара.

*

Ой, з-пад гор-гары едуць мазуры,—
Перамерваць Случ рукавом зары.

*

Борам ехалі — птушкі спявалі. Сялом ехалі —
людзі пыталі,—
Два пярсцёнкі з рукі туманы ў шэры пыл
раскавалі.

*

Мазуры і мазурочкі! Барвіны і барвіночкі,—
Вырастаюць у Марылі яблыні тры — дочкі.

*

Пад'ехаў мазур пад случанскі двор,—
Перакінь вясну праз узвышшы гор.

*

Полем, полем, сівым конем па-пад горачку,—
Казакі-малойцы везлі долю-долечку.

*

Па край Случы-ракі спачываюць вякі,—
Што ж, бялезны ты мой, з чарнарукіх такіх?!

*

Дзеўка ад вады, казак да вады,—
Маладзік святло згубіў маладым.

*

Не вялікі пан — згневаны казак,—
Што з любоўю ў лад не ўладзіш ніяк.

*

Мыці й шыці, кросны ткаці, раненька ўставаці,—
Каля вочак казаковых век адвекаваці.

*

На вараным коню, па чыстаму полю,—
Перавозіць песня казакову долю.

*

Ножкі абвярчу ў слуцкую парчу,—
Да Случы прыйду, каб ніхто не ўчуў.

*

Конік ваду п'е, капытцом грабе,—
Сёмую зару гукае цябе.

*

На шэрым канёчку, рукі ў кішанёчку,—
Сватаўся дунайца ў случарову дочку.

*

Дзе дарога ідзе? Дзе крыніца стаіць?—
Два пытанні — агнём. Сэрца жарам — гарыць.

*

Рэчка берагам слізка-роўная,—
Мой казак здалёк, табе — родная.

*

Закіпіць румянец ад трывогі-болю,—
Засланёны вочы не сем год табою.

*

Не такі з такога, іншы ад другога,—
Долю не аб'едзеш, што паслана Богам.

*

Жыта да снапоў дзеўчына грамадзіла,—
Русаю касой казака прынадзіла.

*

Смактану сляпніцы, каб не бачыць свету,—
Лягчэй сэрцу стала, горанька — суседу.

*

Дзень добры ў вечар! Словы — ад Бога,—
Шлях маладосці ў зоры дарога.

*

Як мне пражыці — не ведаю й знаю,—
Чэмерам па мёдзе: случара кахаю.

*

Расло жыта з лебядою за вадзянаю вадою,—
З нелюбові да любові — крок расстання ў долю.

*

Сядло залатое дарога ўскладае,—
Праз чорныя бровы маладосць світае.

*

Случар-чарадзеец, з норавам крутым,—
Жаль і неспакой — родныя браты.

*

Край — далінаю, лес — малінаю,—
Сцежка ў долю-лёс — сакалінаю.

*

Мак чырвоны самасейны з поўначы цвіце,—
Кладка мошчана. Рэчка быстрая. Ночанька —
гасцей!

*

Ветры буйныя — расхадзіліся,—
Мы адно ў адным — веснавіліся.

*

Рыбку не ўлавіла, хвалю не разбіла,—
На зары заровай казака любіла.

*

Калодзеж на двары, вядзёрка на ключы,—
Звініць жыццё, звініць. Маўчыць вада, маўчыць.

*

Як востры серп у маладзік нядзеля,—
Праз берагі крутыя ноч на людзей глядзела.

*

Слова Бога — не для кары, для святых
малітваў,—
Колькі ў небе свеціць зораў — столькі жыццяў-
жытваў.

*

Дай мне, Божа, размілога, як і я сама,—
Даражэй купальскіх ночак — золата няма.

*

Разарвала Случ снасцямі свае глыбакосці,—
За тваёй крывой любоўю ходзяць прама злосці.

*

Случарова сэрца млее, болем занывае,—
На Іспасавы дзень спелы грушы выспяляе.

*

Спарадзіла мяне мама да царквы ў нядзелю,—
Як чырвоная каліна — плодная надзея.

*

Даў Бог белы ручкі, даў Бог спрытны ножкі.
І светлыя вочкі,—
Не ірваць калючкі, не бегчы ў варожкі.
Зор не красці ў ночкі.

*

Чорныя сляды наробяць бяды,—
Бераг ратаваў астраўкі вады.

*

Дазволілі случарочкам карчму будаваці,—
Будуць, будуць на каляды холад частаваці.

*

Няхай людзі тое знаюць, што без долі
паміраюць,—
Чорным макам рассыпаюць тыя дні, што не
ўспяляюць.

*

Гараньку ўскапаю. Супраць сонца сяду,—
Супраць случарочка і вякоў пагляду.

*

Выламлю вярбу і каліну ў лузе,—
Не сустрэці мне любоў, што ходзіць па крузе.

*

Случчыну схадзілі пехам вершы-ногі,—
Бацькавай радзімай шчодраны дарогі.

*

Праз цябе, случанка, ад роду адбіўся,—
Ваяром дунайскім каля воч з'явіўся.

*

Як пад лёдам-Случчу рыбе зіму прастаяці,—
Так з нямудрым і нямілым мяне не вянчаці...

# НА РАЦЭ ПРЫМАНЦЫ ДЫ Й НА СЛІЗКАЙ КЛАДЦЫ

*Паэма Песні*

*Гэтыя радкі прыйшлі да мяне па-за радзімай... Лета 1989-га ў Браціславе высушвала і раку Дунай, што, сасмяглая і ледзь жывая працякала каля храма святога Марціна. Сумавалася па Беларусі, па родных Мінску і Свіслачы. Творчую настальгію апраўдвалі расквітнелыя ліпы, якія, мабыць, па ўсёй Зямлі цвітуць аднолькава. Слухачоў міжнародных курсаў славістыкі вечарамі гуртавала народная песня, у прадстаўніка кожнага народа — свая. Гучалі рускія, украінскія, польскія, балгарскія, славацкія і славенскія мелодыі. Чуўся сярод іх і струменьчык беларускага Купалля...*

## УСТУП

На рацэ Прыманцы ды й на слізкай кладцы —
Стане ўпоперак Дарога ў нікуды...
З перавясламі вады:
Тут — русалчыны сляды,
Здрады чорнай невады,
Дзень і ноч пітво нуды,
З ілу жоўтага груды —
Не хадзі ніхто сюды!

Адкаснуцца хай бяды:
Яснавокія гады.
(Мудрасць — не ад барады)
Гуслі там, дзе ёсць лады...
Маладуй, як малады!

Пры каліне ў лузе, пры чырвоным грузе —
Ягад выспелых рассыпаны карэц...
Тут згубіў каня стралец,
Прыдунайскі вой-хлапец,
Незаўдалы ды ўдалец,
Казачэньку жаль-храбрэц,
Барані арліц, арлец!
Стрэл ляціць да крыл-крылец...
Без любові той стралец,
Як без гордасці гардзец,
Як без мудрасці мудрэц...
Хай не едзе да сянец!

На дарозе й бітай, на каменне сытай —
Стане прыцемак спанелы ўладаром...
Раскалыша ліўнем гром.
Не чалом, лёс, не чалом!
З чорным, воранам-крылом:
Хай благое йдзе на злом
Стараведзьміным дваром,

Злосць ссячэцца тапаром,
Сум сплывае, як паром —
Пасля сну, і перад сном...
Хай на радасць сонцам тром:
Песня — госцяй за сталом!

*

Ой, не дай мне Бог й не судзі мне Бог:

Дым-агню ля ног,
Хаты, як астрог,
Здрады праз парог,

Не судзі й мне Бог і не дай мне Бог...
Ой, не дай мне Бог й не судзі мне Бог!

Шчасця — з козін рог,
Долі — з босых ног,
Любові — на трох,

Ой, не дай мне Бог й не судзі мне Бог...

Твар сляпіць дарог,
Спавядаць быльнёг,
Жыць — без дня трывог...

Не судзі мне Бог і не дай мне Бог!

*

Сядзе вечар на парозе і ўтрывожыцца ў трывозе:

Супакойся час-нябозе,
Не ўсміхайся пры пагрозе.
Пехам дзень ці ўсеў на возе,—
Святлу цёпла й на марозе.

Зноў славяне-мураўляне ладзяць жарты пра
каханне:

Яно ў праўдзе, ці ў падмане?
Яно — сум, ці з гусляў гранне?
Весялосць, ці забаўлянне?
Ці слязней слязы: расстанне?

*

Майго лёсу варажэнькі павячэраць селі —
Несалёнай касці-рыбы скаштаваць схацелі.

За сталом цясовым лета — чары асцярогі.
Майго лёсу ў варажэнек цыганскія й ногі.

Правабок сядзяць — і рукі да агню гукаюць.
Левабок глядзяць — і месяц сонцам называюць.

Майго лёсу варажэнькі, не хадзіце ўвечар,
Няма роўні таму госцю, што жыве ў далечы.

З корнем цень вачыма рваці — і павек не вырваць.
Не адважацца і зоры сваёй долі вызнаць.

Я й сама з таго плач плачу шчасцейка што: долу.
Каго мела — мець не буду, з песняй шлях: дадому.

*

Нарабіла чараў з воску і ракіты.
Любы, вось які ты?!

Ад Дунаю к гаю — травы талакою.
Каб не знаў спакою.

Жарты стануць зманам — спаці пойдзеш рана.
Сумна й некахана.

Пазірну налева, пазірну направа:
Згінь з вачэй, няслава!

Вазьму ў рукі дуду — суму мець не буду.
На пацешкі люду.

На цвіковай лаве сядзець цётцы Клаве —
Радасці атраве...

Ад Дунаю к гаю — травы росы ў росы...
Лета ходзіць босым!

*

Змайстравала лоданьку лепей карабля.
Добрае і гордае — чуецца здаля.

Адцвітае лотаццю ад вясны вясна.
Многа прыкаханага — а любоў адна.

Неба шыр высокую стражыць далячыць.
Калі плачуць сокалы — то і гром маўчыць.

Белага і смелага колеру зіма.
Прыняла разлучаньку да вачэй сама.

Змайстравала лоданьку лепей карабля,—
Блізкае і роднае, што ж цяпер здаля?

*

Стала мілаю і ўзычліваю...
Ці ж шчасліваю?

Мела пацеркі ў дар ад мацеркі...
Дзе ж шукаценькі?

Клятвам верыла, як дно мерына
Грывай мерала.

Доляй дорана — як з-пад горана
Чэрняць воранаў.

На каліне плод, на рабіне плод:
Ты ж мой горкі род?!

*

А хто каму рады — сядзіць каля праўды.
А хто каму вораг — той глядзіць, як воран.

А хто па кім вяне — шануе каханне.
А хто з кім вяснуе — цалуе й мілуе.

А хто з кім пры волі — не пакрыўдзіць долі.
А хто з кім у ладзе — пры княжным пасадзе.

Не ўкрушу сваё сэрца бядою і злом.
Добра ведаю: пойдзе благое на злом.

З мора голуб вады (хоць памры) не пап'е.
За памылкі хто дзякуе шчыра сабе?!

Позна вечарам ранняя ўсходзіць зара.
Калі мудрасць прыходзіць — быць мудрай пара.

Бедным сэрцам — багатыя зоры ўначы!
Не дазнацца: калі перад кім хто злаўчыў?

Пойдзе ўніз за вадою гаворка з маны.
Не саткаў аніхто дыван-радасць з віны.

Не надзенеш свіціну з убогіх ільноў,—
З чорных вуснаў — не клятвы, а вугаль-дым слоў...

*

Не падобна таму быці:
    Каб слязу слязой чарніці,
    Ці сваё імя забыці,
    Пакахаць — і не любіці —
Не падобна таму быці...

Не падобна таму быці:
    Каб ваду агнём жывіці,
    Ці з каменнем гаварыці,
    Праўду знаць — і прытаіці —
Не падобна таму быці...

Не падобна таму быці:
    Каб жыты зімой расціці,
    Ці ў званы крышталь разліці,
    Гонар мець — і раздарыці —
Не падобна таму быці...

Не падобна таму быці:
    Каб нялюбага любіці,

Ці сінь неба адсініці,
Мецъ Радзіму — і забыці —
Не падобна таму быці...

*

Ружавою вішняю на шчацэ — гады.
Вёснамі накрыю ростані сляды.

Ні адзін не знікне ў ценях ад святла.
Божанька, даруй мне, што я ў боль зайшла.

Адступлюся нема... край жыцця-ляза.
Ні адна дарога не прыйшла назад.

Кліч да царскай ласкі, пад канвой вядзі.
Хто чые трывогі і калі студзіў?!

Прынароднa — свята. На Пятровы дзень:
Падару калінам прамянёк надзей.

Хай салодзіць думка, калі плод гарчыць...
За табой мне зоры да адной злічыць!

Крок у крок стагоддзе. Зрок у зрок сляза.
Ні адна разлука не прыйшла назад.

Голасам галосным, словам славяным —
Кланяцца жывому нам: усім жывым!

Да крыві і нерваў й глыбіні грудзей...
Дзякуй, учарашні і наступны дзень!

Ружавою вішняй на шчацэ — сляза.
Ні адна дарога не прыйшла назад!

*

Ад той вясны да гэтай — пяць летаў дзень у дзень
Жанчыне быць паэтам — як сем агнёў з грудзей:

Распальваць і звугольваць крывезнаю крывёй,—
Як абароньваць зоркі купальскаю травой.

Ад той вясны да гэтай — сем зімаў лёд у лёд.
Жанчыне быць паэтам — зямлі гаіць няўрод,

Ад злыбяды збароньваць, загойваць белы свет,
Каб за сабой не збрудзіць, свой не запляміць след.

Ад той вясны да гэтай — асенні лістабой.
Жанчыне быць паэтам — трываць за іншых боль:

Высока і гарача. Сілезна. З моц-крывін,
Каб апраўдаць дар Божы — жыць век жыцця адзін.

*

Кіеў гневіцца дажджом, а Тураў — снягамі...
Мой нясуджаны, няўжо маразы між намі?

Спавалочка-ноч брыдзе, сон ільне да зораў.
Не схаваеш ад людзей жалю горды нораў.

Хіліць голаў да зямлі клён, звянчаны з маем.
Вось і мы з табой, багач, дзень сіротны: маем.

Беражы слязу, сляза, напаслед расстання.
Хто кахае і кахаў — не скляне кахання.

Кіеў гневіцца дажджом, а Тураў — снягамі.
Разыходзімся павек, як вада — кругамі...

*

Заезджу я каня, заезджу варанога...
Эх, будзе жалю мне, каханенькая з то́га:
Вады конь не пап'е і сенейка не возьме,
Слязой з касых вачэй дарогу кіне вобзем.

Заезджу я каня, заезджу варанога.
Эх, будзе гора мне, каханенькая з то́га:
З аброці залатой разорваныя ніці
Конь будзе на скаку ды ў рэчаньцы тапіці.

Заезджу я каня, заезджу варанога...
Эх, будзе болю мне, каханенькая з то́га:
Гром спыніць рысака ля майскага парога,—
І зразумеем мы, што ўсё жыццё — трывога.

---

Конь мой вараны, коню вараненькі,
Сем начэй скакаў, ехаў удаленька,
Ехаў вараны векавой дарогай:
Пашкадуй, вясна, хлопца маладога!

*

А я з ростань-болю не піла, не ела,
Як сукенку ў чорным белым днём надзела.

Прыляцела пава, села на вароты,
З каліны чырвонай зведала маркоты.

Адпіла слязіны, каб не бачыць свету.
Барвінок услала насуперак следу.

А я з ростань-болю жаліла сабою:
Горкую гнявіла, не ў разгневах, долю.

*

Хто мілога зойме — таго горыч дойме,
Той дадому прыйдзе праз Троіцаў тыдзень,

Рукі-ногі з гора скіне ў Чорна мора,
Як пад ліўнем вецер — пападзе на смецце...

Жарты і сурокі спраўдзяць ненарокам,—
Ведаюць хай тыя, хто душой сляпыя.

Чуюць хай такія: як вужы — лаўкія.
Хто любоў бароніць — таго й Божа помніць.

*

Ноч за коршунам крылы чорныя снегам
халадзіла.
Як да весніцаў крок прыкованы — за табой
хадзіла...

Адпускала ў даль каня-мерына... з золата —
вудзіла.

Як пайшоў з вачэй і абняў агонь — словам не
судзіла...

Як аднолечкі дзверы войкнулі (вось якое дзіва!):
Ты стаяў, як стэп, палыновы ўвесь — што ж
цябе знудзіла?

Трасцінку аб сцену ўслед любаму кіну,
Каб знаці не ведаў благога ўспаміну,

Высокага жалю, глыбокага суму,—
Каб памяць спяліла час — гордую думу,

Каб плавам сплывала сляза з вачаніцаў.
Ты — вучань разлукі, а я — вучаніца...

Па кроплі, па літарцы, гуку і складу —
Даведайся, доля, пра крыўду і праўду,

Адрознівай фальш ад лазы-дзеразіны,—
Ты ў зорах затоплены сёння, адзіны!

Святло калыханак разгойдвае ранак:
За што, мой каханак? Чаму, мой каханак?

*

Пры сядзельцы ў конніка — тры свячы!
Чым табе, разлучанька, й памагчы?

Шоўкавыя ў раніцы рукавы,
Тканыя шытыя з лён-травы.

Рутаю ружоваю зчырванелы след.
Многа-многа ў горычы боль-прыкмет.

Пры сядзельцы ў конніка — тры свячы:
Адгарэлі, змеркліся ў князь-начы.

Гнула, ветрам гнула явара да зямлі.
Адлучылі ягады ад калін.

---

Вышчарбленым каменем, саланіцай слёз,
Варажбой-забаваю забаўляны лёс...

*

Возьме лёс за рукі, доля — за рукаў...
Ты з якой прынукі ростані шукаў?

З чыстае крыніцы не адпіць арлам.
З горкае размовы які солад нам?

Персцень не ў дарунках, калі ён — чужы.
Праўда не святая, што была ў ілжы.

Цемень за нудою ходзіць крок у крок.
Гордасці ўсміхацца не прыстане зрок.

Не праз гай к Дунаю крыгаход з ільдоў.
Будзь жа да няславы, мой нялюб, гатоў.

Не прыслужыш жалю: чорнаму, як крот.
Не прынадзіш ласку да чужых варот.

Не ўлучыла сэрцам сэрцайку твайму,—
Вось чаму за летам — не сустрэць зіму!

*

Долу высыпле воўчых ягадаў лета жменьку...
Сяміршынная падпаясачка веку — караценька.

Слуцкім поясам красна вышыта да слязы дарога.
Вось цяпер і я. Вось цяпер і ты — разам нічога.

Вочы ночанькі, як у securityваванькі, жалю не мінуцца.
Вось такая я. Вось такі і ты — з месца не скранууцца.

Долу высыпле воўчых ягадаў лета жменьку...
Сяміршынная падпаясачка веку — караценька.

Час струной звініць. Плечы выпрастаў гордым селезнем.
Вось цяпер твой дом. Вось цяпер мой дом — не з вяселезных...

Ад вясны да воч, ад Зямлі да зор — найвысока, знай!
За былым табой. За былой і мной — крылы сокалаў...

*

Ой, за Донам-прыдонам палынавы — стэп.
Смела песню прыносіш, так дарaць соль-хлеб...

Да вачэй дадаюць маладое святло,—
Вось і наша каханне з табой — адбыло.

Пераплывам сплывае ў прадонне вады.
І казыча намоклым палынам сляды.

Хто святло перасушыць, калі там віры?
Хто адмовіць зары адцарыць да зары?

Ой, за Донам-прыдонам казацкая ціш.
Не ў згрымочаны лівень, казак, мы маўчыш,

А ў адчэпаў адчэп словы джаліш агню.
Ад маёй далані крыжам крыж даланю —

Пераводам праводзіш у змоўклую ноч:
Ад любові, ад вернасці, лёсу паўзбоч...

Прыхарошана-хораша травам звінець,
Маладому ж пярсцёнку раззвоньвацца ў медзь.

*

За чужымі харошымі, як цыганскімі грошамі,
Ласкі ўсе перапрошаны, лёсы два разгарошаны.

Адкаснуліся збочана, разнадол-раззалочана,
Да слязы — перагорчаны, да крывіны —
адплочаны.

Суцяшаць — несуцешана, насмяшыць —
перасмешана.
Грэх вяртаць — перагрэшана, вырашаць —
перарэшана.

*

Не ў татарскія раці, а больш не кахаці...
Не прыклоньваць паклоны, а боль аддароны.

Не святлей светлячыны, а сэрцам з лаўчынных.
Не ў прыласку ласканы, а ранамі ў раны.

Не ў прыман і не ў лекі, а ў ростань — навекі.
Не ў галодную сытасць — а ў часу адбытнасць.

Не ў збавенне і ў радасць, а ў сумную жаласць.
Не ў праклён і ў варожкі, а ў чортавы рожкі.

---

Не ў разбожаны вечар — а сэрцам праз Вечнасць!

*

Плаваў па моры, ды не ўмываўся селезень-птах.
Як з табой, сумны, жаласнадумны, сталася так?

Човен да крылаў белых хінуўся, неба чарніў.
Хто ж цябе, сумны, жаласнадумны, птах разлюбіў?

Хвалі салёна крэслілі далеч і спавівалі крыло.
Што ж цябе, сумны, жаласнадумны, ў шторм
прывяло?

Плаваў па моры, ды не ўмываўся селезень-птах.
Як з табой сумны, жаласнадумны, сталася так?

*

Няма ў рэчцы-хвалях плоду...
Няма жалю ў твайго роду,
Што засваталі выроду,
Крыўдай скрыўдзілі прыроду.
Знайшлі пугала з гароду,

Як галоднаму галоду —
Раскапалі пень-калоду,
На благое знайшлі моду,
Якім людзям на выгоду?
Няма пары ў злоснай мары,

Як дажджу з пустое хмары,
Ці на гром грымучы кары...
Не ўсе грошыкі — далары
Для царэванькі Тамары
Не ўсе слёзанькі — ахвяры.

---

Зоркі-месяц — не пажары...
На няпраўду няма пары!

*

Распрасею, распраду чамярычную ваду
На сем кросен-верацён, як случаначкі: здавён...
Ні крапёнца не пралью на таго, каго люблю.
Конь буланы яркай масці прынясе ў капытах
шчасце.
Думак сумных частаванне — адно толькі гараванне

Як з сухой тычыны плод, так і ростані няўрод,—
Мне й самой пра тое знаць, што любіць яшчэ й кахаць...

*

Едзе доля адно поле,
Едзе і другое... шчасце ўсё не тое.

Плыве доля адно мора,
Даплыла да іншых... няма шчасцяў лішніх.

Скача доля адным борам,
Патрапіла ў зоры... шчасце знікла ў моры.

Пайшла доля адным схілам,
Скацілася ў ямы... шчасця — шлях не прамы.

Пайшла доля з адной торбай,
Знайшла яшчэ й дзесяць... куды ж шчасце дзець ёй?

Ляціць доля адным небам,
Глядзіць на другое... шчасце б мне такое!

*

Не сашчэпіцца рука, калі ўшыркі-шыр рака.
Ты любоў не панукай, лепшай-іншай пашукай.

Саф'яны абутак, з сініх незабудак,
Прытулі да грудак на сем сумных сутак.

Запрапасці-запрапаць: занішто сябе скараць.
Калі многа чаго маеш — мала, родны што
ўтрымаеш.
Дом не ладзяць з чаратоў, футра шыюць не з
кратоў.
Залаты пярсцёнак той, што залаціць.

---

Знае свет з пялёнак — любай з любым быць!

## ЭПІЛОГ

Плечы затуліла. Выйшла за вароты.
Жалю нарабіла да сёмай маркоты.

І на зломе веку, як брыво княгіні,
Прамаліла зорам: «Хай няшчасце згіне!»

З шолама сустрэчы не адпіць слязіны.
За пустынь-гарою згіне мой адзіны.

Сорак сарачынаў вымаліць расстанне.
Раніцай купальскай звугліцца каханне.

Плечы затуліла. Выйшла за вароты.
Жалю нарабіла... ночы ў цёмных ботах

Маладой случанкай кланялася ў пояс.
Першаю з самотных камня ўчула голас:

Не хадзі, дзе фенікс з попелу ўзрастае.
Колькі год мінула — гордань-птушка тая

Ні жывым, ні мёртвым не дае спакою,—
Вось чаму высока — Песні пад рукою!

# ШЭСЦЬ ГАВОРАК ДЛЯ ВЯЧОРАК

*

Мяне маці беражэ. З чапялою сцеражэ:
Не губляйся маладосці. Не ўдавайся ды ў любосці.
Забароны ведаю. Нехацця абедаю.
Не кранаюся вячэры. І сняданак мой гарчэе.
І сама нібы дзічэю.

Мяне маці беражэ. З чапялою сцеражэ:
Не губляйся маладосці. Не ўдавайся ды ў любосці.
Вечарніц-дзяўчат гукну. Да вачэй-вакон прыльну.
І грозьбы выпушчу з рукі, ой, як вясельца чаўнакі.
І заначую ля ракі.

Мяне маці беражэ. З чапялою сцеражэ:
Не губляйся маладосці. Не ўдавайся ды ў любосці.
І пра вячоркі знае. І дзе была, пытае.
Сумну песню ўспамінае. Мае жарты не ўспрымае.
І начэй недасыпае.

*

Расці, каса, расці, каса, аж да пояса.
Слухайся, дзяўчына, матчынага голаса:

Пакуль долю не знаходзіла,
пакуль замуж не выходзіла,
Пакуль з любым не заручана,
пакуль жытцы не навучана.

Расці, каса, расці, каса, колеру аўса.
Слухайся, дзяўчына, бацькавага голаса:
Пакуль шчасце не знаходзіла,
пакуль замуж не выходзіла,
Пакуль з любым не заручана,
пакуль жытцы не навучана.

Расці, каса, расці, каса, густа чосана.
Не хадзі, дзяўчына, адна ў росы босая:
Пакуль лёс свой не знаходзіла,
пакуль замуж не выходзіла,
Пакуль з любым не заручана,
пакуль жытцы не навучана.

Расці, каса, расці, каса, багацей, краса.
Слухайся, дзяўчына, свайго сэрца голаса:
Пакуль смутку не знаходзіла,
пакуль замуж не выходзіла,
Пакуль з любым не заручана,
пакуль жытцы не навучана.

*

Раскушу арэшак, раскушу сухенькі:
Да размоў-насмешак трапіў мой міленькі.

Б'юць крапіўна слоўкі прама ў вочы-броўкі,
Што зусім нясмелы, што такі нялоўкі.

Раскушу арэшак, раскушу другенькі:
Сяду дый на ўзмежак, дзе хадзіў міленькі.

А калі ж той вечар дый павечарэе?
А калі ж той хлопец ды й паразумнее?

Раскушу арэшак, спарышок-трайнятка:
Сяду каля дзежак, ды й змялю зярнятка.

Напяку частунку з арэшкаў сухенькіх:
Ходзіць, як па струнках, любы хай, міленькі.

*

Пабіў мяне татка шоўкаваю пужкай:
Плакала тры ночкі горка над падушкай.

Маўчаком маўчала. Лён на кужаль прала:
Лепей бы, казача, я цябе не знала.

Адвучылі хлопца ад майго садочка.
Высахлі з расою любага слядочкі.

Ішлі з поля-грэчкі валы крутарогі,
Каптымі мялі-пылілі дарогі:

Каб па іх ніколі сваты не хадзілі,
Каб дачок ніколі татулькі не білі.

Жала я пшаніцу, снапоў не вязала.
На мае не выйшла — праўду не сказала:

Ні табе, татуля, ні табе, матуля,
Ні табе, падманка, куванка-зязюля...

*

Цераз злыя варажэнькі любага пакіну:
Будуць людзі кідаць словы, як ссыпаць мякіну.

Сыпце, сыпце, засыпайце ды перасыпайце,
Толькі чорны мае бровы звадай не чапайце.

Нагаворы. Нагаворы. Дождж сцячэ ў разоры.
Пераміраць мяне з любым перасвацці-зоры.

Не хадзі, Антосю, ў ботах
новых на падносках.
Не заблытвайся, каханне,
ў плётках-адгалосках.

Перасуды. Перасуды. Сцежак белых груды.
З чорнай пасмачкай у грыве
конь пасецца руды.

Ой, расу саб'юць на лузе спрытныя падковы.
Перасмягнуць-перамоўкнуць
з вуснаў жарты-словы.

*

Грыба горкага знайшла — мухамора.
З хлопцам-нелюбам пайшла ў лес учора:

Не такі ён, не такі, як казача.
Пасе коніка майго, віхрам скача.
Як смяюся ўволю з ім — дык ён плача.
Прападзі і згінь з вачэй ты, няўдача.

Грыба горкага знайшла — мухамора.
Ох, набралася я з ім сорам-змора:

Не кладзіся, грыб ліхі, у карзіну.
Хлопца-нелюба сама я пакіну.
Перасохлую спалю смоль-галіну.
І на мёдзе завару чар-каліну.

Грыба горкага знайшла — мухамора.
Не адвяжацца ніяк хлопец-гора:

Не такі ён, не такі, як казача.
Пасе коніка майго — віхрам скача.
Як смяюся ўволю з ім, дык ён плача.
Прападзі і згінь з вачэй ты, няўдача.

# ЗАГУКАЙ, СЛУЧАНКА, ПЕСНЮ ПРАШЧУРАНКІ!

*Засей доленьку шчасцем, доненька...*
*Ой, з-пад гор-гары едуць мазуры...*

З калядных напеваў маёй бабулі
Алены Іосіфаўны Аколавай

## ПЕРШЫ ГОЛАС — СПЕЛЫ КОЛАС

І саха ў раллі. І валы ў ярме.
Сумна казаку. Дзяўчына наўме.
Ой, наўме! Наўме... галава ў думе.
Галава ў думе. Дзяўчына наўме.

Ясная зара. Цёмная пара.
Госці — ля сяней. Коні — ля двара.
Крутая гара. Ясная зара.
Да шлюбу табе, дзяўчына, пара.

І саха ў раллі. І валы ў ярме.
Сумна казаку. Дзяўчына наўме.
Ой, наўме! Наўме... галава ў думе.
Галава ў думе. Дзяўчына наўме.

## ПЕСНЯ ДРУГА ХОДЗІЦЬ КРУГАМ

Ах, любоў, мая Любоню,
Ружа колецца ў далоню:

Бровы чорныя да броваў,
Слова вернае да слова.

Лозы ў полі б'юць марозы.
Будуць, будуць мне пагрозы —
За каханне, за любосці,
За паспешлівыя госці.

А ў гародзе гардавіца
Павілася ў трубку-зелле.
Я зусім не чараўніца,
Што адмовіла вяселле.

Ах, любоў, мая Любоню,
Ружа колецца ў далоню:
Адсамочаныя бровы,
Перменаказаныя словы...

## ТРЭЦІ ГРОЗЬБЫ — СЭРЦА ПРОСЬБЫ

За густою лозанькай
Плача дзеўча слёзанькай.
На бел-камені сядзіць.
На сінь-рэчаньку глядзіць.

Плыві, доля, даліною,
Не прыйшоў казак за мною.
Плыві, доля, за ляшчыну,
Як вярнуць назад хлапчыну?

Плыві, доля, азярынай —
Выспей красенню-калінай.
Плыві, доля, крутым схілам —
Не ўтрымаць каханне сілай!

---

Ляціць доля — папяльцом.
Тоне доля — камянцом.

## ЧАЦВЁРТЫ РАЗЕ — ЯК ДЗЕНЬ У ПРАЗЕ

Не тое пярцо, не тое крылцо —
У сокала, як у галуба.
Не тое брыўцо, не тое слаўцо —
У любага, як у нялюба...

Не тое сцябло, не тое цяпло —
У лотаці, як у рамона.
Не тое святло, што ў цемры было,—
А тое, што сэрцу дарона.

## ПЯЦЬ ПЯСЧЫН-СУГЛІНУ І ГАРЧЫН-ПАЛЫНУ

Рос палын у стэпе на пяску-сугліне.
Закалыхваў месяц росы на сцябліне.

Па сухім пагосце любы ка мне ехаў —
Шлях той адгукнуўся ды ў каханні смехам.

Спеў палын-палыне. Выспеў горкім зеллем.
Корнем выпіў солад хмельнага вяселля.

Не расці, палыне, пры чужой нядолі,
Не шукай, разлука, трох дарог у полі.

Стэпу-стэп шырокі, вузкі цень палыну.
Лёсе, лёс няўдалы, не самоць дзяўчыну.

Не хіліся, сонца, да плячэй пагорка —
Першае каханне палыном прагоркла.

Першае любові — перахмуры бровы —
Над сухой травіцай ветравеюць словы:

Не расці, палыне, пры чужой нядолі,
Не шукай, разлука, трох дарог у полі...

## ШЭСЦЬ УСМЕШАК — ЗВОН-АРЭШАК

Маладая забаўніца холад чэрпала з крыніцы.
Хмель калінавы варыла, смешкі-жарты гаварыла:
Пасаджу на край стала ды ўдалога сакала,
Не глядзі, мой птах, далёка,
Не ўзлятай да гор высока,
Тваe крылы абрублю,
Цябе моцна палюблю...

Маладая забаўніца холад чэрпала з крыніцы.
Конь успудзіўся на ногі, пераблытаў след дарогі.

Чары выпалі ў ваду, думкі клікнулі бяду.
Пакаціліся слязіны
Па шчацэ лясной каліны.
І застаўся ў благаце
Дзень вясёлы без гасцей...

---

Маладая забаўніца!

## НА СЯМЁРАВАЙ ВЯРСЦЕ НАВАТ КАМЕНЬ НЕ РАСЦЕ

Ой, у полі тры раздоллі —
Там мой любы на сваволлі:
Нібы князь — у грознай ролі,
Пры сямі вятрах — застоллі.

Ой, у полі тры таполі —
Там мой любы на сваволлі:
Стаў насуперак шлях-долі,
Прычакаў слязы-спатолі.

Ой, у полі снег на голлі —
Там мой любы на сваволлі:
Сярод холаду і золі —
Кліча у сэрца раны-болі.

Ой, у полі тры раздоллі —
Там мой любы на сваволлі:
Стаў насуперак шлях-долі,
Прычакаў слязы-спатолі...

## ВОСЕМ ЗГАДАК ДЛЯ КАХАНАК

Следам любага камень каціла —
І ля самай гары адпусціла.

Следам любага персцень каціла —
І на волю з рукі адпусціла.

Следам любага поўнік каціла —
І ў абдымкі зары адпусціла.

Не каціся, каменю, пад ногі,
Не вяртайся, каханне, у трывогі.

Не спадай, персню, з правай ручэнькі,
Не збягай ад вачэй, даражэнькі.

Ад святла, поўнік, не затуляйся,
А да зорак на неба — вяртайся.

Следам любага град насылала —
А пасля дзень у хмарах шукала.

Следам любага змрок насылала —
А пасля промні сонца шукала.

Следам любага гнеў насылала —
А пасля жарты ў словах шукала.

Не зламі, град вясновы, рамонак,
Не забудзь, май, дзявочых гаворак,

Не хадзі, змрок, па следзе юначым.
Не спрачайся, удача, з няўдачай.

Не звядзіцеся, жарты, на вуснах,—
Без каханага ў сэрцайку — пуста!

## ДЗЕВЯЦЬ ПЛАЧАЎ— ЧОРНЫМ ГРАЧАМ

Сівы коню густагрывы, не гуляй на лузе —
Там хадзіла ж дзяўчыненька ў найсамотнай смузе.

З сумных вочак яе карых буйны слёзы ліл —
Першакветанькі крушыны ветравеі білі.

Размінаўся дзень з зарою, а гара — з гарою.
Сівы коню густагрывы, скачы далінoю

За трыдзевяць даль-разлогаў, пад шатрамі зораў
Не згубі ў світальным звоне залатых падковаў:

Бо як згубіш — ноч падхопіць — і на камень кіне,
Толькі — яркія слядзіны бліснуць ва ўспаміне.

Сівы коню густагрывы, не гуляй на лузе —
Там хадзіла ж дзяўчыненька ў вечаровай смузе...

Светлу косаньку ільнову абдымалі рукі —
Адмаўлялі словы-думкі жаласці прынуку.

І назывы-нараканні, і падманы чорны,
І таго, хто прызнаваўся — любым-нарачоным...

## ДЗЕСЯЦЬ БОЛЯЎ ЗЛЕЧЫЦЬ ДОЛЯ

Пазірну на лёс свой праз вясны акенца.
З дажджавое кроплі нітак напраду.

Вытку вераценца — з камарова сэрца,
Да цябе, адзіны, па любоў прыйду.

Сярод сіняй хвалі конь вады нап'ецца.
Капыта не змочыць ані аднаго...
Як табе, далёкі, без мяне жывецца —
Праз паводку-ростань маладзецкіх год?!

З макавага квету шыла камізэльку,
А на ростань выйшла ў вэлюме з ільну...
Дзе ж ты загубіўся, родны-даражэнькі,
Што да песні звонкай словам не гукнуць?!

Случы разліваецца. Кладцы — прагінацца.
Мне ж з табой, казача, хісткі човен дзён:
Ані сустракацца, ані мілавацца —
Толькі стромкі бераг памяці відзён.

## КЛІЧА ВЕЧАР СУМ НА ВЕЧА

Вырасла бяроза голлейкам да кручы...
Хто ж цябе, мой сокал, нагаворам вучыць?!
Чорны вочы — здрада. Здрада — чорны вочы.
На зыходзе сонца промняў не сурочыць.
Здрада — чорны вочы.

Не высушвай, смутак, маладыя душы,
Як вятры стваліну дзікарослай грушы.
Здрада — чорны думкі. Думкі чорны — здрада.
Як табе, разлука, сэрцайка не рада.
Думкі чорны — здрада.

Выракайся, цемра, холаду і ценяў.
За табой, мой сокал, вёснаў летуценні.
Чорны крылы — здрада. Здрада — чорны крылы.
Вуснейкі, каму ж вы гаварылі: «Мілы!»
Здрада — чорны крылы.

Вырасла бяроза голлейкам да кручы...
Хто ж цябе, мой сокал, вернасці навучыць?
Здрада — чорны словы. Словы чорны — здрада.
Чамярова зелле. Чамярова праўда.
Словы чорны — здрада...

## ПАВАРАЖУ — ЯК ПРАЎДУ ЛЮБАМУ СКАЖУ

Сарву кветачку-аднадетачку —
Ведай, князю мой, прыкметачку:
Калі цотны пералік —
Свеціць бэзу маладзік.
Як пялёсткі ды не ў пары —
Загібеюць ласкі-мары,
Песня з вуснаў прападзе,
Як з вачэй ружовы дзень...
Дзе ж ты, шчасце лёсу, дзе?

Сарву кветачку-аднадетачку —
Ведай, князю мой, прыкметачку:
Калі сонца рана ўстане —
Будзе шчырасць не ў падмане.
А як хмары злосным кругам —
Перасварацца над лугам,

То ў расстанні жыць, нудзе,
Слухаць звады ад людзей...
Дзе ж ты, шчасце лёсу, дзе?

Сарву кветачку-адналетачку —
Ведай, князю мой, прыкметачку:
Як бутон расою поўны —
Станеш мне навекі родным.
Калі ж завязь хутка зьяне —
То разладзіцца каханне,
Жаль трывогі напрадзе,
Мора высахне надзей...
Дзе ж ты, шчасце лёсу, дзе?

## І ГОРДАСЦЬ ЗНАЙШЛА — І ЎСЛЕД ЗОРАЎ ІШЛА

Сыпле буйны граду. Як бяду спыніці?
Разгнявіла долю — не магу ўпрасіці.
Не гляджу ў калодзеж: летам ён змялелы.
Быў каханы любы, а цяпер — зчужэлы.

Конь б'е капытамі, скідвае падковы.
Як адняць ад вуснаў развітання словы?
Рэпа смакам горка. Вырасла па пояс.
Нібы гром раскатны — недаверу голас.

Пыл дарожны ліўні абтрасуць пад ногі.
У каго ж прасіці шчасцейку падмогі?
Месяц ясназорны кланяецца мяце —
Лепей, мой нязбыўны, ды цябе не знаці!

Так няма нікому, як сказаць мілому:
Заставайся ў песні маладым прадвеснем.
Заставайся ў суме. І ў жыццёвай думе,
Нарачоны-родны, як арол-птах — горды.

## І НАЙЛЮБАЙ БЫЛА —
## І ЎТРЫМАЦЬ НЕ ЗМАГЛА

Каліна-маліна дзесятага году...
Кідала тры ягады ў стынь вады-броду:
Адна — пакацілася смела да долу,
Другая — гукала вярнуцца дадому.
А трэцяя — з рук выпадала без жалю.
І камень нямы адзінотай пужала.

Каліна-маліна дзесятага году...
Якая ж, мой родны, з разлукі выгода?
Якія ж яе найзгарчэлыя словы
І хітрыя, нібы цыганскія, бровы!
Плыць каменю цяжка. Дно возера вязка.
Якія ж, любоў, твае мройныя ласкі!

Вяртаецца коню дамоў без аброку.
Засватаў Ясенька Яніну здалёку,
Як зоры гарэлі, як травы дзічэлі,
Як вецер разгойдваў суквеццяў арэлі.
Як каменю плысці? Ляжыць пад вадою —
Сам-насам з сабою, як песня з журбою...

## ВЁСНЫ-АБЯРУЧ
## І КРЫНІЦА-СЛУЧ

Плавам пераплаўлю крыніцу студзёну.
Жарты перабаўлю хлопцу-маладзёну.
Ён адводзіць позірк, боязна мне кажа,
Што любові смелай ручанькі развяжа.
Развяслуе вёсны, раздарожыць долю,
Выпусціць надзеі-ластаўкі на волю.

Тыччамператычу крыніцу глыбоку.
Што ж ты, мой «язычнік», знік з вачэй далёка?
Сушыш мае слёзы, як вятры травіцу?
Абмінаеш сэрцам маладосць-сястрыцу.
І вачэй не зводзіш з крапівы пякучай.
І плывеш у чоўне праз віры на Случы?

Плавам пераплаўлю крыніцу студзёну,
Каб не піць ніколі з яе маладзёну.
Толькі сум мінае. Боль не любіць злосці,
Як і наракканні зманлівай мілосці,
Як і ты, разлука, помслівай гаворкі...
Дык чаму ж, палыне, ты нясцерпна-горкі?!

# ПРЫГАВОРКІ-
# ПРЫЖАРТОЎКІ

---

*Хто жартуе — менш бядуе...*

З салігорскіх прымавак

## БЫВАЕ, ШТО Й СМЕХ ЗАМІНАЕ

Як на млыне на каменні ды ўзышла пшаніца —
Тады родны, мой каханы, надумаў жаніцца.

Як у лесе на верасе дуб сухі развіўся —
Тады родны, мой каханы, да мяне з'явіўся.

Як у вочы сярод ночы сонца пазірнула —
Тады родны, мой каханы, я цябе гукнула.

Як гара пайшла ў нізіну, а нізіна ў горы —
Тады родны, мой каханы, нас вянчалі зоры.

Як на лёдзе-галалёдзе сем кастроў спалала —
Тады родны, мой каханы, й маладосць прапала.

## ЁН І ЯНА,
## І ЖАРТОЎНАЯ СЦЯНА

Твае словы мне не новы.
Тваё дзіва мне не дзіва.
Не тумань маёй галовы.
За другім буду шчаслівa.

Ой, галуба-галубіца,
Цяжка плотцы без вадзіцы.
Не чаруй, як чараўніца,
Не жартуй, як жартаўніца.

Горкнуць словы палыновы.
Не дзівуе тваё дзіва.
Не тумань маёй галовы —
За другім буду шчасліва.

Мая люба, нарачона,
І адказам навучона,
Пашкадуй маіх прызнанняў,
Не пужай вясну расстаннем.

Тваe словы — вечаровы.
Тваё дзіва здзівавана.
Не тумань маёй галовы.
Я другім навек абрана.

Ой, каханне, твая слава —
То налева, то направа,
То бязнога, то кульгае,
То бязрога, то бадае.

## САЛАВЕЙКА Ў САДЗЕ, ЛЮБЫ — ПРЫ ПАГЛЯДЗЕ

Плот высокі, сад высокі, а месяц — вышэйшы.
Бацька мілы, маці міла, а казак — мілейшы.

Хваля сіня, рэчка сіня, а заліў — сінейшы.
Бацька добры, маці добра, а казак — дабрэйшы.

Жыта спела, грэчка спела. А ячмень — спялейшы.
Бацька смелы, маці смела, а казак — смялейшы.

Кладка вузка, сцежка вузка, а прамень —
вузейшы.
Бацька з ласкай, маці — з ласкай, каза́к —
ласкавейшы.

Зерне дробна, просы дробна, а мак —
найдрабнейшы.
Маці — з жартам, бацька — весел, казак —
весялейшы.

Сёння хмара, заўтра — сонца, а ў нядзелю —
свята.
Бацька — супраць, маці — супраць, а ля хаты —
сваты.

## ЯКІ ДАРУНАК — ТАКІ Й ЧАСТУНАК

Малады хлапчына сем раз прывітаўся,
А як зваць самога — так і не прызнаўся:

Ані цёмна ўвечар, ані светла ранкам,
Тупае нясмела перад слізкім ганкам.

Ходзіць безыменна, цяжанька ўздыхае,
А няхай такога ліханька мінае.

Адкажы, хлапчына, сокал-сакаліну,
Дзе імя забыўся, дзе яго пакінуў?

Як цябе назваці? Як цябе гукаці,
Каб не ўведаў бацька, каб не ўчула маці?

Адкажы, хлапчына, сокал-сакаліну,
Хто за ноч расквеціў белую каліну?

Хто накінуў вэлюм ёй на плечы-косы?
Хто разліў на лотаць залатыя росы?

Прыгажуня-дзеўча, тварам ясналіка,
Да цябе зялёны май мяне паклікаў.

Выходзь у даліну да вады-азерца —
Любасць адшукаюць самі нашы сэрцы.

Не імя пытайся. Ружай не ўсміхайся.
А ў вясельну квецень — радасць прыбірайся!

Адкажы, хлапчына, сокал-сакаліну,
Што за вецер злосны наганяў хмурыну?

З яе дождж не капаў — слёзанькі ліліся.
Чаму ж долі нашы ў прыцем разышліся?

Адкажы, хлапчына, удалец-малойца,
Чаму кожны вечар засынае сонца?

Чаму мые промні раніца ў Случанцы,
Чаму твае словы толькі на прыманцы?

## ДЗЕ ПАРАДЫ —
## ТАМ І ЗВАДЫ

Выйдзі, выйдзі, любы, ка мне на параду,
Раскажы, адзіны, свайго сэрца праўду.
Ноч над туманамі выгукне агнямі:
Разбяромся, людзі, мы ў каханні самі!

Выйдзі, выйдзі, любы, ка мне на параду,
У пачуццях нашых не хапае ладу.
Ноч над паплавамі выгукне агнямі:
Разбяромся, людзі, мы ў каханні самі!

Выйдзі, выйдзі, любы, ка мне на параду.
Зоркай прыхінуся да твайго пагляду.
Ноч над астравамі выгукне агнямі:
Разбяромся, людзі, мы ў каханні самі!

Выйдзі, выйдзі, любы, ка мне на параду.
Хай навек знікаюць недавер і звады.
Ноч над берагамі выгукне агнямі:
Разбяромся, людзі, мы ў каханні самі.

## НЕ ДАСТАЛА МОРА
## СМЕЛАСЦЬ ХЛОПЦА ЎЧОРА

Сівы селязенька стаў гусцы на лапку.
Прысеў казачэнька стомлены на лаўку.
Сонейка заходзіць. Зара яснавее.
Размаўляць з хлапчынам дзеўчына не ўмее.

Заігралі гуслі. Пайшлі з поля гусі.
Сівы селязенька закахаўся, мусіць.
Гуска бела-бела. Дзеўчына нясмела:
Гаварыць з малойцам ласкава не ўмела.

Сівы селязенька стаў гусцы на лапку.
Скамячыў хлапчына сваю нову шапку.
Паплыла спаць гуска азярынай вузкай.
Заспявала дзеўча песню беларуску:

Ой, казак-малойца, узыходзіць сонца,
А твая гаворка пра любоў бясконца.
Сівы селязенька — што робіць? — не знае.
Дзяўчыненька ж тая — хлопца не кахае.

Ой, вясна-случанка. Сонейка-сланейка,
Маладосць вартуе ў садзе салавейка.
Кветка бэзу — сіня, а вішні — ружова.
Вось і ўсё пра дзеўчу і хлапчыну слова.

## РАСЧЫНЯЙЦЕ СЕНІ — СУСТРАКАЦЬ ВЯСЕЛЛЕ

Сягоння субота, а заўтра — нядзеля.
Вясельнае ўбранне случанка надзела.
Вясельнае ўбранне надзела дзяўчына.
Да шлюбу вядзе яе любы хлапчына.

На ручаньцы правай пярсцёнак дароны.
Пад ножанькай левай — дыван, май зялёны.
На лотаці жоўтай — раса залачона.
Дзяўчына з хлапчынам павек заручона.

Сягоння субота, а заўтра — нядзеля.
На двух галубочкаў вяселле глядзела.
Дарога да Случы халодзіла мятай.
Заходзіла пара шчаслівая ў хату.

Спявай, край-айчына, пра звонкія гуслі.
Вяселле, жыві на зямлі Беларусі!
Каханне, як лекі, загойвае болі...
Яднайцеся ў радасці, вёсны і долі!

# СЛУЧАРЫНКІ

*Сваёй Матулі*
*Марыі Ермалаеўне Аколавай —*
*прысвячаю*

*

Дзень палохае і Бога з развянчанага парога.

*

Ці любоўю не ўхмялён, што звон-персцень
раздарон?!

*

І я твайму хіжароду — па шыечку ў воду.

*

Долечкаю — дзіва! Варыць праўда піва.

*

Як агонь распінаць — так нялюбага кахаць.

*

Вясна піра не заводзіць. Каля Случы
паўнаводзіць.

*

Ружа бела не відна — доля наўздагон крыла.

*

Пайшоў боль з крыві, не сказаў куды. Камянёк
бяды.

*

З адной лусты ломім — зімаў пяць гамонім.

*

Зоркі соляць снег — не растаў плач-смех.

*

Стала тварам: ліпка бела — так падзея ўспела.

*

Піва не за талер п'яна — цверазее розум рана.

*

Не хлеб спечаны — царквой венчаны.

*

Вербная вярбніца — свечкі ніцам, ніцам...

*

Не ўзгалодзь, любоў, людзей. Ёю сыты — ноч і дзень.

*

Не як вішанька і чарэшанька — сэрцаў вежанька.

*

Як чорная сава ўскідаецца — так няслава адгукаецца.

*

Ці ж ты, горад, адурачваўся, што ад вёскі адварачваўся?

*

Свечка ясная не ўгасала — тваё імечка выкрасала.

*

Чорным вокам здрада гляне — маладосць, як ружа, вяне.

*

Не ў раскошы нарадзілася — ад радзімы благаславілася.

*

Вада з камня не ўцячэцца, холадам зіме не грэцца.

*

Не дарога-нядбайніца, а трывога-парадніца.

*

Каб не мела век другога — не адбожвай Бога.

*

Пасцель зорам пасцялю — свецяць горда на Зямлю.

*

Маю жаль-нягосціцу, з нелюбові — злосніцу.

*

Кручыніста кручына — нялюдская маўчына.

*

Як нагайка раменная — слава пераменная.

*

Камянёва клець — помстаю калець.

*

Не смятана й не бліны — дзве талерачкі віны.

*

Было ў шлюб не ісці, як не люб. Расчапіў гром дуб.

*

Кіну вёдры пад гарою. Гавары, зара, з зарою.

*

Як каноплі ў балоце тапіці — так жыць: не любіці.

*

Дзякуй Богу за натуру, з ледзянога твая —муру.

*

На вадзе зламана ружанька на Яна. Возера падмана.

*

Твае клятванькі пераведала — як слязой абедала.

*

Абдымала вясну, абдымала. Прамінала яна, прамінала...

# ЗАРЫНА

*Случанская балада*

Сівеў валун за вёскай Камяні.
Спіною ўзважваў тайны груз былога.
І цёмнай ноччу, калі спяць агні,
З сусветам перашэптваўся, нябога.

Праззвалі яго Чорныя Груды.
Ляжаў валун ля жытняга палетка.
І клікаў непрабудныя гады
Прыйсці, нібы жывых братоў, у сведкі.

Хацеў перавярнуцца — і не змог:
Прырос, нібы мазоль, да скрыжаванняў.
І пыл каўтаў ля чатырох дарог.
І паўтараў закляцці пра каханне...

Аднойчы я падслухала той сказ,
Цыганка на Купалле спавядала.
І высыпала, нібы напаказ,
Зярняты слоў, якімі чаравала.

Саслепла я... жыць доўга не змагу,
Бальнічная, як нянек сем палата,—
Зрывалася з яе салёных губ
Адчайна і жалобна-вінавата.

Цяпер мне не адрозніць: ноч і дзень,
Святло ў мінулым — радаснае дзіва...
І прытуляла да сухіх грудзей
Круг сонца, што заходзіла шчасліва.

Прысядзь са мной на Чорным камяні,
Далоні пакладзі Грудам на плечы.
І слыхам маладым не праміні —
Пачуць, што зведаў смутак чалавечы.

Ты вучана другому... і мой Боль
Цябе ці закране, як за жывое?
Як на духу стаю перад табой.
І ў грэшнае цыганкі ёсць святое...

Я тайну ў сэрцы сорак год нашу,
Яе не ведае ніхто на свеце,
Мне шчырасць развярэдзіла душу.
І вусны выгарчыў палынны вецер...

Казала і маршчыністай рукой
Снег валасоў нагортвала на пальцы.
І над глыбокай Мораччу-ракой
Ішла па слізкай кладцы як памяць.

Паўмёртвая, хісталася ў бакі,
Нясла сумненні вёснам і трывогі,
І песняй аддалялася ў вякі.
І сноп маланак кідала пад ногі.

Падходзіла, як здань, да валуна,
Распальвала касцёр са слоў гарачых.

І выпівала горыч дзён да дна.
І задыхалася нясцерпным плачам...

І пасвятлелі Чорныя Груды,
Акамянеласць перайшла ў прызнанне:
«Я столькі раз прыходзіла сюды
Маліцца не багам, табе — каханне!

Ва ўсе часы не знала кайданоў
Ты — Вольнае, Высокае з Высокіх!
Шчыміш, як рана нажавая, зноў,
Мігціш святлом Мядзведзіцы далёкай...

Наказ адзіны твой — не даравадь
Нікому здрады, подласці, падманства...
*Як позна вучыш ты жанчын маўчаць?!*
Як рана плаціш за любоў, цыганства?!

Кахала я Данілу — са славян:
Без памяці, няўпрытайкі, на людзях...
Нас на Купалле абвянчаў туман,
О, як любові мала трэба суддзяў!

На золку табар здзек свой учыніў —
Даніла быў асьлеплены вуголлем,
Здавалася, што ўсю Зямлю счарніў
Цыганскі, як ліпучы дзёгаць, гонар...

Шалелі бубны. Звон гітар мацнеў,
Нібы раса ў пустыні, цела млела.
На праўду чалавечы род збяднеў:
Пры бацьку з маці я асірацела.

Было вяселле праз чатыры дні —
З бліскучымі маністамі абрада.
Сядзеў нялюбы муж сярод радні —
І пільнаваў мой кожны крок паглядам:

За дзве касы цябе я прывяжу
Да рук сваіх — знай ланцугі запясцяў!
І ласкамі вясны прываражу —
Цыганскае не знае межаў шчасце.

Забудзь Данілу! Выкінь з галавы
Імя чужое па крыві і родзе,
Цішэй вады стань і ніжэй травы, —
Навучваў і пытаўся грозна: «Годзе?» —

Цыган Нарэкса, помслівы жаніх,
З дзяцінства — злодзей, канакрад адпеты.
І годнасць прыніжаў маю пры ўсіх...
І плакала няўцешным ліўнем лета.

Я ў прыцемках збягала ў цішыню
Ад шумнай калатні цыган качэўных.
Вяртаў мяне Нарэкса да агню,
Крычаў: «Заб'ю! Твой лёс цяпер —
плачэўны!»

На прывязі вачэй сваіх трымаў.
І размаўляў ударамі штосілы...
І восень сустракаў мой першы май:
Данілаў воблік сніўся, светлы, мілы...

Я сына нарадзіла ў маладзік.
Завойкалі цыганкі: «Плод славянскі...»

І парастак кахання тут жа знік,
Як праваліўся ў цемру. Без прыказкі.

Быў суд другі: суровы, між цыган,
Без літасці і голасу закона.
Віну знайшлі: дзявочы мой падман —
З Данілам грэх... пад сорам і праклёны.

Я з табара выгнанніцай ішла —
У галалёд сваёй жаночай долі.
Са мной бяда напарніцай была.
Боль скамянеў той, як драбочак солі...

І — абняла вялізазны валун,
Прыпала да халодных вуснаў ночы:
Чаму ты, камень, гэтакі маўчун?!
Прачніся сваёй мудрасцю прарочай!

Адкрыйся. І Даніла дзе, скажы?
Сюды мы з ім прыходзілі на Яна.
О, як няўтульна ў адзіноце жыць!
І затуляла белы твар туманам.

І прыпадала да зямлі грудзьмі...
І — Чорныя Груды загаварылі:
Даніла твой адвергнуты людзьмі:
Аслеплага хлапца захаранілі.

Магіла — тут: шыпшына ля грудка.
І, як загад, скажу табе, цыганка,
Каб не шукала ты свайго сынка —
Ён паляшучкай знойдзены ля ганка...

Зімой каляднай смелы быў мароз,
Цыгане шчадравалі, варажылі.
І да вакон, нібы сам Бог прынёс,
Данілавай матулі палажылі:

Маленькі скрутак (кропельку жыцця),
Загорнуты ў цяпло старой аўчыны...»
Скажы, Каханне, колькі пачуцця
Патрэбна мець, каб мужнай быць
жанчынай?! —

Світанне перапытвала Груды...
Валун маўчаў бязлітасна і нема.
Ён бачыў столькі за свой век Бяды,
Што засланіў бы ёй, як хмарай, неба...

Таму й ляжыць ля вёскі Камяні —
На скрыжаванні гулкага былога.
*І ты, мой верш, яго не праміні* —
Ён столькі знае пра любоў, нябога.

І калі кветка-папараць цвіце,
І Беларусь раздорвае заранкі,
Сярод вачэй няма слязы чысцей,
Чым тая, якой сказ вяла *цыганка...*

# МАЛЮНКІ СЛОВАМ

*Галіне Шаблінскай з удзячнасцю...*

*

Ходзіць сум Дунаем і ў жаль-дудкі грае.
Дзве кішэні (з песень!) раздарыў гасцінцаў.
Дзень за век купіў бы, ды часу не мае...
Адчыні, случанка, вачам браму сэрца,—
Дзесяць год каханне — высачэй святла!

*

Толькі ўсяе й долі, што чорныя бровы.
Долам казак ехаў, долам — даліною.
Вёсны пераспелі. З дарогі — збіваўся.
Праз чужу сваволю маладосць здзівачыў,—
Напалохаў сонца — зайшло ў хмары летаў.

*

Каню сена дайце, ды й яшчэ аброку.
Ночкай халасцяцкай — ценям размаўляці.
Рубля залатога згубіў ваярочку.
Пачакай, вяселле, да куцці-калядаў,—
Тое, што ўпярэчкі — ласкі супраць Божай!

*

Вуснам мёд як піці — раю і не раю.
Дбаці пра другога — з табой размаўляці.
Бяры ў посах долю — вачам, сэрцу роўню.
Галінай зялёнай памяці не ўдарыць,—
Ваду арол носіць, з небам падрастае!

*

Вечар-пераспелачак, дарога — малая.
Зоркі апаўночачкі збеглі з завячоркамі.
Дунай перавязаны ў восем сінявіц.
За чужыя радасці — казаку кручыненька,—
Не парадзіць — колькі год: мудра каму
жыць!

*

Ішлі вёснаў бродам удальцы ўдалыя.
Карагод вадзілі. Крыніцу капалі.
Веяў буйны ветру з высокага гаю.
Долі дзве сышліся ля адной случанкі,—
Не дадуць спакою песні і вякам!

*

Вып'еш (з вішнёвых гукаў!) крыніцу.
З роду харошых — любасці словы.
Здрада як здрадзіць — навек не ўтоіш.
Злучыш слязою неба з зямлёю,—
З зораў звуглелых — болю радок!

*

Бачыш раз апошні сваёй, не тваёю.
З палыновых сцежак — лета абручы.
Ручанькі звязалі хітраю любоўю.
Росанькі ніводнай плачам не ўбяліць,—
Два ўтужылі сэрцы, як Дунай скапалі!

*

Каля Случы ў лузе зялёны барочак.
Было мяне браці, як чакалі людзі.
Сакалок лятае. Далёка чувае.
Не адну на свеце, казак, мяне ўчуліў,—
Спозненая праўда й каменю ў мазоль!

*

Слуцкую суботу з надзеяй нядзелю,
Вытаптала долю праз граду-фасолю.
Калюча прысесці. Скоса падзівіцца.
Вось твая і сукня. Вось тває і грошы,—
Пісана й чытана пра Дунай-раку!

*

Восень перакліча вырай да адклічу.
Зачарпне трывогі клёнавым лісцем.
Любая — ні брату, ні мне — застанецца.
След на свой разлука скліча грай гракоў,—
Заўтрае — на заўтра. Сёння — на цяпер!

*

Шчабятаў галубе ў зялёнай лашчыне.
На правай ручэньцы ляжыць незлюбелы.
На чырвонай ружы вострых сем шыпоў!
Дзень вясельнай крушы і ў Случы не тоне,—
Ночы найглыбока ля зямных вышынь!

*

Доля ўчыніла княжую ролю.
Вывела з песні верш на дарогу.
З зоркамі слова ў светлую ростань.
Веку даспелы колас і голас,—
Случ ад Дунаю ў мора. вачэй!

## МАРГАРЫТА СКАРЫНА

---

*Вянок санетаў*
*Гістарычная фантастыка*

### ВІЛЕНСКІЯ ЗГАДКІ БЫЛОГА

Да вуліц — Замкавай і Бернардзінскай
Дарога ад Скарынавай друкарні
Ідзе, нібы ў касцёл на споведзь, пані...
Ты помніш, Вільня, першадруку дзіва?

Бурмістра Бабіча, з купецкай знаці?
Сяброўскі дом гаспадара Якуба?
Гісторыя — жанчынаю нам любай,
Калі вякі не ў попеле хаваці,

Імёны не раструшчваць у нябыце.
Санет мой, пакланіся Маргарыце —
Каханцы Генія, Святла Княгіні!
Дай успамінам — блаславенне Бога.

І не прасі ў Любові анічога,
Калі згарае лета на каліне.

## КНЯЗЬ ЮРЫЙ АДВЕРНІК

Калі згарае лета на каліне
І восень мае воблік чалавечы,
Адвернік-князь збіраецца на веча.
(Няма пустое думкі у той хвіліне).

Да абразоў сыходзіць Багамацер.
І не палае жудасны агменю.
Няшчасця і бяды на свеце меней.
Ліцвінам — мову маці шанаваці.

Над словам родным, як святой малітвай,
Схіляццай. За свой край ісці на бітву
Духоўную — цяпер і ў даль-часіне,
Знаць: беларусы з тоганька народу —

Спрадвек шануюць гонар і свабоду.
Было. Ёсць так сягоння. І ва успаміне...

## СПОВЕД ПРА ФРАНЦІШКА І МАРГАРЫТУ

Было. Ёсць так сягоння. І ва успаміне:
Нязгасным сонцам свеціць нам радзіма.
(Ёй дзякуй — генія што нарадзіла.)
Санет мой, шчырым будзь пры мудрым
Сыне:

Дазволь гарачы сповед пра Каханне —
Францішка й Маргарыты зведаць свету.
(Першадрукар быў лепшасным паэтам!)
Свой храм высокі расчыні, Маўчанне!

Маленне сэрцаў двух, як Песня Песняў,
Хай з алтара стагоддзяў уваскрэсне.
Хай памяці растопяцца ільдзіны.
І ў горад Полацк — мяцярынства лёсаў —

Хай музыкай нячутай, боль-галосай,
Прыходзіць з гордай Тайны Сказ праўдзівы.

## АПОШНЯЕ РАЗВІТАННЕ З СЯБРАМ

Прыходзіць з гордай Тайны Сказ
праўдзівы,
Як быў распалены пажар на лёдзе,
Што геніяў — адзінкі — у народзе!
(І невукі іх за нішто судзілі...)

Але зірні ў нябыт, мой часе-дружа:
Зноў Вільня ўваскрашаецца з былога,
Адвернік-князь апошняю дарогай
Жыцця ідзе: (памёр пакутна, мужна).

За ім няўцешна Маргарыта плача.
І аўдавелы крок яе гарача
На шлях жальбы ступае ў вечар нема...
Ты дзе, Скарына? Сябру напаследак

Шапні малітву з Бібліі, без сведак,
Як край Зямлі быў злітаваны з Небам.

## НЯЗВЕДАНАЕ ЗАЎТРА

Як край Зямлі быў знітаваны з Небам,
Апошніростань-крык пачулі травы.
І злева — крыж касцёла, вечар — справа,
Люд: сыта-сыценькі і хто без хлеба,

Хто без духоўнасці пры грошах-злаце
Стаялі... спачувалі з моцы-сілы.
Самотнай Маргарыце ж слова: «Мілы!»—
З былых начэй гукаць, слязьмі шукаці.

І знаць не ведаць, што Францішак стане
Пра год яе Сапраўднейшым Каханнем:
З княгіняй возьме шлюб. І першынь-сына
Накліча імем — Сімяон! — высокім...

І прыпавольвацца ў хадзе аблокам,
Як Біблію перакладаў Скарына.

## ПАКЛОН БЕЛАРУСКАМУ ПЕРШАДРУКАРУ

Як Біблію перакладаў Скарына,
Нададзена (знаў!) Клятва яе донцам,
Псалму найкожнаму — праменнасць Сонца.
*На Роднай Мове кніга быць павінна!*

І Беларускі Друк (у ліку першых!)
Наблізіў да Навукі звонкіх Высяў...
Дазволь, Санет, насустрач Майстру выйсці.
Прывеціць «бакалаўра» святам верша.

Мазолі адгаіць з яго далоняў.
І срэбра-снег не заўважаць на скронях.
Гукнуць герояў з казачных былінаў...
З далёкай Чэхіі вяртаецца дадому

Шукальнік адкрыцця, цярплівец стомы.
(Трывожнаю была тая часіна.)

## ВЕЧАР У СТАРЫМ КАСЦЁЛЕ

Трывожнаю была тая часіна.
Смялелі езуіты і хваробы...
Ды талент, калі ёсць, ён — непадробны.
Ён — аднацэлы (не з дзвюх палавінаў).

Чакай, Санет! Спыніся ля касцёла.
Княгіня свечку ў храме запаліла:
Цябе, Адвернік-князь, я адлюбіла!
І рукі — выпрастала да Анёлаў,

Што з фрэсак пазалочаных глядзелі
На Маргарыту ў чорным і нядзелю...
Жабрак маліўся на скарынку хлеба.
Сляпы з глухім абменьваліся крокам.

Скарына госцем прыпыніўся збоку.
(Жыццё — жывога дня ўзяло патрэбу).

## ПАЖАР НА ВІЛЕНСКІМ ЛЁДЗЕ

Жыццё — жывога дня ўзяло патрэбу.
І радасць. І пракляцці. І расстанне...
Зімой каляднай будзе ў іх вянчанне
Празорлівец сказаў. (Мо й так і трэба?!)

Францішак з Маргарытай выйшлі з цемры.
Сустрэліся вачыма, твар да твару.
Смялелі ў зрэнках воплескі пажару.
З маладзіком зліваліся два цені.

Святлела ноч пад клёнамі, пры зорах.
Віленскі ранак быў, як з казкі жораў.
(Касцёр на лёдзе ён распальваў мігам).
Стаялі Двое перад адным Лёсам.

І кожнаму было па трыццаць Вёснаў...
Пра гэта ў Вільні помніць даль-адліга.

## ДВОЕ З АДНЫМ ЛЁСАМ

Пра гэта ў Вільні помніць даль-адліга,
Худзенькая жанчына ў сіняй хустцы,
Яна віталася з марозам хутка,
Масты з ільдоў разгойдвала да Рыгі...

Не спаў Скарына. Думаў пра друкарства,
Драўляную будову каля плошчы.
(У геніяў — разборлівейшы почырк!
Не зразумець такое й сёння хамству.)

Па горадзе паўзлі слізотай плёткі,
Што Маргарыта справіла «угодкі»
Па Юрыю — й знайшла мілосці мігам.
Княгіня ўсім адказвала ж маўчаннем.

Зайздроснікам ці асуджаць каханне?!
А свет дзівіўся з Беларускай Кнігі.

## МАРГАРЫТА РАСКАЗВАЕ ПРА СЯБЕ

А свет дзівіўся з Беларускай Кнігі,
Як лекары з амурскага жэньшэня...
Манастыры ж стаялі на каленях.
Крышыліся ў іх ночы, як вярыгі.

Манашкі юныя ў каменных келлях
Жылі. Насілі чорнае адзенне...
О колькі там загубленых надзеяў,
Разбітых сэрцаў (кожнае ж — не келіх!).

Чаму пра гэта я пішу ў Санеце?
Францішку Маргарыта ў садзе-леце
Даверліва паведае пра тое,
Што дзесяць год «набожніцай служыла»,

Над абразамі ластаўкай кружыла...
(Бо што святое — то й для ўсіх святое!)

## ВІЛЕНСКІ МАНАСТЫР

Бо што святое — то й для ўсіх святое...
Ды супраць боскасці Сташкевіч-княжа
Зрабіў аднойчы дзень зімовы кражай.
Пад просьбы новай жонкі маладое —

Дачку ад польскай пані, Малгажату:
(Адзіную наследніцу гнеў-бацькі.
Хіба дзіця у восем снежняў цацкі?)
Адвёз у манастыр. Адмовіў святу —

Каляднаму. Распяў, як крыж, маленства.
(Што значыць, людцы, бабскае шаленства:
Ахвяры невіноўнай — смерці хоча!..)
Дзяўчынцы — жыць. Прыняць сан
Маргарыты.

І для старой ігуменні быць світай —
Ад бела дня да чарналікай ночы.

## ЗНАЁМСТВА З КНЯЗЕМ. ВЯРТАННЕ Ў ВІЛЬНЮ

Ад бела дня да чарналікай ночы
Малілася да боязі манашка.
Занятак гэты да нясцерпу цяжкі.
(Ці кожны з нас пакутаваць ахвочы?)

На Тройцу ў манастыр гасцей склікалі —
Вяльможных, самых знатных мецэнатаў...
Ад іх ігумення прымала плату —
Дарункі прагавітымі рукамі.

Жывой ледзь Маргарыта збегла ў горад:
(Прыслужніцтва не вымярцвіла гонар!)
Слязу да дненца ж выплакалі вочы...
Бяглянцы — расчыніў прытулку дзверы

Адвернік Юрый — князь.
Вярнуў ёй Веру:
Што шчасце ні на крок ад Зор не збочыць.

# ВЯСНА. ПРАЦА. І КАХАННЕ

Што шчасце ні на крок ад Зор не збочыць —
Паверыць маладосць: (вясны натхненне!)
І Маргарыта зведае цярпенне
Пісьма і кніг. Узновіць смех дзявочы.

Адвернік-князь яе вучыў навукам —
Народнай медыцыне і пчалярству.
Прасіў, каб не зайздросціла: ні панству,
Ні золату... гаіла працай рукі.

Сяброўства тое выльецца ў каханне.
Без фальшу гэта будзе (як світанне!)
Душа ў душы глыбозазна патоне...
Ды князь раптоўна захварэе воспай.

І будзе найсамотнай тая восень,
Калі Любоў — Сапраўднейшая толькі.

## ЭПІЛОГ

Калі Любоў сапраўднейшая толькі,
(Хіба ёсць перашкоды ёй на свеце?)
Час эпілогу наступіў, Санеце!
...Але паслухаем, што скажуць Зоркі.

А тое — што багацце ўсё ад мужа —
Раздорыць на друкарства Маргарыта.
(Міг дабрыні ў стагоддзях не забыты!)
І подзвіг той — з назоваў самых мужных.

Што мне дадаць да ісцін Першародства?
Сягоння кніг — вялізазнае мноства,
Але вазьміце Першую з паліцы
Гісторыі, пакутнай да знямогі.

Народ сцярпеў, з сямі бядот, трывогі.
Нам Век Вякоў за гэта ўсё маліцца!

## МАГІСТРАЛ

Да вуліц — Замкавай і Бернардзінскай,
Калі згарае лета на каліне,
(Было. Ёсць так сягоння. І ва ўспаміне.)
Прыходзіць з гордай Тайны Сказ праўдзівы,

Як край Зямлі быў зітаваны з Небам,
Як Біблію перакладаў Скарына...
Трывожнаю была тая часіна:
Жыццё — жывога дня ўзяло патрэбу.

Пра гэта ў Вільні помніць даль-адліга...
А свет дзівіўся з Беларускай Кнігі,
Бо што святое — той й для ўсіх святое —
Ад бела дня да чарналікай ночы:

Што шчасце ні на крок ад Зор не збочыць,
Калі Любоў — Сапраўднейшая толькі.

# СЛУЧАРЫНЫ

*Франтавіку Вялікай Айчыннай,*
*свайму бацьку Валянціну Іосіфавічу*
*Аколаву — прысвячаю*

*

Праз дзесяць год ты нарадзілася пасля вайны,—
Тысячагоддзю ж хопіць пра Вялікую Айчынную
сніць сны.

*

Як пясчынак — сумненняў, да ісціны ж шлях
найадзіны,—
Для любові і працы случанская, доня, радзіма.

*

Не прыводзь свой верш-радок да чужой
эліты,—
Знакаміценькі багаты, як зайздроснік сыты.

*

Спакойны вечар-сон, якім пражыты дзень,—
З учынкаў маладосці і старасць у людзей.

*

Здзіўлёны свет не дзіў, дачка, сабою,—
Ад мітусні жыццё жадзёна да спакою.

*

Вырошчвае сэрца вялікія думкі крывёю,—
Думай пра Бога і зоркі сваёй галавою.

*

Адрозніць зло ад дабрыні малому розуму
загадка,—
З дзвюх бедалосцяў выбраць меншую — знак
мудрасці, дзіцятка.

*

Як ідзеш да людзей і глядзіш — і з табой яны
так,—
З лебядою густой на градзе не памірыцца
й мак.

*

Не прынімай міраж святла за невядомы воблік
Бога,—
Не рэшата з вадой — крок грэшніка да алтара
святога.

*

Каханню, што ў муках, малітвы як моліш:
жывы чалавек,—
Глянь, доня, на камень дарожны ў магільнай
змярцвелай траве.

*

Справядлівасць жыцця — вось што люд ад
звяр'я адлучае,—
Ведай гэта і ў Мінску: мне ў верш паўтараюць
случане.

*

З вуснаў мудрых сцякаюць расінамі словы,—
Гэтай ісціны боскай, дачка, сказ не новы.

*

Навыперад бегаць звышгорда, як певень без
вачэй,—
Ноч — кожны дзень лагодзіць, не крыўдзяць
дні й начэй.

*

Злачынства цяжкое — зайздросная
зайздрасць,—
Духоўнае, доня, з мядовага розуму — радасць.

*

Што не ўгледзець агнём, не падслухаці
громам,—
Не расхмеліць віном, толькі Богу вядома.

*

Не помсці за крыўды, плаці лепш дабром,—
Не з кожнай маланкай сябруе і гром

*

Дабрыня й чысціня — два анёльскія знакі,—
Як ударыш дзіця — чалавек аніякі.

*

Не водзяць да царквы любоў і страх за рукі,—
Хто ісціну шукаў — век ходзіць без прынукі.

*

Любасць і пяшчота — дар людзей вялікіх,—
Не саромся, доня, кветак з яблынь дзікіх.

*

Пустазелле губіць поле, а няслава ўсё
людское,—
Помні, доня, сваёй доляй — грэшна што
й святое.

*

Не вучыць дзяцей радзіме, як грабёж
тварыцы,—
Мурашу мураш былінку радзіць, як насіцы.

*

Адчай падманлівей за кропельку надзеі,—
Вясной сукенку белую сады ўсе панадзелі.

*

Сляпыя памкненні — разгледзець лік Божы,—
Жыві пры сумненні й душы ў асцярожы.

*

Нараджаюцца дзеці — з кулачкоў дзве
далонькі,—
Паміраюць старыя, рукі — крыллямі, донька.

*

Розум, зчорнены ядам падману, пракляцце,—
Поўні — поўная раніца ў бацькавай хаце.

*

Не сумуй на заўтра — дзень яшчэ пры сонцы,—
Не сядзіць трывога, ані міг на ўслонцы.

*

Саладзей, як ісціна, не адпіць віна,—
Дарога ў вясельнае бела давідна.

*

Лепшыя думкі і словы з маўчання,—
Зоркамі слухаюць зоркі случане.

*

Па свеце вялікім паволі-паволі,—
Ходзяць случанскія з веку ў век долі.

*

Донечка неба — душа чалавеча,—
І ў сэрцах дарослых яна, як малеча...

# ПЕРАСЯЛЕНЦЫ

*Мінская паэма*

## УСТУП

Дачарнобыль... і паслячарнобыль.
Ружа дзікая, з чорным шыпом.
Боль — як сталь найвысокае пробы.
Як расшчэплены гром.

З чорным невад-крылом над стагоддзем.
(Не закрэсліць. І морам не змыць.)
Мы наіўныя... што — хутка пройдзе,
Ён, як чэрнь — адчарніць.

Кажа Фёдар Іванавіч:
«Людцы,
Мы прыехалі ў Мінск «нехачмі».
Край палескі — у атамнай будцы.
Дзень — хрышчоны слязьмі.

Вось чаму не шкадобы (жальбіны!)
Я прашу ў гараджан (паляшук),
А вясковае маці-гардыні:
Думак-працы для рук.»

## ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ ПАЛЕШУКІ

Яны ніколі горад не палюбяць —
З ягонай чаркі радасць, боль прыгубяць.
Не захмялеюць ад жыцця ў сталіцы.
Зімой накормяць галубоў, сініцаў.

Палескі дыялект не згубяць раптам.
Народныя не знішчаць песні, жарты.
На восем частак сэрцы не разрубяць.
Яны ніколі горад не палюбяць!

---

Да скроняў веку мудрасць прыгалубяць...

## УСПАМІН ГАННЫ АНДРЭЕЎНЫ

Той дзень вясновым быў, падмогай святу...
На зелень мяты

Раса пярсцёнкі раніцы кідала.
Траву гукала.

Дарогай той да хрэсніцы хадзіла —
І ўнучка Дзіму

Лячыла ад гадзючынага ўкусу...
Род беларусаў

Народных лекаў не забыў тайніцы.
І бліскавіцу —

З клубамі дыму ўгледзела (і-у-д-у!).
Пакуль жыць буду

Страшней не ўгледзяць вочанькі нічога.
Вось тое ўчора!

Шкадованых не ўшкадаваць, нябога...
Мы ўсе — ад Бога!

## НЕПІСЬМЁНЫ З ПРАКЛЯТАЕ ЗОНЫ

З дому — пісьмы, а гэтым — няма.
Не напіша змярцвелая зона,
Як над стронцыем белень-зіма
Тчэ для зор і снягоў «парасоны».

З дому — пісьмы, а гэтым — няма.
Не напіша змярцвенне жывому.
Тая зона — прыродзе турма,
Гнеў-праклянцце для чорнага грому.

## КАЛЫХАНКА ДЛЯ РАНІШНІХ ЗОР

Палеская вёсачка, з назвай — Няможна.
Тут — гэтак трывожна.

ЧАЭС не сыходзіць з разгневаных вуснаў.
Атрутай — капуста.

Тут бульба — пад грыфамі: радый-нітраты,
Тут — хто вінаваты?

За што? За каго? І каму? Для сляпога —
Чарнобыль-дарога?

Палеская вёсачка, з назвай-загадам,
Ты болю — урадам.

Забудзь, ноч-радок, пра нязнаную жаласць.
Хай дзень будзе ў радасць.

І гэты. І заўтрашні. І пасляновы —
Як зоры ў Пакровы.

## СУБОТА НА ВУЛІЦЫ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

Яны ў чарзе маўклівыя на крыкі...
Перасяленцаў твар — пратэст бязлікім.
Не жаляцца, не просяць гандаль-скідкі.
І на мяшчан глядзяць адкрыта й гідка.

Калі, мой век, і станеш ты дабрэйшым,
Прыпомні: хто з людзей быў сёння —
лепшым,
Не баязлівым, а праўдзіва-гордым...
*Ці знойдзеш прабачэння ў вёскі, горад?!*

## ПЫТАННІ — АДКАЗЫ

— Намучаны?
— Чарнобыля парогі — як чорта рогі.

— Разлучаны?
— Зваротнае дарогі — няма ў трывогі.

— Навучаны?
— Да пекласці-знямогі — жыцця нябогі.

— Прылучаны?
— Палескія астрогі — цяпер для многіх.

— Разлучаны?
— З усім — што мелі! — Ці зразумелі?

---

— Край-Беларусь
(з бусліных гнёздаў птушка!)
— Боль — небу гушкаць.

## ДВОЕ З АДНЫМ ГОРАМ

Пра ліфт гарадскі яны шэпчуцца вечарам:
«Сенцы...»
Трагедыя чорнай пячаткай скляймоўвае сэрцы.

Дзед Федар, бабулечка Ганна прыносяць
да мінскай царквы
На споведзь — букеты мурожна-загойнай
травы...

Каліна-сястра, ты на чырвань спрадвеку
радзіла.
*Пакутнікі моляцца хворай Матулі-Радзіме.*

## АДКУЛЬ ДАБРЫНЯ?

Не шкадуйце такіх нас, любіце!
Дабрыня выспяляецца ў жыце.

Сінь валошак — у сініх вачах.
Бараніцеся слова — адчай.

Нам не ў сорам — прытулак часовы.
Нам абразай — пустыя прамовы,

Што мінецца бяда, ператрэцца.
Не пасіцеся ў зболеных сэрцах,

Крык-дарадцы, князі-дэмагогі,
Не кідайцеся слізка пад ногі,

Не шкадуйце, такіх нас — любіце!
Дабрыня выспяляецца ў жыце.

## ФУТБОЛ НА ЧАРНОБЫЛЬСКІМ ЛУЗЕ

На чарнобыльскім лузе гулялі ў футбол
Сем наіўных падлеткаў Іванаў.
Рэха ўдалеч разносіла:
«Гол! Ліўню — гол-л-л!»
(Спорт не любіць прытворства, падманаў...)

Бараўлянскае лета, хлапцоў не судзі.
Ім за што лейкемічная помста?
...На чарнобыльскім лузе, як старац, адзін
Дождж — у цень ад Чарнобыля ростам.

## СВЯТЫЯ ІСЦІНЫ ПАДЗЕЙ

Ёсць розныя на бедах спекулянты,
Праўдзівых сэрцаў — здрайцы, эмігранты,

Акцёрыкі, паў-людзечкі, артысты.
З такіх не змыеш бруд нічым дачыста.

Рассаднікі, духоўныя мікробы —
Маной спрабуюць адбяліць Чарнобыль.

Трывожны свеце, ты — пакутны гэткі.
(Мы ўсе твае — палоннікі і сведкі.)

Забарані жанглёраў-спекулянтаў.
Што з грэшных — пекла, знаў яшчэ і Дантэ.

## ВЯСЕЛЛЕ ВА ЎРУЧЧЫ

Было вяселле тое — як разлад.
Змаўкалі песні — вечарам, не ноччу.
Сем тостаў узнімаў за любасць сад.
Лістоце кланяўся сірочa.

Асенні горад крокі залаціў.
Шаптала сваццяː
«Гэта ж трэба:
Перасяленец шчасцейка ў жыцці
Знайшоў пад мінскім чыстым небам...»

Субота мела б радасны канец,
Калі б айчым нявесты маладое
Не зганьбіў чырвань свята:
«Пад вянец
Жаніх ідзе няправільна, не з тою.

Зяць — галадранец, голы паляшук?!
Наследства хворае пакіне роду...»
Гранёны персцянёк каціўся з рук —
Звон праклінаў маральнага выроду...

## АФІША НАД ПРЫПЯЦЦЮ

Чарнобыль, Беларусь,— пытае свет: пры чым?
— Маў-чым. Маў-чым. Маў-чым...

Адкажа хто? Калі? І прынародна?
— Бядзе свабодна-а...

Памылка за памылкаю... ці злічым?
— Хто з паляўнічы-ых:

...Няшчасцяў... прагне новых паляванняў?
— Быць па-ка-ра-нню!

## ЭПІЛОГ

Яны вяртаюцца — не транспартам, а ў снах
Да той Зямлі, што называлі Раем,
З гаркотай палыновай на губах.
За што іх лёс карае?

Капаюць бульбу. Ладзяць сон-бурты,
Збіраюць журавіны на балотах...
За што іх, веку, гневіш ты
Так доказна і ўпотай?

На мінскай «Камароўцы» — лаўкачы
Спраўляюць палітычныя банкеты...
Пе-ра-ся-лен-цы: слёзы май-начы,
*Чарнобыля — анкеты!*

# ПАЖАР СЛЯЗЫ

*Лірычная хроніка аднаго дня —*
*27 красавіка 1986 года ў Мінску*

## ПАСТСКРЫПТУМ БОЛЮ

Дачарнобыльскі май бараўлянская славіць
бальніца.
На зямлі Беларусі, з павышанай рояй, вятры.
І ў чырвоным сугліне расой збінтаваны суніцы.
Зноў дыміцца ў крыві зяляніны агарак лясное
зары.

Крэмень з каменем зблытае бераг палескі
кручасты.
І свістальныя ружы захутаюць роспаччу твар...
Вось чаму, паляшук, твае думкі пра гордае
шчасце
Не прымае вачэй маіх сініх, балесны да крыку,
пажар.

Штосьці ў свеце, зраднёвым па самых
вялікіх рахунках!
*Дачарнобыльскім днём* і святлом нестранцонае
атам-вады,
Перацэнена сёння: пакутна, адчайна і хутка.
І цярплівая Вечнасць ад ранаў свае не хавае
сляды...

## КАНТРАСТЫ

За Домам мод тапіла сонца яма
У свежых нечыстотах гарадскіх,
А ў гастраноме ўзважваліся грамы
І кілаграмы для харчоў людскіх.

Цяклі капейкі і рублі разліку.
Вітрыны бараніліся жанчын.
І манекенаў плавіліся блікі
На сценах Мінска і дажджу плячы.

І чырвань халадзела фарбай страснай.
З афішаў тэатральных шрыфт сцякаў...
Ты мне сказаў:
«Кантрасты — ёсць кантрасты.»
І засмяяўся, што без слёз шчака,

Што рукі не прыкладзены да сэрца,
І не прашу:
«Вярніся, нібы гром...»
І дзень без логікі быў і без сэнсу —
Як раніцы Траецкай акаём.

## НЕЗАБЫЎНАЕ

Слязу не прымарозь. Дакор не перабольшы...
Сузор'ем яркіх слоў ты свеціш мне, харошы!

Бязладзіца жыцця. Супольнасць развітання.
І вобземлю надзей раздробіцца каханне.

Раскрышыцца: на боль, зярняты адзіноты.
Згубіла без цябе прыход я ўсім суботам,

Нядзелям, чацвяргам, ironіям і плачам...
А ты мне ўслед ізноў:
«Шукай сваю — удачу!

Пад салаўіны свіст і горкі дым каліны —
Свой абпаліла лёс табою, мой адзіны...

Палі душу ці не, знявечвай да жывога —
Іду праз маладосць паўз цень свайго былога.

Прыступкі дзён, вясны... І як грымёры твараў –
Мой *Дачарнобыльмай*, раскрыжаваны ў марах

І жаласць не прыняць. І не здрадніцца з бытам.
І памятлівы зноў: ты мне — навек забыты.

## НАД РУЧАЁМ НЯМІГІ

Мяне праклялі адзінота і жаласць.
Я з імі — нічыйная, бераг пяску...
Ды ходзяць суседзямі радасць і зайздрасць.
І цыніка позірк з'яўляецца скуль?

Калі? Ад якога пажару без дыму
Зямля запаліла чаромхі зару?
Стамілася з векам і я ад ідылій,
Ды грошай за шчырасць з сяброў — не бяру.

Ручай ад Нямігі — як просінь заліва.
Вясна астравамі ў каханне плыве.
І хто з нас на Міг ці на Вечнасць шчаслівы?—
Чарнобыль не скажа і грому ў траве.

## ПРЫПЯЦКАЯ ЗМЯЯ

Змяя паўзла паўз Прыпяць па зелені дарожнай.
І пырскалася ядам смяротным асцярожна.

Пярэстаю спіною, як скураю з каросты,
Краналася палыну, што быў, на дзіва, рослы.

Шыпела, як вуголле. Стагнала, як пяць ранаў.
І нервы белых пятаў вышуквала старанна.

Жыццё з травы збівала, як праўда з вуснаў
крыкі.
І Беларусі ранак да гневу быў бязлікім,

Бездапаможна-млосным, як цыніка спагада:
З атручаным даверам і чорна-прыкрай праўдай.

Змаўчаць бы. І ні слова — пра яд змяіны,
гнуснасць...
Калі б ў чалавецтва адсутнічала лютасць.

І подласць. І мяшчанства. І чарналікасць
жалю...
Змяя паўзла паўз Прыпяць, не шкадавала
джала.

## НЕНАПІСАНЫ ПАРТРЭТ

Пагаворым пра ноч і пра Мінск каля зораў,
Як палескі адчай пра Чарнобыль учора.

Кожны ўспомніць сваё, што смыліць каля
сэрца.
Раскажы, як твая адзінота завецца!

Яна ў поўнач расчыньвьае ціхія дзверы.
Не малюй мой партрэт на расянай паперы.

Фарбы неба застынуць на сініх палотнах.
Табе вербы прысняцца, ка мне прыйдзе
лотаць...

Нас вясна развядзае, раскрыжуе ў два лёсы.
Сёння гром над Нямігай засне безгалосым.

І ў світальную тайну нямога прадоння
Заляцяць, як дзве чайкі, з табой нашы долі.

Пасля цынік разважыць:
«Партрэт недарэчны...»
Вось і ўсё пра вясну, Беларусь і
Шлях Млечны.

## МАЎЧАННЕ ВАЧЭЙ

Адмаўчу, як за тысячу сцен.
Твайго імені тайну не выдам.
І не выпрашу шчасця ўзамен
Ні ў жыцця, ні ў законаў Эўкліда.

Геаметрый дарожных слупы
Узаконяць адлегласць былога...
Любы мой, мы ў маўчанні — рабы.
Лёс адзін. Развітанняў так многа!

Зашыфраваны позірк вачэй
Прачытае слязьмі адзінота.
Любы мой, век праз Вечнасць цячэ —
Незваротна, балюча і ўпотай...

## НА ТЭАТРАЛЬНАЙ СЦЭНЕ

Жартую. З іроніяй, смехам сяброўства.
Няўжо ў майго суму такое сіроцтва?!

Цыркачкай праходжу ля згорбленых спінаў,
Ля зрэнак абрываў. І душ каляінаў.

Не верыцца: твары сяброў, нібы маскі.
Хіба патрабуе сумленне падказкі?

Лаяльнасць адносін. Пачварства выгоды.
А вулей пчаліны змярцвелы на соты...

Жартую, як вусны ад жалю ратую,
Ці нервы *Чарнобыльскім болем* гартую?

## НА БЕРАЗЕ СЛУЧЫ

Пра быт пагаварылі, кіно, газет палосы...
А дзень такім застаўся пустым і безгалосым,

Як калій салігорскі, раструшчаны туманам.
Мы кожны перапоўнены свайго жыцця падманам.

Фальшывінкі. Смяшынінкі. Аксома ад цынізму.
А нехта зноў паклоніцца так нізка эгаізму.

І словы:
«Любы! Родненькі!»—
каўтне, нібы цукерку.
І ненавідзець сёння мне з наймодных плеч сукенку.

Глянцаваныя гузікі і пах ад валідолу...
І першы раз няроднаю вяртацца ў прыцем дому,

Дзе Кулакоўскі прозаю пісаў пра вёснаў човен.
Абаранілася ў маёй памяці, грымотлівае ўчора.

Касынкі Случы выплывуць з разліву зеляніны —
Пaслячорнобыльскія раніцы, як змеяў імяніны...

## АПРАЎДАННЕ САМОЙ СЯБЕ

Гардлівы, як і ўсе. Пабеленыя скроні...
Ты няньчыш, як дзіця, мяхі старой гармоні.

Жывеш за дзівака. Даўгі сяброў вяртаеш.
І вёсны ля вачэй, як трыццаць кніг, гартаеш.

Натрапіў на мяне. З гартані словы выняў,
Расцерушыў бядой з чаромхаў белых іней.

Да жаласці прывёў, бы ёй хацеў скарыцца.
Чаму ж той чысціні і небу не напіцца?

Дастаў да дна душы, нібы лязом да цела.
Я так з табой, былы, быць заўтрашняй хацела.

Чаму ж цяпер, як здань, як помста і адплата —
Не вінаваты ты. І я — не вінавата.

І, як званар надзей, зноў май надзеі кліча...
Дазволь слязой тушыць пажар, твайго аблічча.

## НЕАДПРАЎЛЕНАЯ ТЭЛЕГРАМА

Паштамта развяжлівасць... заўтра і потым
Цябе адсумую вясёлай маркотай.

Ніводнага слова слязой не закрэслю.
Збудую дом памяці ўмеласцю цеслі.

Высокія сцены, як храму прыступкі,
Затопяць паводкі вачэй — незабудкі.

І ўсё. Нібы неба дно мора кранула.
Ці ў сэрца маё тваім сэрцам кальнула.

І з рук тэлеграфных пабеглі пытанні:
Куды ты, каханне?! Куды ты, каханне?

## ПРАЎДЗІВЫ РАМАНС

Мне — не любіць цяпер цябе не страшна:
На травах стэпу ссохла лебяда.
І сонца не ўсміхаецца ўчарашнім.
І ў моры перасолена вада.

Мне — не гукаць цяпер цябе не грозна:
Сумежжа дня і вечара ў былым.
І выпраўляць памылкі сэрца позна.
І цень ад зрэнак бачыць залатым,

Мне — не вініць цяпер цябе не крыўдна:
Бездапаможнасць выракаць нябёс.
Слязой начы праз воранавы крылы
Ты асвяціў трывогамі мой лёс.

Мне — не любіць цяпер цябе не смешна,
Не паўтараць малітваю:
«Бывай!»
І рушыцца душа ў святым і ў грэшным.
І ў нервах памяці не знойдзе месца май...

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА ШЧАСЦЕ

З гары пясок прасочваўся на сцежку,
Як з колбы ліўся медны кугіарос...
Ты засланяў ад шчасця твар усмешкай.
І гаварыў пра гордасць мне ўсур'ёз.

Высока дні міналіся. І ў пастцы
Жыцця, дзе ёсць і зло, і дабрыня,

Слязе з вачэй на дол было не ўпасці.
І не дагледзецца пачуццяў дна.

І ў разуменні Вечнасці і Міга,
Дзе ўсё ў адзінстве і супроць яго,
Сляза маўчала, як вадой Няміга.
І з чорнага вугля крычаў агонь.

Таму ў закляцці ісцін і маўчання,
Дзе ні віны, ні суддзяў, ні расплат...
Не дакараю ані ў чым каханне,
І не углядаюся слязой назад.

## АДМОВА

Аспрэчу, што камень не плача трывожна
і ўголас,
Што сонца ў пустыні схінаецца промнямі ў пояс,

Што лес не скранаецца з месца карэннямі
сосен,
А ты не вяртаешся восенню ў водсветы вёсен.

Адмоўлю, што мора салёнымі штормамі поўна,
Што зліткі святла закаваныя ў летнюю поўню.

Адвергну, што пэндзлі малююць зноў
скіфскага бога.
А магма вулканаў праходзіць праз сэрцаў
дарогу,

Што з вуснаў віны аніводнага жалю
і ўскрыку...
Які ж за табой цень Вяртання вялікі!

## ВОСЕМ РАДКОЎ

Паводкай вырве бераг, нібы зуб з дзясны.
Шум войкне. Боль вады кранецца нерваў.
Цябе забыць мне. На праталіны вясны
Высокім сонцам будзе падаць неба.

І міг, і Вечнасць сыдуцца ў адно.
Зялёных траў застынуць светлафоры.
Цябе забыць мне. Перакуліцца век дном.
І стане сэрца, нібы шнур бікфордаў...

## НА КАЛІНКАВІЦКАЙ СТАНЦЫІ

Ад лютасці даверу да жаласці праклёну —
Адводжу тваю шчырасць, за семярых дарону.
Ад дзён, што груз вясновы не перанеслі ў словы.
І развітаннем ночы перачарнілі бровы.

Святло і цень з'яднalі, крыжы дарог распялі.
І стогарачым сонцам ільды намалявалі.
І за вякоў дзвярыма, ад Рыма і да Крыма,
Звязалі болем лёсы, як сокал свае крылы.

І ў наймічках шчаслівых хадзіць мне загадалі...
Няўжо цябе, мой любы, па нерву разакралі?
Нялюбасці скарыцца, нібы смалы напіцца,
*Ці прыпяцкай слязою ў вачах тваіх адбіцца?*

## 27 КРАСАВІКА 1989 ГОДА

Траецкіх дахаў чарапіца...
Рэстаўрацыйная субота.
Дзень выпусціць з рукі сініцу,
Як ты свой лёс з майго ўпотай.

Цаглін прараб не далічыўся...
Прывёз шафёр з Заслаўя гліну.
Скажы, хто з нас пералаўчыўся
Над словам жаліцца: «Пакінуў».

Нямігі нервы Свіслач крояць.
Зрываюць рэчышчы бетона.
*Чарнобыль сёння, нібы Троя...*
*Ці ў памяць, боль, прыходзіш толькі?*

## СВІТАНАК

А ў спешнасці, як грэшнасці, ёсць здрада
і мана.
Якая ж у маўчання нязрушная сцяна?!

Вышэй яе світання халодзезны агонь.
Снег падае з акацыі на Вечнасці далонь.

Ступлю ў нябыт Нямігі — нястрымны крок
назад.
І холад развітання вастрэй за край ляза.

Ты вучыш быць прыслужнай, пакорнай
у жыцці.
А як мне праз Чарнобыль каля вясны прайсці?!

Пытанні. Нараканні. Адказу не знайсці —
Снег белы ад акацыі пачаў слязой расці.

## ІРОНІЯ ПРАЎДЫ

Гуляю ў спрынт, як шторм у славу,
Што перакрышаная ўшчэнт.
Твой позірк суцяшальны — справа:
«Пачні яшчэ!»

Пачну. І раз. І два. І дзесяць.
Слязу заблытаю гульнёй.
І будзе май — як грозьбы дзецям —
Перад агнём.

А мне — ад слоў не адрачыся.
А мне — ад клятвы не сысці.
Парады злева:
«Налаўчыся:
Быць у жыцці...»

Іроній згушчаныя фарбы.
Сыграю ў спрынт, як ноч у дзень,
Нібы прызнаюся, што дар быў —
Любіць людзей.

## РАЗВІТАННЕ З ЮНАЦТВАМ

Як сусветам — вясною абняты —
Ты ні ў чым. І ва ўсім вінаваты.

Сабе — смутак пакінуў, мне — сьвяты.
Развянчаў маладосць.

Службай шчырасці ў памяць наняты —
Ты ні ў чым. І ва ўсім вінаваты.

На крыжах адзіноты распяты,
Шчасця рэдкасны госць.

Распракляты — як немасць санаты —
Ты ні ў чым. І ва ўсім вінаваты,

Калі можа любоў быць адплатай.
Заставайся — кім ёсць.

## ГРУЗ І ЛЁГКАСЦЬ ВЯСНЫ

Два камні ў Свіслач — твой і мой —
Ляцяць нароздараж — з маўчаннем.
Як снег, павольныя зімой.
Як боль, нястрымныя з адчаем.

Гульня надзей. Гульня вачэй.
Нямігі спыненыя крокі...
І хто, скажы, з нас быў лаўчэй
За май, які смяецца збоку?

Ён не даруе фальш, падман
І на світальным промні стронцый.
Пад ногі веку ўпаў туман —
І засланіў сабою сонца.

І сэрца стук, што груз трымаў,
І лівень, што сухменю здрадзіў...
Я горыч выракла сама,
Бо слугаваць хацела праўдзе.

## ВЯРТАННЕ СЛЯЗЫ

Сад выкіпеў чаромхай і акацыяй.
Пялёсткаў бель схалодзіла сады.
Ты ў лёс зайшоў мой на палескай
станцыі,
Бунтоўны і трывожна-малады.

Кастры травы зялёнымі падковамі
Кідаліся ў случанскі позірк мне.
Хто нас рассудзіць смехам і праклёнамі?
Хто нашу шчырасць страхам абміне?

Не знацца з тым, чаго і боль не зведае,
Не даравацъ скіфійцам горы зла...
І за расой ступаю моўчкі следам я,
*Што дачарнобыльскай травой была.*

## ЭПІЛОГ

Вузельчык палыну, развязаны сонцам...
Навошта табе пра Чарнобыль і стронцый

Вось тут, ля магілы Купалавай, дзеду?
Яшчэ дзве гадзіны міне да абеду.

Чувашскі акцэнт. Рускіх слоў недаборы.
Навошта пра фальш мы праўдзіва гаворым?

Пад ногі вясны блісне звон ад бляшанкі.
Вачам і турыстам так многа прыманкі.

І мала надзеі, што боль ператрэцца,
Трагедый не будзе, зрубцовых сэрцаў...

Стаім. Ледзянеем пад кіпенем сонца.
Дзядуля-батанік. Я. Мінск. Век на гронцы

Акацыі белай, да сквапнасці яркай.
І цяжка Зямлі, што здыміла цыгарку

Атрутнага яду. І праўду змаўчала...
Вяртаймася, дружа, хутчэй ад адчаю

Радзіму аблашчыць. Злосць вынішчыць
слова.
Над Белаю Руссю дня толькі палова.

Зялёнага ценю рукой не крануцца —
*І ў дзень дачарнобыльскі дням не вярнуцца...*

# ПАРТРЭТЫ

## У ВЯНОК МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ

*

Які народ — такі й паэт.
Які паэт — такія й людзі.
Пытаюся стагоддзю ўслед:
Што з намі заўтра будзе?!

Які ляснік — такі і лес.
Духоўнасць — тыя ж ураджаі.
Наш дзень — занятак не гарэз,
Не праз наіў — скрыжалі...

Які народ — такі й паэт.
Стаіць Максім каля тэатра.
Ён — мудрай Вечнасці сакрэт,
Паэзіі — жывая варта.

Які дагляд — такі й прыплод.
Які пасеў — такі і высеў.
Калі сумлення надарод,
То боль душы не выспеў.

Які народ — такі й паэт.
Жыццё. Жыты. Жніво. Жанчына.
Такі вялізазны сусвет,
Ды, як мазоль — айчына.

Якія песні — такі й лад.
Які мінор — такія й гуслі.
Напраўда, што ўсё — заняпад...
Я веру Беларусі.

*

Максім і Магдалена! Максім і Магдалена! —
Спявае цётка Лена.

Княгіняй да каліны зялёнай падыходзіць:
Ці ўвосень плод уродзіць?

Максім і Магдалена! Максім і Магдалена! —
Зграбае дзядзька сена,

Дзе камень ракуцёўскі прылёг на адпачынак.
І важыць век плячыма.

Максім і Магдалена! Максім і Магдалена! —
Дашкольніца Ірэна

Распытвае ў цымбалаў і бусла маладога:
Чаму так песень многа?

Максім і Магдалена! Максім і Магдалена!
Навекі, незатленна:

Паэт — адно з Радзімай, цярплівай і балючай,
Да мужнасці — гаючай...

## ДВА ІМЕНІ

*Даніле Канстанцінавічу Міцкевічу,*
*сыну Якуба Коласа, прысвячаю*

*

Мужнее век, падзей надрыўней голас.
Трывожней пошум маладой травы.
Ах, дзядзька Колас, мудры дзядзька Колас,
Жытнёвых слоў і песень астравы:

Расступяцца праз далеч — далячыні...
(У класікі — класічныя й правы!).
Чытаю верш пра мацерку-айчыну,
А ў небе лета шырыць рукавы.

І што з таго, што хворае мяшчанства —
Няслаўваю картузіцца ўначы...
*Паэзія — падзёншчына,* не панства.
*Паэты — салаўі,* не крумкачы.

Хітрэц-гандляр сівы залоціць волас,
Духоўнае знявечвае пісьмо...
Ах, дзядзька Колас, мудры дзядзька Колас,
Мінулага і сённяга вязьмо —

Надзейліва змайстравана ў стаголас,
Для будучыні гордай празапас...
Ах, дзядзька Колас, мудры дзядзька Колас,
Ваш сын падобен, як сляза, да Вас!

*

Пра Колас й Купалу не крычыце,
Мінулае па літарцы вучыце.

Ад холаду да голаду душы —
Духоўны гром царкоўнае цішы.

Пры Коласе й Купалу не лаўчыце,
З прытомленым стагоддзем адпачніце:

Хто — справа, злева, а хто — пасярод...
Якая Беларусь — такі й народ.

За Коласу й Купалу не кажыце,
Для біяграфій месца не лаўжыце.

Чытайце класіку такой, як ёсць.
Народных лёс — вялікасны, як госць.

Пра Коласа й Купалу не хлусіце,
*Грахі за мову ў дзецях адмаліце.*

За хіжых — гордасць не адмоліць боль...
Мой белы свеце, будзь самім сабой!

Пры Коласе й Купале не тхарыце,
Даларныя пажары прытушыце.

Амерыка — Амерыкай, а дом,
Калі бацькоўскі, не дазволіць злом...

Ад Коласа й Купалы не таіце —
Паслячарнобыль. Чорна не жывіце.

Па белым пісана:
Жыццё — жывым.
Неадлучальна, як агонь і дым.

Пра Коласа й Купалу гаварыце
Так, як валошка, калі спее ў жыце:

Загадкава. Аднойчы ў дождж-расе.
Паціху. Паасобку. І не ўсе...

## ДА ФЁДАРА ЯНКОЎСКАГА Ў ГОСЦІ

*

Грошы ўціснуць і мову ў інтрыгі.
(Раздзяржаўнасці сыты звярок!)
Беларускія мудрыя кнігі
Не замкне палітычны замок!

Змовы ўкленчаць і Слова ў манеты,
Разбрынчаць гукі ў танны разлад,
Беларускія звеку паэты
Над хлуснёю і подласцю над!

Клеркі Славы чужой і падклеркі
Да гісторыі лашчаць прыман...
Беларускі народ — не паперкі,
Не духоўны сляпенькі туман.

Ціхатварам — распродаж святога:
Перакошт, перацэнак кірмаш.
Беларусь — пад малітвамі Бога!
(Не з калодай раскіданых карт).

Перабоек і спрэчак вантробы
Развантроблены (еш — не хачу!).
Пеклам хрышчаны Паслячарнобыль —
Стаў навекі раднёй крумкачу.

Песні матчынай голас грудзінны
Пераслухае й Вечнасць сама...
Наймужней беларускай радзімы —
З гордай моваю ў свеце — няма.

---

...Да Янкоўскага Фёдара ў госці
Прыйдзе верш мой з Іспасава дня.
Як між зораў святло сад узросціць,
Вып'е мудрасць стагоддзя да дна.

І ў вялікую славу княгіні
Да прастола вякоў падвядзе
Мову родную, што не загіне
Ні ў Сягонні, ні ў Заўтрашні Дзень!

*

Ведаць будзе адзін толькі Бог:
Хто пакрыўдзіцца Моваю змог,

Далучыў яе ў горшыя з лепшых...
Не пішыце, спадарыкі, вершаў:

Тыя, хто ў перагандлі Душы —
Наслядзіў, начарніў, награшыў,

Перапэцкаў айчыну смалою...
Абароньвайся, Слова, сабою!

Твар Духоўнасці — як абразы!
Да апошняй ад першай слязы.

Песня матчына — чыстая з чыстых.
Добрай Восені, Свята Прачысты!

Адкасні мітульговае ў здань.
Буларусь аб сусвет не парань...

Ведаць будзе адзін толькі Бог:
Хто пакрыўдзіцца Моваю змог.

Хваткім сэрцам дамогся да іншых...
Для бацькоўскага краю стаў лішнім,—

Як жывы, кажа Фёдар Янкоўскі.

---

Мой паклон да яго — салігорскі.
Ведаць будзе адзін толькі Бог:
Як любіць цябе, Мова, ён змог!

## АПОШНІ ДЗЕНЬ КАМПАЗІТАРА АЛЯКСАНДРА АРЭХАВА

*

Гэта — здрадліва, Дзень — гнеў палітыкі
дзікай.
Бездухоўнасці голас, драпежна-бязлікі:

Заняславіць людское ў жывым чалавеку.
Памаліся, стагоддзе, грахоўнаму веку!

Гэта — бруднасна, Дзень — кроў праліць на
святое.
Браце-верш, чаму ў свеце зчужэлым не тое?

Маскі — веры, любові, дабра і надзеі...
Пасаромся, стагоддзе, нахабных падзеяў!

Гэта — дробязна, Дзень — лёсы подласцю
рушыць,
Счырванелаю самасцю вымасціць душы.

І свячу падвясці да вачэй, як рабыню...
Абароньвай, стагоддзе, жывога гардыню!

Гэта — дарага, Дзень — пераплочваць быломy.
Вечар веку знямілы ля Вечнасці дому,

Каля зорак святла і радка маладога...
Не адмоўся, стагоддзе, суда перад Богам!

Гэта — помсліва, Дзень — разззлачыніць
радзіму.
Мудрасць сэрцаў — ратунак пачуццяў адзіны.

Долу — весеньскі дождж, лістападу запясці...
Дачакайся, стагоддзе, любові і шчасця!

*

Гэта праўда з няпраўдай, як хлеб з чамярыцай.
Гэта золата з ядам на скуры гадзюкі.
Гэта Дантава пекла і вокны ў святліцах.
Гэта пастка вачэй і свабодныя рукі.

Гэта мёртвы камін каля плазмы надзеі.
Гэта споведз з пракляццем і немасць аорты.
Гэта космас у клетцы і ў нервы падзенне.
Гэта гордае сёння і горкае потым.

Гэта крок праз сябе, як уральскую домну.
Гэта вобраз Алесяў, Афелій, Джульетаў!
Гэта храм, што ніколі не стане вядомым,—
*Гэта Верш пра Каханне — распяцце паэтаў!*

## МІНСК І ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ

*

Цвіце лён — на кужаль. Жыты — на жытное.
Шляхі — вядуць з Рыма. Гарчыць палын —
стэпам.

Радзіма навекі ўслаўлёна Язэпам.
Матуля і мова — з калыскі адное.

Кляніцеся клятвай ад веры святое.
Крыжы ад былога асвечаны небам.
Духоўным карміцеся змоладу хлебам.
Не дзеліцца мужнасць на двое й на трое.

Жывым пры жыцці ўсё да схочу жывое.
Не грэбуйце родным з адчэпам, з адгрэбам...
Кляніцеся клятвай ад веры святое.
Радзіма навекі ўслаўлёна Язэпам.

*Матуля і мова — з калыскі адное.*
*Духоўным карміцеся змоладу хлебам.*

## З ВЕРАЙ СЯМЁНАЎНАЙ ПАЛТАРАН

*

Кубак з неба адзін, а не два...
Адпівай, ноч, пітво залатое!
Ростань, хмелем тваім — галава.
Грэх, чаму ты ізноў пра святое?!

Адмілоўвае ранак лісцё.
Закалінена чырвань пладамі.
Вечнасць любіць, як сына, жыццё.
Дык чаму ж адзінота між намі?

Па-драпежніцку, з воўчым нутром,
(З лютай злосцю, як боль з кіпцюрамі!).
З нерваў памяці — сцішаны гром,—
Так сіроты ідуць за царамі,

Калі жалю ззалочаны звон
Грозна кідае ў вершы манеты.
Кубак з неба... дождж звенчаны, клён.
Вось і ўсё, што сягоння ў паэта.

Той, што з імем жынчыны жыве,
І з натхнення ў душы мае раны...
Кубак з неба. *Праз Вечнасці дзве*
*Аднаму табе: заўтра, каханы!*

*

Хустка вечара ў цыгань квяцістая.
Светлавокі настрой — не для злых.
За табою, былым, ростань чыстая,
Ні праклянцінкі ў словах маіх.

Захінаецца век векам звечаным.
Ад святла да святла — берагі.
Чалавечнае і чалавечае
Я шапчу табе ўслед, дарагі.

Голас вечара — лірай жаночаю!
Песня ў жылах гарача звініць.
Як прарочыца — перапрарочыла,
А хацелася ж гэтак любіць.

І не знаць, як зара растрамбоўвае
Зоркі ў снезе (рыпяць палазы!).
Як разбожвае Бог, выпрабоўвае
Вочы вернікаў грузам слязы...

Да святога прыходзяць святоўнікі
І са споведдзю з нематой.
Словы Вечнасці, як малітоўнікі,
Праз два лёсы *ідуць пехатой...*

## ПАМЯЦІ ТАМАРЫ ЧАБАН

*

Не засаромлю след апошні ад кахання,
Не так, як у людзей яно... ну, што ж,
Цяпер я ведаю, чаму галосіць каня,
Калі жытоў чакае смагны дождж.

Расу да траў прыводзяць не прынукай,
(Цярплівы шлях — да спелых каранёў).
Мае з дачушкай звенчаныя рукі
Лёс выпусціў з гарачых даланёў:

Стагоддзя, расстагоджанага — спехам,
Падзей, што не прадбачаны нікім...
Не засаромлю плач апошні горкім смехам.
*Сяброўства для сяброў, жыццё, пакінь!*

Калі святлом натолішся да схочу,
Як свечкаю расплаўленай пагляд...

Зірну наўслед каханню ў Жэневыя вочы:
Слязой, што не рассоліцца назад.

*

За табой, маладосць, толькі Бога — правы,
(Малітоўнае ў першым з найпершых!)
Да травы зоркі росныя йдуць, да травы,
Як да слова праўдзівага — вершы.

За табой, маладосць, толькі ружы з рукі,
Плод каліны чырвонай — сашчэпам...
Праз стагоддзя парог адмінаюць вякі,
Перамоўчныя толькі мо з небам.

За табой, маладосць, толькі чысты прасцяг.
(Не адмерыць, не вызначыць часам!)
Мудрасць гордага сэрца, паклоны жыцця,
Шчасця з вёснаў налітая чаша...

## ЗЯМЛЯЧНІЦЫ ГАЛІНЕ МАКАРАВАЙ

*

Перамовімся болем — і толькі.
Хустка памяці ў Вечнасці столкі
Роўна складзена, мулка вятрам.
*Ростань* ростанню гневіцца нам.

Анікому ў дарунак — ніякі
Ані хоча... хадой небаракі

Ад калін да зімы — басаnож.
Блаславі *яе* крок, з песень, дождж!

Адратуй, адбажы доляў долькі.
Перамовімся болем — і толькі.
Адсланнё, нібы выцераб зорак.
Хустка памяці — з Вечнасці столак

Роўна складзена... грэшна вятрам.
Холад-жар да апошняга — нам!
Зацінаецца зрок у вяртанне:
Вось што можа з сабою *расстанне!*

*

Так зарабляюць на хлеб для душы.
(Жаркасцю нерваў — па жылах!)
*Восень,* лістотай святой адгрherашы!
Мне без акцёркі — няміла.

Кроў — настаялыя ўсе палыны.
(Кожны слязою наліты!)
Выпіць каханнем тры моры віны,—
Вось што такое — забы-та!

Крэслены громам ціхоты начы...
(Не падыйсці да такога!)
*Восень,* тэатрам падзей адмаўчы!
Боскае — толькі аб Бога.

Людскасць людская, ты з правам суддзі
Вынесеш дням прыгаворы.

Так зарабляюць на сповед адзін —
Множнае Вечнасці зоры,

Долу калі найжыцейства — з вачэй,
(Не прарасце дзе нічога!)
Дзе Вы, Галіна? Вас многа яшчэ!
Боскае — толькі ад Бога!

## ЭПІЛОГ ДЛЯ РАДКА

*

Сем і дзесяць, і тысяча колькі
Мнагалікіх разоў — несустрэч...
А ў натхнёнага ж сэрца — дзве долькі.
Вечар веку боль згойдвае з плеч;

Яркасць яркую вершу ў насенне —
Перадумвае існасць падзей.
Пяць і сорак... мільёны сумненняў
І аскома ад слоў: «Дзе Вы, дзе?»

Незваротны зварот да маўчання.
Пераклічам задобраны май.
Не аспрэчваюць спрэчак расстання —
Добра ведаю гэта сама.

Выкрасаюць агонь і дыханнем.
(Хістка-хістка слязе на шчацэ...)
Вечнасць складзена з гукаў вяртання,
З вузялкоў ад дарогі ў руцэ.

Барані сябе, *ростань*, ад гневу.
Невядома ў жыцці што й калі?
Толькі *Богу*, *душа*, толькі *Небу* —
Падуладная ты на Зямлі!

# ПАДАРОЖНІКІ ЛЁСУ

*

*Пімену Панчанку*

Вечар веку муруе сцяну —
Са святла й пералсытага ценяў.
Пра *вайну* Ваш радок, пра віну!
Беларусь бедалосці схацела...

Абеліскамі ўзважан граніт.
Мармуровае сонца былога.
Пра *вайну* Ваш радок, пра нябыт!
Вышынёй — ад магіл і да Бога.

Ад Вялікай Айчыннай сцягі —
Перачырвай чырвонай на волі.
Пра *вайну* Ваш радок, пра даўгі,
Што не вернем стагоддзю *ні-ко-лі.*

*

Паўвека графаманы й графаманчыкі
Баяцца, нібы куляў, вершаў Панчанкі.
Мо здарылася нешта непапраўнае?
Не, Муза любіць таленты сапраўдныя!

Мурзацяць верш да жаласці няўдачнікі:
Далёка ім да беларуса Панчанкі...
Мой веку, найцярплівы, найпакорлівы,
Паэтавы радок — да слёз празорлівы:

Гару адносіць з Гімалай да Мядзела...
Паэт народны, Ваша Праўда — спраўдзіла!
Вучуся вучаніцай века грознага:
Над словам Панчанкі не сплю да позняга.

Случанскай ружай кланяюся гораду:
Як многа ў Панчанкі зямнога й гордага!

*

*Янку Брылю*

Сем вякоў спаць не будзе і не есці й не піць,
Хто падзеліць айчыну на кавалкі з айчын...
*Звеку — княжая слава ў беларускіх мужчын.*
Навучы, святы Божа, боль стагоддзяў гаіць.

Нічыёй маладосці не купіць, не ўцаніць.
Сем вякоў сноў не знацьме, сем вякоў адгарчыць,
Хто падзеліць айчыну на кавалкі з айчын...
Сем вякоў зор не ўгледзіць і не ўпрагне любіць.

Навучы, святы божа, даравадь — гнеў забыць.
*Звеку — мудрасць князёва ў беларускіх мужчын.*
Нічыёй маладосці не ўтапіць, не спаліць.
Не закрэсліць былое, боль слязой не ўрачы...

Навучы, святы Божа, грэх свячы залаціць!
*Звеку — любасць князёва ў беларускіх мужчын.*

*

*Наталлі Арсенневай*

Ад Амерыкі да Беларусі —
Вырай часу, грахоў і падзей:
Быць паэтам ніхто не прымусіў,
Мова грэла ў далечы людзей,

Калі штормамі біў з акіяна:
Недазвол, недавер, недачэп...
Брат-сучаснік, з купальскага Яна
Я не ўведала: неба — зырчэй.

І цярплівей, чым *верш*, не спаткала,
Хоць прагледзела вочы да слёз;
І ў замежжы радкамі саткала
Шлях вяртання, па імені: *Лёс!*

*

Да асабістага, як чыстага,
Не дакранайце бруду словы:
Ні ў дождж, ні ў сонца прамяністае —
Ёсць запавет радкоў жыццёвы.

Чужых грашын святар не злечвае,
(Алтар для памяці — не змучаны.)...
Край-Беларусь праз Далеч Млечную
Са мной: дыханнем веку злучаны.

Да асабістага, як чыстага,
Не падыходзьце ў боль наболены...
Душа, як пятніца Прачыстая!
*Мы ўсе сваёю доляй здолены!*

*

*Рыгору Барадуліну*

Вы знаеце, вітаюць як паэта?!
З вачэй высольваюць пітво слязы,
Крыжуюць словам, каб пасля за гэта —
Пра Бога ўспамінаць і абразы?!

Вы знаеце, як помсцяцца з паэта,
Калі жанчына рыфмамі грашыць?!
Я пра высокасць... ведай, Песня, гэта,
Як закіпаеш на ільдах Душы.

Вы знаеце, як гневяцца з паэта:
Праз кожны нерв праходзяць галяком?!
Я пра святое... з яго — ноч сусвета.
(Мы ўсе радзімы ўзняньчаны радком!)

Вы знаеце, як квапяцца з паэта —
Багацце дзён раскрышваюць да тла?!
Я пра цярпенне... мудрасці сакрэты
З любові чалавечай — не са зла.

Вы знаеце, як жарцяцца з паэта;
Па-камароўску плёткі раздаюць?!
Я пра нялюдскасць... гэта ёй дагэтуль —
Па невіноўным сэрцы подла б'юць.

Вы знаеце, як дзякуюць паэту —
Пасля. Наўслед. Па-княжы: наўздагон...
Літаратурных гонак піруэты —
Да саматы галёначнай здавён.

Вы знаеце, як дзічацца з паэта
Парыжскай парфумерыі дзядзькі?!
Эканамічныя дрыжаць шкілеты
Стагоддзя ў найапошнія дзянькі...

Вы знаеце, як мовяцца з паэта —
Натхненне ў сем гандлярстваў прадаюць?!
Я пра жыццё... яно не скрозь з саетаў,—
Чужынь мне, Беларусь, дазволь: мінуць!

*

*Ніне Галіноўскай*

Сем пар галубоў — яшчэ не любоў.
Зялёны чабрэц — яшчэ не вянец.
Яшчэ не вянец — зялёны чабрэц.
Яшчэ не любоў — сем пар галубоў.

Гарачая кроў — ліхая свякроў.
Казача-стралец: гардлівец-гардзец,
Гардлівец-гардзец: казача-стралец.
Ліхая свякроў — гарачая кроў.

Насек вечар дроў на дзесяць двароў.
Вясна — ад сянец. Ад шлюбу — вянец.
Ад шлюбу — вянец. Вясна — ад сянец.
На дзесяць двароў насек вечар дроў.

*

*Людміле Аколавай*

Восень мінская... як там Масква?!
Лістападная горыч-трава:

Долу — лісце, як дар залаты.
Палітычнага сонца краты.

Эканомікі ржавы рубель,
Ці стагоддзя сляпы карабель

Адплывае расплывам падзей?!
Божа, шчасця пазыч для людзей!

Грэх адмоў ад грахоўных і кроў.
Восень мінская. Хутка — Пакроў:

Свята зімняга дня, халадоў...
Для духоўных сясцёр і братоў,

Вечнасць, розум гукні да святла,
Беларусь каб свабоднай жыла.

Восень мінская... як там Масква?
Кругам, век, ад цябе галава.

Памажы, ратавальны радок,
Вызнаць мужнасцю песні выток,—

Шлях радзімы ідзе праз вякі —
Праз жаночага сэрца радкі.

*

*Уладзіміру Пузыню*

Дэпутаты падлічваюць кворум.
А Пузыня — узладжвае хорум*,
Што з трынаццатай лічбы стагоддзя.
(Спаць мінуламу ў памяці годзе!)

Аднаўляюцца князь-інструменты.
Разбураюццп фальш-манументы.
Самародкі — заўсёды ў адзіных.
Гэта з імі, як мама, радзіма:

Да таемнасці талент гадуе,—
Вось чаму ноч святлом не гандлюе
Ні на Троіцу, ні на Каляды...
З нас не кожны наймужны для праўды,

Калі гордае ў гордасці меншым.
І завем не ўсё лепшае — лепшым...
Мудры, слаўны Пузыня — майстроўнік,
Вашы рукі — фальклорнейшы слоўнік!

*

*Таццяне Мархель*

Спявае Мархель. Голасна звініць
Высокае шчымлівае раздолле,
А вусны смагна просяць:
— Далюбіць
І зор — адпіць для долі.

* Хорум — народны музычны інструмент.

Спявае Мархель. Сонца карані
Аспрэчваюць халодныя ільдзіны,
А вусны смагна просяць:
Барані ад слёз сваю радзіму.

Спявае Мархель... Стаў дабрэйшым дзень—
Ад песень... (хай павек так будзе),
А вусны смагна просяць для людзей —
Жывога свята ў будзень!

*

*Віктару Карамазаву*

З рога казак і песнь так многа.
Перакуляцца — не сабраць.
Мне не ўзяць анічога чужога —
Лепш сваё ў дар даваць.

Лёс мастачкі — ад зор да парога.
Разаб'ецца святло — не сабраць.
Мне не ўкрасці нічога чужога —
Лепш сваё ў дар даваць.

Дні і ночы сумежжы з трывогай.
Град падзей — ад жыцця не адняць.
Не пазычыць сумнення чужога —
Лепш сваё ў дар даваць.

З рога казак і песень так многа.
Як рашчодрацца — не згукаць.
Солад-раю не зведаць чужога...
Век: свой край шанаваць!

*

*Яраславу Пархуту*

Не пазычаюць зоркі зорак.
Чатыры ў хусткі роўных столак.
Два берагі ў адное плыні.
Адное сонца ў лета сіні.

І ты, мой лёс, адзін да схочу:
Шчаслівы — дзень і пяць — сірочых.
Такім, як ёсць, цябе прымаю.
Жыцця пачварнасць адмаўляю,

Адно, каб толькі боль не здрадзіў,
(Мы ўсе рабы свабоднай праўдзе)
Мы ўсе падсудныя радзіме
Вясёлай — горкаю гадзінай,

Мы ўсе грахоўнікі пакуты,
Як Яраслаў-мужнар Пархута.

*

*Ніне Нерад*

Мы ўвечар зноў гаворым пра Машэрава.
Калядны Мінск... палітыкі — разлад!
Стагоддзя дні — ружовыя і шэрыя —
Закрэслівае ў вокнах снегапад.

Ліхтар начы напружаны і стомлены.
Маладзіковы позірк — ледзь жывы.

Замоўчаны. Аспрэчаны. Адмоўлены
Шчаслівых — нешчаслівыя правы.

Хто ведае, што заўтра будзе, станецца?!
Лёс Ніны Нерад — не салодкі мёд:
Жанчынай мужнаю прамовіць раніца.
І першай ступіць на слізотны лёд...

Мы ўвечар зноў гаворым пра Машэрава,
Пра космас і загадкавы санкліт.
Стагоддзя дні — ружовыя і шэрыя —
Каменіць мікашэвіцкі граніт.

*

*Галіне Каржанеўскай*

Мы, Галіна, з табою розныя,
Як сляза на шчацэ — і соль.
Гэты век, закайдованы прозаю,
Не свабодзіць свабодны боль.

За газетным радком статыстыкі
Не адрозніць, чый позірк — лепш?
Зноў смяецца з крытычнай містыкі
Багдановіча ясны верш.

Гэты век, што наскрозь камп'ютэрны,
Так зняважвае дабрыню...
Быць паэтам — не значыць «Лютэрам»
Стрэлы кідаць у вочы дню.

Хто случанскую далеч выведаў,
Сэрца лютасцю не абгрыз,
Той не робіць зняважных вывадаў,—
З вышыні падаць лёгка ўніз,

Цяжка, цяжанька зорам кланяцца:
Талент радасці выспяляць...
Я — за мужнасць, якой нам ставяцца
Дзве адзнакі — «Двойка» і «пяць».

Мы, Галіна, з табою розныя,
Як сляза на шчацэ — і соль.
Гэты век, закайдованы прозаю,
Не свабодзіць свабодны боль.

*

*Аляксею Дудараву*

Гэты свет непрыдумана-жорсткі,
Мнагалікі і ўсё ж найадзін!
Тоне век, як на моры ў шторм лодкі...
*Не судзі. І не будзеш судзім.*

Паўтараю і ў радасць і ў болень,
Пры начы і праз сонца гардзін:
Сярод зла найхарошага болей...
*Не судзі. І не будзеш судзім.*

Гэтай ісціны боскай загадка.
І разгадка. І тайна наўздзіў...
Хто з нас пляскае сам сабе ў ладкі?!
*Не судзі. І не будзеш судзім.*

Я прыходжу ў тэатр, як да Бога —
Знаць, як Дудараў зоркі студзіў,
І ў нагараду не ўзяў анічога.
*Не судзі. І не будзеш судзім.*

---

## БЕЛАРУСКІЯ МАДОННЫ

Ад спрэчак веку — гнеў і стрэс,
Чытач адлучаны ад слова.
Лёс не салодкі ў паэтэс:
...Баравікова.

Дзяўчынкі з выглядам гарэз
Імкнуцца да сталічных даляў.
Лёс самы тайны ў паэтэс:
...Булыка Галя.

Рабінамі ўпрыгожан лес.
Пладоў даспелых — неба жменя.
Лёс найтрагічны ў паэтэс:
...Янішчыц Жэня.

Жывем са шчасцейкам — і без.
Вясной паводку песцяць вольхі.
Лёс — самы дзёрзкі ў паэтэс:
...Куртаніч Вольга.

Былое — не рукі парэз.
Не шэры колер — цераз сіні.
Праваблік нашых паэтэс —
...Крок Еўфрасінні.

Стагоддзе — як жалезны прэс.
Душу ратуе верш ад бруду.
Спрачайцеся пра паэтэс —
...З Рублеўскай Людай.

Складае лета паланез.
Ліпнёвы мёд для ўсіх салодкі.
Раўняйцеся да паэтэс
...Радкамі Цёткі.

Высокі надмагільны бэз,
Праз гронкі — разглядаеш Кіеў.
Пра боль засведчыць паэтэс
...Лось Еўдакія.

# НЕПАДСУДНАСЦЬ ГРАМОЎ

*Яе вёсны паўтараюць узрост Аляксандра Блока, а лірычны радок набліжаецца да ахматаўскага. Папулярнасць і слава Яўгеніі Янішчыц былі і ёсць прынароднымі і сапраўднымі. Тайна мужнай паэткі па-за межамі сённяшняга стагоддзя...*

*Балеснай паляшучцы прысвечаны мае случанскія цыклы «Непадсуднасць грамоў», «Аднойчы і заўсёды», «Бараўлянскае лета» і «Пятая квадра начы».*

*

Ноч прыпыніць свой крок: «Ба-раў-ля-ны...»
І на фельчарскі ганак драўляны
Ступіць Боль, ненажэрны, пагрозы —
І анколаг-хірург скажа: «Позна.

Не паспелі...» і скальпель адкіне.
(Чырвань горка ўсміхнецца каліне.)
І над полацкай белай Сафіяй —
Стане міг даражэй, чым сапфіры...

Цень ад фрэсак святой Еўфрасінні
Воблік Жэні гукне ў ранак сіні, —
І жыццё, што адзін раз даецца,
*Непадсуднасць грамоў* клікне сэрцам...

*

Крошкі хлеба збяру... з кужаль-лёну абрус
Рассцялю на стале па-сялянску.

І прамоўлю для ўсіх на Зямлі: «Бе-ла-русь!»
І ўсміхнуся жыццю па-славянску.

Толькі ў працы знайду сваёй песні ўраджай,
Адракуся бязладзіцы спешнай.

Мне сягоння юнацкіх гадоў не спужаць,
І грамамі закрэсленых вершаў...

Будзь, радзіма, да скону ў радку і ў жыцці.
Мне дыханне тваім саграваць думкі-словы.

І, як прашчур-крывіч, па зярняці расціць,
Берагчы-шанаваць сваю родную мову.

*

Не патрабуй ад злога — дабрыні,
Ад эгаіста — не чакай падмогі,
Нялюбага — у расстанні не віні,
Спакойнаму — не пазычай трывогі.

Ад здрадлівага — сэрцам адыдзі,
Ад цыніка — свой смутак уратоўвай,
Зайздрослівага шчодра не віні,—
Жыві праўдзіва — усяго і толькі...

*

Гэта ўчора было... гром за вокнамі. Мінск.
Беларускага танга раскрышаны дыск,

Томік Янкі Купалы, далоні начы...
Як мне, любы, ад шчасця цябе не ўрачы?

Цень ад зораў суняць, цішыню скрыжаваць?
Як мне, любы, цябе ад сябе не забраць?

Не схлусіць, што цаню кожным нервам жыццё,
Не паверыць, што ёсць для вачэй забыццё?

І спакой — для душы? І гадоў — міражы...
Любы мой, век за намі ў два лёсы бяжыць.

І нічога не зменіш, не здробніш, як мак.
Мне цябе не забыць, не адмовіць ніяк.

Нехта зноў назаве найшчаслівейкай мяне —
Пакланіся, адзіны, трысонцам вясне!

*

Так пажар пераходзіць у вугаль нямы —
Як з сустрэчы да ростані мы.

Так у тундры прамерзлай зямлі не відно —
Як вачэй скрыжаванае дно.

Так жывы печанег з-пад раскопак ідзе —
Як забойствы няслявяць людзей.

Так на лузе случанскім шыпшына цвіце —
Як мой лёс без твайго апусцеў.

Так паводка ў пустыню сыходзіць пяску —
Як надзеі ў цярновым вянку.

Так па лесвіцы траў лета ў гром не чуваць —
Як твой позірк, Паэтка, у зорах шукаць!

*

Мне не званілі доўга... не прыходзілі.
Памылак сто ў характары знаходзілі.

І зваліся сябрамі — для адчэплівых.
І да нясцерпу дзень даўжэй нікчэмлівы.

Сляза звінела, бы крышталь разбілі.
Як цяжка вуснам паўтараць: "Забылі..."

Мінулага адклік. Год вісакосны.
І не ў радках ужо, а ў лёсах — коскі.

Шматкроп'я развярэджанасць і звон.
І толькі век імкнецца на паклон —

Да новага, што братам меншым стане.
(Якое шчодрае сягоння ранне!)

І на канверце сіняга акна
Прасвечана, як лазерам: «Адна!»

І верш, бы хлопчык, што пачаў хадзіць,
Смяецца:
«Гэта дар багоў — любіць.»

І слова — Беларусь! — пажар на лёдзе...
І гэты гром ніяк з начы не пойдзе!

# АДНОЙЧЫ І ЗАЎСЁДЫ

## *Калыханкі слязы*

*

Холад мяты наступіць на пяты —
(Лета ў самай красе!..)
Вінаватая... ты — вінаваты,
Вінаватыя ўсе:

Ружы гэтай начы... Божа мілы,
Важыць колькі ж сляза,
Што з усёй развітальнае сілы
Пазірае назад?

Адрачона... яе веру згубіла,
ці адолена смерць?
Тоне словейка ў зорах:
Лю-бі-ла...
*Куды ж сэрданька дзець?*

*

Калі *боль* супраць — звыкласці штодзённай
І трафарэтаў шэрай пустаты, —
Я да святла жыцця — жыццём жадзёна...
Лёс, гэта — сведчыш ты.

Напісаныя сённейка і ўчора,
І калі боль адыйдзе нібы госць.
Вы — ведайце: я супраць фарбы чорнай —
*Была. І сёння — ёсць.*

*

Ты забудзеш мяне? Чарнавік зімняй ночы
Перакрэсліць цяпло і ўваскрэсіць ільды.
Шлях разлукі — не царскі, цыганска-сірочы.
Ён нявечыць гады.

Ты забудзеш мяне? Распластанае неба
На царкоўныя травы ўпадзе, як крыжы.
Будуць знаць толькі сэрца нацятыя нервы,
Як мне хочацца жыць.

Ты забудзеш мяне? Найкапрызная памяць
Разварушыць мінулае (што ёй з таго?),
Што на гордасць-крывіны сляза пераплавіць
Думак горкіх агонь.

*

Жыццё — дарункі без падліку...
Праз незваротныя гады —
Той гром (маланкава-вялікі)
Напомніць пра гардынь,

Што не ў русалчыным адзенні
І не ў валошкавым вянку,

А ў незваротнасці надзеяў —
Расквечаны ў радку.

Жыццё — дарункі сонца — травам,
Святла — вачам, любові — дням.
Лёс, узаконь такое права:
*Сястрою быць — гадам.*

*

Калі дзень стане горка-невыносным
І невыцерпна-здзеклівым наскрозь,
Прыпомні, што калін у лузе росных —
*Яшчэ складаней лёс.*

Калі дзень стане жаласліва-злосным
І здрадлівым да хіжасці пагроз.
Прыпомні, што чарнобыльскі дождж грозны —
*Гай вымярцвіў бяроз.*

Калі дзень стане жудасна-няпростым
І выцаганіць з вуснаў крык душы —
Не давярай пачуццям смешна-розным,
*Боль — не з пяці грашын...*

*

Я гордасцю тваёй суджу па іншых...
Вучуся дараваць памылкі ўсім,
Хто ў восень-садзе, нібы лісце з вішняў,
Зрок не крадзе ў жывых.

Я любасцю тваёй суджу па іншых...
Неміласэрны веку, паўтары,
Што ў гэтым свеце аніхто не лішні,
Сумненні падары.

Я вернасцю тваёй суджу па іншых...
І калі ўсё ж — ёсць подленькі сёй-той,
І зневажае праўду так увішна,
Ён — з пустаты пустой.

Я шчырасцю тваёй суджу па іншых...
Праклёнцам спачуваю, як сляпым.
Мой горды, над случанскім громам цішы —
Трывога ў дар жывым.

## ЭПІЛОГ

Пакуль жывая — пошасці гадзючнай
Пратэст — дыханнем, позіркам, радком,
А нехта помслівы (як звер — тайком!)
І на вачах — такі змагар выключны:

За радасць-шчасце... смешненька з дазнання,
Што цынік — найспрытнейшы з гандляроў —
Зноў п'е духоўную народа кроў.
І люта праграмуе пакаранне.

Пакуль жывая — радасцю зямною,
Надзеяй запраменьваю свой дом.
І хай чарнота нішчыцца, як гром...
За Вечнасцю — ані слязы спакою!

# БАРАЎЛЯНСКАЕ ЛЕТА

*

Праўда з праўды нязнанай — прысудны пагляд:
З Вашым лёсам знаёміцца сёння анколаг.
Растрывожаны май, азірніся назад!
Дні, пражытыя з болем — вавёрчына кола —

Смела круцяцца ўправа і ўлева... спакой
Для кагосьці, шчаслівае ўдосталь.
Што ж ты, вечар, малюеш адчайнай рукой
Ратавальнага заўтра затоплены востраў?!

Адплывае міраж недаверу і слёз.
Грэшна тоне ў світанні «пасхальная зорка».
Каралеве памылак, мне страшна ўсур'ёз —
І з мядовай усмешкі стагоддзя так горка.

*

Не горшая, не лепшая за іншых —
Звычайная. З памылак і няпраўд.
Насуперак падонліва-увішным
Я паўтараю, што жыццё — мне брат.

Люблю яго няправільнасць і грэшнасць,
Цярплівасць — даравадь, а не караць.
Мая сястрыца, лета невымернасць,
Дазволь мне восеніць і зімаваць.

*

Я прывыкла да слёз. Плачу тайна: для зор.
І нікога ў сваю адзіноту не клічу.
Зноў бальніца. Зноў белы шкляны калідор.
Кропкі часу. І позіркаў ветлівых клічнік.

Плёткі спеліць былая сяброўка ізноў.
(Божа мой, колькі зайздрасці ў лютае чэрні?!)
Я прывыкла да слёз, самых шчырых са слоў,
Памаўчым, бараўлянскі мой чэрвень!

*

Мне ў гэтым свеце многае вядома:
Зялёны снег. І яркасць цішыні.
Славянскіх гукаў матчыная стома.
І позірк горада ў случанскім дні.

І напаследак дарогі разняменне,
Што памяць выкрасае з пачуцця,
Але вясною гордае здзіўленне
Мне не спасцігнуць да канца жыцця.

І ў апраўданне мужнай адзіноты
(Гардыні самай велічнай з гардынь!)

Імя надзей агучваю, як ноты:
*О болю міласэрдлівы! Амінь!*

*

Жывая. Жывым паўтараю: «Жывіце!»
Ляжыць пад наркозам хлапчыньненька Віця,
З цярплівасцю княжнай, з былiннага Брэста.
Халат хірургічны — вуалем нявесты!

Заглядвае Вечнасць у Вечар Стагоддзя.
Якi ж ты цярплівы і мужны, народзе,
Цар-род беларускі... Мужнар з наймужнейшых! —
*Дазнайся, чытач, як жа пішуцца вершы!*

# ПЯТАЯ КВАДРА НАЧЫ

---

*

Што з таго, што навокал — спакой,
Раўнадушша начы — да нясцерпу?!
Кроў-трывогі — бяздоннай ракой:
Разліваюцца... Вечнасці цела,

Нібы вулей пчаліны — наскрозь:
Перапоўнена болем стагоддзя.
І чаканы калядны мароз:
Месца цёплага ў зрэнках не знойдзе?!

Што з таго, што навокал — туман
Слізкі-сіні, жабрацкі і босы?!
(Кожны лёс — сацыяльны падман?!)
Век ляціць цягніком з-пад адкосаў.

Зноў насустрач — сузор'яў дымы.
Перакосмас і пераз'яўленне...
Чалавеча! Скажы, як жа мы:
Супраць існасці і разумення?

Супраць гордай, нямой цішыні
І разбуджаных думак гарачых?!

Прамінай, *гэта ноч,* праміні,
Ураджайная снегам і плачам!

*

Вы — такія, а я — з ліку горшых;
Спавядальніца болю і слёз.
Санаторнай пуцёўкаю ў Моршан —
Сёння: лёс.

Вы — такія, а я з ліку — іншых;
Спавядальніца даўкіх надзей.
Ля шчаслівых праходзіць, як лішні —
Час мой: дзень.

Вы — такія, а я з ліку смешных;
Спавядальніца... *вершы мне — культ!*
Ля святых вас? Навошта мне, грэшнай,
Жыць: быць тут?!

Вы — такія, а я з ліку — лікаў:
Спавядальніца... (помніце) з тых,
Што не зведала ночак бязлікіх,
Дзён сляпых.

Вы — такія, а я з ліку... мама,
Калі скажуць, што нешта — не так,
Што спявала я вёснаў так мала,
Снам: дай знак!

*

Пятай квадры начы не бывае.
Ёсць чатыры. І кропка. З нулём!
Толькі сёння пад лязгат трамвая
Новы час завітаў і ў мой дом.

Маладзік святазарыў маўкліва
Супраць штампаў, канонаў святла.
Я малілася слову: шчаслі-ва!
Я ў рабынях адчаю была.

Над цыратай святочнаю будняў
Расслаенне, капрызы быцця...
Я не ведаю, што з табой будзе,
Чалавечая радасць жыцця.

Думкі ночы (ажно да кіпення
Чырвань-плазму крыві давялі).
Колькі ж можна сляпога цярпення
На празорнай, відушчай Зямлі?!

Там — за Вечнасцю, гордай і сцюжнай,
Дзе ўсе людзечкі — роўня з раўні,
Спасцігаць мне цябе, тайна-мужнасць...
Прамінай, гэты век! Праміні!

# АЛГАРЫТМЫ ВАЧЭЙ

*Паэма радка*

## РАДОК БАГДАНОВІЧА

Радок Багдановіча будзіць вясну.
Завея — прыслужніца зімаў —
З валошак жытнёвых муруе сцяну,
*Малюе Максіма.*

Партрэт — на палотнах каляднай начы
(Ад Мінска відаць і да Крыма)
Святлом ад трывожнай Венеры маўчыць,
*Шукае Максіма.*

Празорлівы час, ты цярплівы такі,
І горды, як сорак Цусімаў?!
Калі гэты век — братам клічуць вякі,
*То імем Максіма...*

І сорам з таго, што ў знявеччы падзей
(Да космасу дзён і ад Рыма)
Бяздарнасць сабой зневажае людзей,
*Нашчадкаў Максіма.*

Сталічных дзяўчынак і хлопчыкаў гурт —
Спрачаюцца з мовай-радзімай.
Каб кожны не стаў з іх, як мёртвы манкурт,
*Хай вучаць Максіма.*

Радок Багдановіча — клятвы нябёс...
Запомніць хай той, хто з айчымаў
Духоўных... найслаўнейшых лёс:
*Такі — як Максімаў!*

## ДАРОГА МІНСК — БАРАЎЛЯНЫ — МІНСК

Не вырашайце за мяне нічога,
Паўгрэшнікі, дарадцы-святары...
Жыццю — не зблытаць белай фарбы з чорнай:
Нялюбай — не прачнуцца на зары.

Не праклінайце за мяне нікога,
Прысуднікі, вяльможнікі спагад...
На акварэль зялёную Вані Гога
З вясны палескай пазірае сад.

Не выракайце за мяне былога...
(Грашын з памылкамі не злічаць дні.)
Над бараўлянскай ночанькай дарога
Шукае ў травах болю карані.

## ЛІСТ ДА ЯЎГЕНІІ ПФЛЯЎМБАЎМ

Адвержаных да абразоў алтар не кліча.
Разгневіш слова — Бога праклянеш.
Нязнанае жыве ў сямі абліччах:
— Адкуль, ты, *Верш*?

Пакутнікі — цярплівасці не кленчаць,
(Найбольш яе сцярпелі, ці найменш.)
Імгненні засланяюць сабой Вечнасць:
— Адкуль ты, *Верш*?

Жабрачкай да багатых суайчынаў
І суайчынніц выйду... што найлепш —
Сутонне золата, ці гнеў айчынны:
— Адкуль ты, *Верш*?

Ад пракажоных, з язвай невылечнай,
Свяча не ўспыхне (воск расплаў, ці рэж).
Слязе ўскіпаць за Шляхам Мудрым Млечным:
— Адкуль ты, *Верш*?

## АЛГАРЫТМЫ ВАЧЭЙ

Гэты смелы і грозны анёл, панядзелак,
Вышынёю святла адгарэзіў. І знік.
Я твой воблік, каханы, былым разглядзела:
Ім з траецкай начы выплываў маладзік.

Восень-дождж бараніў адзічэлыя кроплі.
Дрэвы лісце гублялі, бязмоўе клялі.
Спрэчкі ўсе ў развітальных змяшчаліся кроках,—
(Вось калі мы ўзаемнымі з лёсам былі!)

Прыйдзе новы аўторак: звычайненькі, гожы.
Незвычайнае ў тым — што жывем толькі раз.
Па асфальце сталічным прыручаны вожык
Сонца ў зрэнкі каціў, забіраў дзень ад нас.

Два радкі ад яго зіхацелі ў зняменні:
Лепей слова згубіць, чым любові не знаць.
Ты з малітваў якіх: *слухаць позірк-натхненне?*
(Тайне кожнай сястрой быць — *жыццё*
*спазнаваць!*)

## АЎТОГРАФ НА КНІЗЕ НАЧЫ

Гэты грэшнік. А гэты — святы.
Трэці ў званні какецтва сляпога.
Дзень, пазбаў ад пустаты,
Набліжай да святла, як да Бога!

Гэты гнуснік. А гэты — анёл.
Пяты ў люстры скляпення крывога.
Верш, пакліч мяне князем за стол,
Набліжай да радка, як да Бога!

Гэты ўпарты, а гэты — хітрэц.
Сёмы ў жудасці позірку злога,
*Веку мой,* не спазняйся дабрэць,—
*Шчырасць — гэта праз мудрасць дарога.*

## НА ЎРОКАХ ТАЦЦЯНЫ ІВАНАЎНЫ НАВІЦКАЙ

Спрачацца з дурнем, як тапіць сябе ў пустыні,
Дзе ані кропелькі жывой вады...
Шкадоба тых, хто для рыфмаванай гардыні —
Душою слізгае сюды-туды.

І месца вольнага — для працанькі не знойдзе,
І павучае, вучаных бядой...
Сваю духоўнасць, беларускі мой народзе,
Вяртай, як дзедавыя песні ў дом!

Не цыркуляры ўвосень — ураджаем.
І не загадам — мову адрадзіць...
*Мая радзіма!* Ты на ўсіх вякоў скрыжалях
Не развучылася — цярплівай быць.

## СУСТРЭЧА
## Ў ТРАЕЦКІМ ПРАДМЕСЦІ

Вы зноў пра вершы? Так. Не гэтак?
А рыфмы — не шукаюць сведак.

Выходзяць, як палоннікі, з турмы.
І вось, чытач, прысудныя ўсе мы:

Чакаем адлучэння ад шаблонаў,
Адмежавання ад сляпых канонаў.

Насуперак нікчэмнасці-маразму
Становімся дабрэйшымі ўсе разам.

І прызнаемся крытыкам аднойчы,
Што боль-натхненне з мазалёў сірочых,

Што плавіць ноч руду чарнавікоў,
Калі бунтуе ў нервах розум-кроў.

# ШРАМЫ НА ТВАРЫ СТАГОДДЗЯ

*Славаміру Добрычу —*
*з удзячнасцю і любоўю*

Я люблю цябе, мой чалавек:
Тры афганскія шрамы на целе.
(Я сустрэцца з табой не хацела,
Але гэты трывожлівы век...)
*Я люблю цябе, мой чалавек!*

Я люблю цябе, мой чалавек:
Сівізна маладая на скронях —
Даражэй ха ўсё грошы сягоння;
І на радасць радку, ці на здзек...
*Я люблю цябе, мой чалавек!*

Я люблю цябе, мой чалавек:
Ты прыйшоў з небыцця і за гэта —
Так царуе над кветкамі лета...
І такі растрывожаны век,
*Я люблю цябе, мой чалавек!*

Я люблю цябе, мой чалавек...
Будзь са мной,— паўтараю былінна,
А над Прыпяццю росам — палынна,
Стронцый гушкае сонца ў траве...
*Я люблю цябе, мой чалавек!*

Я люблю цябе, мой чалавек...
Незагойныя клятвы на вуснах —
Зоркі ў зорках выспельваюць густа.

Промні слёз не саромяцца вейк...
*Я люблю цябе, мой чалавек!*

## КАЛЯ ПОМНІКА УЛАДЗІМІРУ КАРАТКЕВІЧУ

Мне страшна, што ўсё правільна і гладка,
І сыценька ў кагосьці з калежан...
Паміж разгойданай над лёсам кладкай
І небам — праўдай праўды не спужаць,

Шлях неба не закрэсліць у высотах,
І не адмовіць над царквой — крыжы.
Калі ёсць талент (ён цяпер і потым),
Як і малітва слову-богу: «Жыць!»

Найкняжаму з князёваных найменняў,
Былíннаму з былінных галасоў.
Мне страшна, што мяшчанства сыпле жменяй
Цынізм.. і косіць мужных, як касой!

## ЛІРЫЧНАЯ АНКЕТА

— Шчаслівая? Ці не?
— Не знаю, што — адказам...
Смяюцца наўздагон пушынкі-солад-фразы:

— Царэўна? Пані слоў?
...Гром адбалелых летаў.
І ў сведках — цішыня: *як цяжка быць — паэтам,*

Жанчынаю зямной (абранніцай з абраных!)
*Сапраўднейшы радок — брат незагойнай раны.*

## НА ВЫСТАВЕ АЛЯКСЕЯ МАРАЧКІНА

Нам прасіць прабачэння ва ўсіх вінаватых,
Хто пакрыўджаны Богам і злымі людзьмі,
Хто зняверам бацькоўскім, як крыжам, распяты,
І ў начы размаўляе не словам — слязьмі.

Нам прасіць прабачэння ва ўсіх пракажоных,
Хто — прыгожы аблíччам, ды з воўчым нутром,
Хто над болем мінорным спявае мажорна,
З хлебам-соллю запрошвае злодзея ў дом.

Нам прасіць прабачэння — чакайце, мастача!
Факел белае скроні — святлей за агонь,
На палотнах гісторыі — воплескі плачу.
Колькі ж фарбаў узняньчыла й Ваша далонь?!

## ПАЭТУ АНАТОЛЮ СЫСУ

Мае сябры, калегі, калежанкі,
Мы розныя — як трэлі салаўя.
Вось нехта з Мінска. Я з Вясны-Случанкі.
На ўсіх нас дадзена адна зямля.

Навошта спрэчкі? Зайздрасць free вершаводаў —
Не выпесціць славянскіх ваяроў.
Навошта кпіны, едкая нязгода?
Радок з'яднае маладосць грамоў.

Напомніць, што радзіма — не насмешша.
Разгубленасць душы — ёсць попел-чэрнь.
Калі ж ад Бога талент — збыцца вершам,
А слава — ад нікога не ўцячэ!

## ЭПІЛОГ

Ад тайны да звычайнасці — дарога мураша.
Ты ўсё яшчэ спазняешся спакойная быць,
душа?!

Складанасці. Вучонасці. Цярплівень, веку —
дзень,
Ты — з лаўрамі і цернямі не зблытаеш падзей.

Радкі — як мак даспеляцца (чырвоны) на градзе.
Жывём з табой, сучаснік мой, як праз пажар
ідзем!

# КАЎКАЗСКАЯ ЭЛЕГІЯ

*За некалькі вякоў да пачатку новай эры зарадзіўся і выкрышталізаваўся каўказскі эпас пра герояў-нартаў. Гэтыя багатыя народныя сказы і паданні заслужана могуць стаяць поруч з сусветнымі помнікамі: «Адысеяй», «Іліядай», «Песняй пра Нібелунгаў», «Словам пра паход Ігаравы», грузінскімі легендамі пра Амірані, беларускім фальклорам…*

*Пасля таго, як давялося вачыма, слыхам і сэрцам дакрануцца да мудрага і светлага абхазскага краю, пазнаёміцца з яго народам, факлорам і традыцыямі, яшчэ раз захацелася быць дабрэйшай і больш адказнай за сваё вялікае права — аднойчы жыць на зямлі, якая завецца БЕЛАРУСЬ!*

## ДАРОЖНАЯ ПЕСНЯ БАЗАЛЫ*

Сустрэч не перадорваюць. І ў цень
Не забягаюць промні сонца двойчы.
Нас сустракае лёс бядой часцей,
Чым шчасце чалавечае прарочыць.

Да нізкіх траў высокая раса
Спадае без жальбы і шкадавання...

* Базала — абхазскае мужчынскае імя.

Вось так аднойчы і твая краса
Рашуча ўвойдзе ў храм святы кахання.

І вытча у ценях ночы белы май,
І адсвяткуе, як за сто вяселляў,
Любоў, як ружу, на святле трымай,
Спяваў Базала голасам асеннім.

І ачарпан* звінеў, як вадаспад,
(Калі чабан вядзе сваю атару
Праз перавал...
і не глядзіць назад),
І — адступалі ад Каўказа хмары...

## БЫЛЬ ПРА ЛАГУСТАНА**
## СКАЛА САБІ***

Там, дзе гор непрабудныя сны
І высокі над Рыцай**** туман,
Ходзіць кліч ад вясны да вясны:
Лагустан! Лагустан! Лагустан!

Калі змрок адамрэ і святло
Выпраўляе ў дарогу чабан —

---

* Ачарпан — народны музычны інструмент на Каўказе.

** Лагустан — мужчынскае абхазскае імя, казачны герой каўказскага фальклору.

*** Сабі — назва скалы над возерам Рыцай, абхазскае жаночае імя.

**** Рыца — жаночае абхазскае імя, горнае возера на Каўказе, пра ўзнікненне якога ходзяць у народзе легенды.

Слова звонкага, як не было:
Лагустан! Лагустан! Лагустан!

За скалой імя-прывід сядзіць —
Каго хочаш звядзе яно ў зман.
Быль расказваў абхазец адзін:
Лагустан! Лагустан! Лагустан!

А калі май ад кветак звініць,
Сад наведвае грозны султан.
І для ўсіх забаронай гучыць:
Лагустан! Лагустан! Лагустан!

Бойся гневу яго, як агню,
Беражы сваё сэрца ад ран,—
Рэхам дзень заклінаў цішыню:
Лагустан! Лагустан! Лагустан!

Ды знайшлася смяльчанка адна,
Села з песняй Сабі пад каштан.
І грымела ўсю ноч давідна:
Лагустан! Лагустан! Лагустан!

І калі цень апошні знікаў,
Да дзявочай рукі талісман
З неба месяц на травы паклаў:
Лагустан! Лагустан! Лагустан!

І спытаў: "Ты гукала мяне?
За табой зор прыплыў караван —
Будзеш клікаць мяне ў вечным сне"
Лагустан! Лагустан Лагустан!!

Прыняла падарунак Сабі,
Ды не знала, што гэта дурман, —
І ёй сэрца каменным зрабіў:
Лагустан! Лагустан! Лагустан!

І скалою застыў смелы крык...
Зноў над Рыцай бялее туман.
І галосяць над светам вятры:
Лагустан! Лагустан! Лагустан!

## НА БЕРАЗЕ КАДОРЫ* ВЕЧАРАМ У ЧАБАНОЎ

Ачарпан, ачангур, анхіарцы**
Тры музычныя хвалі зямлі —
У абхазцаў гасцінных з-пад пальцаў
Рэкі гукаў у слых мой лілі.

Тры мужчынскія твары — шэсць зрэнак:
Данакай, Басіат, Хаджарат***
Весяліліся ў вечар той зрэдку,
Бо лавінай быў выбіты сад.

Вінаграднікі з корнем смерч зрушыў —
Як на гронкі пячаткі паклаў.

* Кадора — самая вялікая рака ў паўднёва-ўсходняй Абхазіі.

** Ачарпан, ачангур, анхіарцы — музычныя народныя інструменты абхазцаў.

*** Данакай, Басіат, Хаджарат — мужчынскія абхазскія імёны.

Адкажы, ці ўцалелі ў нас душы?—
Сум у тры інструменты спяваў.

І сівы талумбаш* сваім родным
І гасцям-беларусам сказаў:
— Гэты век, нібы брат, стаў мне кроўным...
І да гор паімкнуўся назад.

Там стыхія яшчэ не астыла.
І бурліла ў Кадоры вада,
Нібы горцам усім гаварыла,
Што бывае раптоўнай бяда.

І я ўспомніла Прыпяць і вёскі,
Што раку абступілі сабой,
І чарнобыльскіх дзён адгалоскі —
У адзіны зліваліся боль...

## БАЛАДА ПРА ГОРНЫ ВЕЦЕР

Бялізну мылі дзве абхазкі-сёстры.
І паласкалі ў горным азярку.
І паміж скал, абрывістых і вострых,
Смялеў іх спрыт, як коні на скаку...

Ды напаслед жаночага старання
За край абрыву шалік паляцеў.
Ён быў вясельным — памяццю кахання —
І падаць у бяздонне не хацеў.

---

* Талумбаш — кіраўнік святочнага стала, тамада.

І меншая старэйшая спачувала:
І для Рафіды Камачыч рукой
Сваю касынку ўвішна развязала
Прыкметы ў знак. Вачам на супакой.

І ранілі цясніну песні-стрэлы.
І возера сароміла ваду,
І станавіўся ветрам шалік белы,
Нізрынуўшы самоту і бяду.

## ЛЯ ПАДНОЖЖА ГАРЫ ЭРЦАХУ*

Праводзілі ў апошні шлях абхазца —
Старога чабана з каўказскіх гор —
За сонцам, ад якога не схавацца,
Ішоў жаночых галашэнняў хор.

Аслепла ружы кідалі пялёсткі.
І крок дарогі плачу не спыняў.
І раптам крык дзіцячы просьбай хлёсткай
Нябожчыка, які жыццё прайшоў, дагнаў.

Чакайце! Вось дзядулева папруга...
Прасіў:
— Зямля хай возьме на ўспамін,—
Сказаў радні — і за бязмоўным кругам
Па хвалях слёз у сум паплыў адзін.

* Эрцаху — горная вяршыня ў Абхазіі.

І звычаю абрад той не пярэчыў,
І божкаліся старажылы зноў.
І брала Эрцаху сабе на плечы —
Жалобны хор жаночых галасоў.

## НА ПЕРАВАЛЕ

Амалыс — па-абхазску сумленне —
Не імкнецца да гучных размоў,
Калі думкі шукаюць збавення
І да вуснаў бягуць, як дамоў

Разам з гульнямі дзеці Каўказа.
І прыспешваюць лівень:
Хутчэй!
...Слоўнік гор, твае мудрыя фразы,
Як святло самых цёмных вачэй,

Дакранаюцца зрэнак нябачна...
О, сівы Данакай*, мне прабач,
Што за сум твой высокі я ўдзячна,
Як пагляд за даверлівы плач.

Ты расказваў, як білі дзяўчыну
Двое мінскіх турыстаў зімой...
Не было ў іх на тое прычыны,
Бунтаваў голас памяці твой...

* Данакай — абхазскае мужчынскае імя.

І Кадора цякла ў вечар грозна.
Лёд-снягі размывала ў вадзе,
Спачувала той ганьбе цвяроза:
Злосць-цынізму сучасных людзей,

Што завуцца так гучна — мужчыны...
Клікаў горцаў на помач Каўказ.
*І сумленне было — як айчына,*
Як палын, што зацвіў першы раз.

## ТРЫ АБХАЗСКІЯ ВЯСЕЛЬНЫЯ ПЕСНІ

*

Ноч на зыходзе. Раніцы сяйво
Сыпне расу — і новы дзень разбудзіць.
І сонца павітаецца з травой —
І ростані, каханы, нам не будзе!

Наколюць рукі ружамі далонь —
І позірк твой пялёсткі не астудзіць.
Зары світальнай палыхне агонь —
І ростані, каханы, нам не будзе!

І я такім, як ёсць, жыццё прыму.
І за любоў, якую не асудзяць,
Паклон вясне зраблю — і ўсё таму,
Што ростані ёй з вечнасцю не будзе!

*

Я сяброў разгубіла, сапраўдных і верных,
Каго ў спешцы юнацкай, каго — проста так...
Шлях да болю сустрэч і разлук — невымерны.
І яго не адолець адной мне ніяк.

Я да зайздрасці спехам імкнула аднойчы,
Ды душой паслізнулася ў чорны той міг,
І святлом з таго дня даражаць мае вочы,
Дабрыню выпраменьваюць: нервы, зрок, слых...

Я з каханнем у хованкі двойчы гуляла,
Ды паслугай падману ні дня не была.
Я цябе, маладосць, шанавала так мала,—
І не ведала, што рызыкоўна жыла.

А цяпер, калі сталасць, як воды Кадоры,
Я гляджу на вясну — як багіню з багінь.
Гэта ёй падуладны і вечнасць, і зоры,
І вяршынь незамглёных каўказскіх снягі.

*

Разгубленасць? Віна? Дакор? Ці апраўданне?
Ці з вуснаў цёплы крык? Ці холад нематы?
Няўжо ўсё гэта ёсць самотнае расстанне?
Няўжо каля абрыву пачуццяў ходзіш ты,

Любовейка — каханне?.. Надзеі зорны высеў
Дарогу вымярае ад сэрца да святла.

І боль хіба разлукі, як палыны два, выспеў?
І я свайго юнацтва князёўнай не была?

## РАЗМОВА
## СА СТАРАЖЫЛАМ ГАМСАРАТАМ

Мы зберагалі агонь, які прыйшоў з вякоў.
Агонь са слоў, не попел — сваю мову,
Сказаў абхазец над Кадораю-ракой.
І распачаў пра Беларусь размову.

А як там на Палессі сёння? Што цяпер?
Чарнобыльскай трагедыяй свет сыты...
Зірнуў на Эрцаху, цень ад якой цямнеў,
І на палотнах гор дня маляваў адбітак.

Ці праўда, што грыбоў і ягад не ядуць?
І браканьеры рыбу больш не глушаць?
Што адказаць яму...
палешукі жывуць,—
І радыяцыі баяцца ў душах.

Ізноў цвітуць лілеі ў Прыпяці-рацэ.
І песні ў салаўёў не пазычае
Народ мой, у якога слёзы па шчачэ
Ад сорак першага час прыкмячае.

І на Купалле промні рук плятуць вянкі.
І папараць-квяцінку зрок шукае.
Ізноў гучаць Купалы мудрага радкі.
І полымя валошкава шугае.

Вось я й кажу, што ў саркафаг
гігант-Зямлю
Не пакладуць, не замуруюць людзі...
І сказ пра маладосць далёкую сваю
Прапеў: на поўныя любові грудзі.

## РАЗВІТАННЕ З ПЕСЕННЫМ КРАЕМ ГУЛІА*

Каўказ са мной развітваўся бясхмарна.
Ляжаў лаваш**, загорнуты ў ручнік.
І Бзыб-рака ваду нясла ўладарна.
Тапіла ў Чорным моры маладзік.

Ён выплываў світанню на далоні.
Ражок святла разгойдваў па вадзе.
І знала я, што буду лепшай сёння,
Мой веку, да цябе і да людзей:

Бо песні з краю Гуліа, як сонца,
Мне растапілі болю ледзяшы...
Да мудрасці абхазскай найбясконца —
І мой імкнуўся кожны крок душы.

І калі ёсць святое ў гэтым свеце,
Дык гэта словы прадзедаў-бацькоў...
Бывай, Каўказ! Марскі лагодны вецер
Для шчырасці не вынайшаў замкоў.

---

* Дзмітрый Іосіфавіч Гуліа (1874—1960) — народны паэт Абхазіі, пачынальнік абхазскай літаратуры.
** Лаваш — хлеб.

# ДАРОЖНЫ ЭПІЛОГ

*

Крылы славяць палёт, цягнікі —
сваю хуткасць,
А каўказскія рэкі — разгон сваіх хваль.
Мама зноў завязала вішнёвую хустку.
І ў вясковую лета ўзіраецца даль.

Я вярнуся з дарогі — у край беларускі,
Дзе ліпнёвага квету расе не ўтрымаць.
І прайду басанож ля жытоў сцежкай вузкай,
Што мяне не адвыкла яшчэ сустракаць.

І скажу, як да мора ішла штохвіліны,
Як па промнях заліва чытала сляды —
За адзін прыпамінак дасветнай каліны,
Што мае ўзгадавала, як нянька, гады...

*

Ноч прыпомніць, як мне варажыла абхазка
Ля блакітнай скалы, што над Рыцай стаіць.
І пытала, чаму я скупая на ласку
І свой гонар ніяк не магу раздарыць?

Прыгажуня-гаранка, старанная Нала*,
На далонях тваіх пяць сузор'яў ляжыць,
Але ведай: каўказскіх трывог сэрцу мала,
Каб мяне навучылі — спакойненька жыць.

Ёсць зямля маёй мамы. На Случы паводкі,
Што душу затапілі, павер, не адну.

---

* Нала — абхазскае жаночае імя.

Колькі дзён адплыло там, як лодка да лодкі,
Колькі ўброд пераходзілі вочы вясну.

Колькі слова — люблю! —
забароньвалі вусны,
А пасля перапрошвалі зноў паўтараць —
І пачуцці былі, нібы Прыпяць у вусці...
Як жа ты не змагла гэта ўсё разгадаць?

*

Адказала: — «Твой лёс мае смуглыя пальцы
Не замкнулі, як пяць разамкнёных палат.
Усміхніся высока, славянка, на памяць
І да роднага неба вяртайся назад.

Мы не ў спрэчцы з табой.
Пры сяброўскай размове.
Твой палескі наіў. Мой абхазскі давер;
Як дзве песні ў адну, сёння сыдуцца ў
слове,—
І таму пра разлуку скажу я табе.»

*

Вось і ўсё. Два сюжэты — прасцей, як уздыхі,
Як на скрыпцы балючай дзве ранкі струны,
Як на белае полымя крылаў буслíхі
Выліў лівень каўказскі дзве хмары віны.

Я пасля зразумею — спрачацца з радзімай —
Як агнямі па зорах халодных вадзіць.
О, абхажанка Нала, на свеце адзіным
Толькі мужным прызначана — радасна жыць!

# МАЛЬЕР
# НА МІНСКАЙ КАМАРОЎЦЫ

---

*Іранічная споведзь*

*Жан Батыст Паклен, славуты французскі камедыёграф, акцёр, тэатральны дзеяч, рэфарматар сцэнічнага мастацтва — паэт Мальер, як ніколі, патрэбен Сённяшняй Духоўнасці. Так, так, чытач: у найзапалітычаны і эканамічна-неўтаймаваны наш час... Пабудзем з еўрапейскім класікам на мінскай Камароўцы ўвосень.*

Стагоддзя вечар. Раніца. Субота.
Да Камароўкі люд імкне ў гандлярства.
Палітыка — па грудзечкі ў турботах.
*Дзень добры Вам паэмаю, спадарства!*

Заблыталіся грошы і дзяржавы,
Духоўнасці — звантроблены вантробы.
Свабодны груз — металалом іржавы?!
Не праўдзяць прадказанні Паўла Глобы?!

Паэт Мальер! Камедыі вяртанне
Ад аднае да іншай — не забавы.
Дні Новага — Быламу пакараннем?!
Ці Вечнасць зноў — разгорчаныя травы?!

Каго рассмешваць, дарагі чытача?
Вярхі вярхоў ля маладзенькіх фракцый.

Эканаміст юрысту ў вочы плача...
Для Францыі не пазычаюць Францый:

Адной хапае дзесяці стагоддзям?!
Жыццё — ад пекла Дантава да раю!?
Так, так, Мальер! Фарс-вадэвіль у модзе.
*(Мы жанр падзей сабе не выбіраем!)*

Купі настрой за «зайчыкі» з рублямі,
Зялёны долар пакідай на піва.
*Паэт,* вякоў застолле паміж намі,
Але ж чаму шчаслівым — нешчасліва?

І тым, і гэтым... дэпутат і вучань:
Над спрэчкамі — як смага над крыніцай.
Паслячарнобыль — чорнаю анучай.
Ля Прыпяці разводдзю не напіцца.

Разліў падзей... асушаны надзеі.
Студэнт з філфака, перазыч валюты:
Купіць айчыне моднае адзенне...
(Стагоддзя крок да нітачкі разуты.)

Галосіць сорам лістападным ветрам.
Над Камароўкай — дах з высокіх цэнаў.
Бензіну залатыя кіламетры —
На мерседэсах возяць панацэю:

Ад нафты і разводнае краіны...
Ля Слуцка прадаюць за цукар бэры.
(Чырвоным коштам — спелыя каліны.)
Плаці пладам радкамі на паперы,

Мальер параіў і схаваўся ў жарты...
(Славянскі звычай: з госьцем ласкай трэба.)
Гісторыі раскіданыя карты —
Тузы ад Камароўкі і да неба.

Жыццё жыццём пакрыўджанае горка —
Каметай бразнула святлу пад ногі:
Мальер на мінскім пляцы лоўка-лоўка
Тэатр будуе з сённяшняй трывогі.

Білеты танна збудзеце, акцёры!
Прэм'еру хай наведаюць з саўміна —
Прэм'ер, эканамічныя суфлёры...
Ля веку найгарачага каміна

Прысядуць хай выбраннікі з народа.
Прысніся рэфарматарам, Сенека!
(Палітыка — збуялым агародам.)
Шкада, што розуму няма ў аптэках.

Ён выдаецца па рэцэптах Бога
Адзіны раз святы для ўсіх найгрэшных...
Да Камароўкі — мулкая дарога.
(Так пехатою ў кнігі ходзяць вершы.)

Глядзі, Мальер: гандлююць бульбай з салам.
Пакупнікоў — рады і перачэргі.
Спадарства, на прылаўках жартаў мала,
Набудзьце сувенірныя качэргі!

Ад дзецюка да камерсанта ў куртцы.
Адлакіроўвай, грош, стагоддзя боты.

Не ў сінтэтычнай, а ў свінячай скурцы —
Нядзелі, будні, сьвяты і суботы.

Дождж — хітрым перакупшчыкам з цыганаў.
(Так скрыпкі дастае аркестр з футляраў.)
Свабодны — вольны дзень, барон падманаў,
Звугольвае рэкламныя пажары.

На мове беларускай сад галосіць.
*Двухмоўе не знаходзіць суцяшэння.*
Адвосеніць і ў тысячную восень,
Што ў рост пайшло...

Набі, Мальер, кішэні

Ад клёнаў меддзю. Памяць разварушыць
Мінулае ў здзівачаным паўторы.
Духоўнасцю не перасыціць душы,
Адна адной перамаўляюць зоры.

Маўчыць Сусвет, рассвечаны да свечак.
Шум Камароўкі раткі пералаціў.
Стагоддзя кошт у развітальны вечар
Аднолькавы — і сіраце, і знаці.

Каханым і пакутнікам разлукі...
Пра што ты, Боль, разболены да шчэпу?
Распытляванаю мукою мукаў —
Жыццё. Грызуць турботы веку рэпу.

І ўсё ж святло найсамае з багатых,
Мальер перакупіў размову ў цётак.

І ў шляпу кінуў яблык гаркаваты.
*(На кірмашы — сяброў перагалодак.)*

Спрачацца, людцы, з самасцю — дармова,
Быт ад палітыкі — каля метро, направа!
Тэатр збудоўваецца з тайны слова.
*(Паэтаў еўрапейская ёсць слава.)*

Чаго няма? Прыстойнасці, сумлення...
Пераддзяржаўнасці ларок адчынен.
(Ад пакаленняў дзён да пакалення —
Сцягі з ільноў сатканыя — айчыне!)

Зняславы ён да хочу-перахочу.
*(Час горды, лепшы, ведама, настане!)*
Мазоліць Камароўка Мінску вочы.
Расцэнкі новыя — на даўнія пытанні.

Купляй на род. На цэлыя народы.
«Да філасофскай явы прыналежна —
Вядомая з пялёнак праўда згоды.»
На Беларусі — ранак незалежны.

Мальер, табе з сучаснасцю спазнацца,
Напоўніць чарку з жартаў да краёчку.
Сустрэчы — для вачэй і сэрца праца.
(Яны — не піва, вылітае ў бочку.)

Камедыянта жэзл вярнулі сцэне?!
Прадзюсера прызначылі гастроляў?!
*Хто на Радзіму вызначае цэны?!*
Тэатру з Камароўкі хопіць роляў.

Любоў з нянавісцю сыграць спачатку?!
(За грэх караць — расплочваюцца смерцю.)
Мальер кідае ў заўтрае пальчатку:
Мне сённяшняга дня абрыдла смецце!

Як смоль смалы — духоўнасці падзелы
Паміж людзьмі, краінамі таксама...
На Камароўцы — скуп стагоддзя смелы.
(Ён з рызыкоўных рызыкоўны самы!)

Натоўпу гвалт зграшавана-грашовы.
На роднай мове смех, з чужым акцэнтам...
Крок да ілжы адмервае нажовы,
За продак Душ — высокія працэнты

Прызначаны міністрам і акцёрам...
Мальер, тэатр з чарнобыльскім фасадам...
Падманлівы падманлівым Учорам
Краіны СССР сляпым распадам.

Ці хопіць мудрай смеласці паэтаў —
На жарт узняць цану на Камароўцы?
Камедыі дзяржаўныя сакрэты —
Жыццё трымае на вякоў вяроўцы;

Яна ў вузлах падвешана да столі.
Ад Неба да Зямлі — лес дэкарацый.
*Насычаныя палітычнай соллю —*
*Цярпення словы, мітынгі авацый,*

Какетлівыя фірмы мільянершаў
(Ад парыкмахерскіх да гастраномаў).

Раскрадзенага часу, клерк і клерша,
Што ёсць свяцейшы Бог, вам ці вядома?

З крыві закон зямных цывілізацый.
Грукоча перагрукатам нажывы
Духоўнасць, што ў раз'енку пракламацый.
(Стагоддзя слых і зрок — наскрозь ілжывы?!)

Мальер, твой смех скрозь слёзы — не ў
марозы.
Пыліны лета здзьмухвае з прылаўкаў.
Лірычны лістапад. Ён — як пагрозы
Для ненасытных Савачак і Клаўкаў,

Што ў перапродаж кінуліся ліха —
Царквы й касцёла, гарадоў, саўгасаў...
Сертыфікат на вырай для буслíхі
За долар выдаць Камароўка — ласа.

І шлюб яна адкупіць, і вянчанне...
Ветэрынар ад прашчура культуру —
Не злечыць, даражэнькія мінчане.
(Змакулатурвай, *век*, макулатуру!)

Палі кастром кастрацыі жывога...
(Ад чалавека — боль да чалавека!)
Грахоў уласнікі мы ўсе для Бога,
Заложнікі стрывожанага века.

Ты збудаваў, Мальер, тэатр...
са слова!

*Заходзьце, спадары і спадарыні!*
Стагоддзя вечар апрануў абновы.
З «ваўкоў» і «зайцаў» — Камароўкі скрыні.

Звяркі на разглянцованай паперы?!
Ад лесу — да палітыкі гарачай?!
Камерцыі хітрушчае манеры
Падкідваюць даходы, нібы мячык.

Падскокі за падскокамі... з прыжымам.
Хто найспрытней, лаўчэй — дзялкі не знаюць.
Стагоддзе — распружыненай спружынай.
(Так громам гром у горы забіваюць.)

Так з храму — дзікуны, што без малітваў,
Крычом крычаць цераз крыжы распяццяў.
(Стагоддзя вечар — яркаю палітрай!)
Душа — са споведзяў, а не з пракляццяў.

Ад першай дзеі веку — да апошняй.
Тэатр жыцця... сталей, чытач, вачыма.
Білеты набываюць розным коштам —
Аматары і сэрцамі з лаўчынных...

Даруй, Мальер, палітыкі хімеры:
Ад дыпламатыі — і да гандлярства...
Тэатр асвечан космасам Венеры:
*Спектакль — на веку вечарок, спадарства!*

Картэж маны. Машыны розных марак...
Ашчадны банк — раскошны на крэдыты.

З атручаных распродажам цыгарак —
Дым цэдзіцца падзей, як цераз сіты...

Купляюць, прадаюць усё да ніткі...
Па колькі за каханне, хлопцы, вёсны?
Маладзіка пасхальныя адбіткі,
Ад шлюбнай лодкі залатыя вёслы?

Давер і шчырасць, вернасць, крыж на целе,
Святая грэшнасць, шчырасці карункі?
*Камедыя, ты гэтага хацела?!*
Акцёрам — дарагія падарункі;

Не хопіць рук, гарачага дыхання —
Са сцэны знесці ў слізкія гатэлі...
Адплочаныя мужнасцю расстання
Зноў гойдаюцца восені арэлі.

Мальер, ты веснік чуйнага былога?!
На пляцы камароўскім — шум прэм'еры.
Тут гандляры ўсяго і анічога,
Ліхвярнасці расчыненыя дзверы —

Рыпяць падэшвай здрады чалавечай.
Капейкі душ — уцэнены ў масліны.
*Так вось які стагоддзя мудры вечар,*
*Палітыкі збанкручанай часіны?!*

Разменлівыя змены пераменаў.
(Маёр — ля інвалідскае каляскі?!)
Збармененыя позіркі барменаў,
Маральнасці размашчаныя маскі.

А побач дзеці — з чыстымі вачыма.
(Мальер з тэатрам ім — як дзіва-цацка.)
Дзе голас салаўя, дзе крык грачыны —
Малым, чытача, распазнаць знянацку;

Прыйсці да простай існасці
мудрэйшых:
На продаж толькі тое, што — ад працы.
*Што гордыя душою пішуць вершы,*
Што маладосць расквечвае палацы:

З любові, дабрыні, зямлі ў валошках,—
І не гандлюе вернасцю адзінай...
Мальер, спачні пасля прэм'еры трошкі,
Твая з маёй — гасцінныя радзімы.

Да песні — жарт, да слова — перасмешак...
Гамоняць пра палітыку бабулі:
Жыццю ў Еўропе — крэпенькі арэшак,
Урады не па радыё пачулі.

Спазнаць вякі — ліцэнзій зорак мала,
Камп'ютэрнай японскай загартоўкі...
(Палітыка, ты з Вечнасці прагалаў!)
Вяртаемся ж да Бога толькі-толькі...

Зямной трывогай сэрцы вымяраем.
Хто пакупнік-гандляр цябе, стагоддзе?
Судом жывых падсудных не караем...
Камічнай явы, Камароўка, годзе?!

Фінал наступнай дзеі?! Жартаў мала?
Кірмаш трагічны веку?! Тут ён, тутам.
Камедыя — рассыпаная макам.
Тэатр з акцёрамі: адкуп — пакутам?!

Законы не сцэнічныя ў гандлярства.
Палітыка, ты яд змяіны ў роце.
*Вучыцеся любіць свой край, спадарства!*
Радзімы сонца ў лёсаў незвароце—

Адсвеціць, апраменіць ярка й рана,
Падзеі, людзі — жураўліным клінам.
Стагоддзя вечар, чым ты пакараны,
Што й зоркам сцюжна ля твайго каміна?

Сагрэй, любоў, людское ў чалавечым.
Хай памяць стане пераплавам болю.
Ты зноў, Мальер?! Аб самым кроўным нечым?!
Паэт, я згодная радком з табою.

Не ўсё — на гандаль... перакуп, мой сябар.
Калі ёсць росы — зацвітаюць ружы.
Не ўсё — на куплю, не на ўсё ёсць хабар.
Крок Вечнасці імгненнем кожным -- мужны,

Сказаў Мальер — і карту Беларусі
З афішай на спектакль вярнуў да сцэны.
(Маэстра жартаў перацэньваў, мусіць,
Былых часоў і камароўскіх цэны?!)

Падсоб яму, удзячлівы чытача,
Будзь лепшым і як здарыцца — шчаслівым...
Жыццё развесніцца. Мінуць няўдачы,
Духоўнасці раскаласяцца нівы.

І ў новы век слязой з вачэй не грэбуй.
І жарт мальераўскі прыпомні ў скрусе —
Тэатр з падзей пад камароўскім небам,—
Знай: *не адрокся Бог ад Беларусі!*

# МАЛЮНКІ СЛОВАМ

*Міколу Ермаловічу прысвячаю*

*

Зрабіце ласку, хлеб-соль радкоў прыміце,
Ласкава словы просяць. Душа — капеек не восем.
З Траецкім прадмесцем вясна — у шлюбе.
Я й за стагоддзем Вам пакланюся:
*Мова. Матуля. Мінск і Няміга!*

*

Злосці зімова — ля гордых стаяці.
Зайздрасць радзімай — не знак беларусаў.
Позна, грашоўцы, на чвэрці край секчы.
Любасць свабоды — збагоўлена ў далеч,—
*Дзесяць заклёнаў духоўнаму хлебу!*

*

Слізкім сумленнем накормлены цынік.
Гідка глядзець на аб'едкі двурушша.
Змусілі мову ў палітыку ўпасці,
Хто пры барodах, а хто ў гнілі сэрцаў,—
*Божухна, як адкрынічыць людзей?!*

*

Адзіночкі святла й дабрыні — проса зерня.
Сыпанеш — і згарачыцца позірк ад ветру.
Хто — з сябрамі, экватарам радасці пройдзе.
Хто ў любові высокай — край неба зглыбіць,—
*Мудрасць для маладосці, жыццё, не ўшкадуй!*

*

Зняславы крошкі склюе хай воран.
Падман за стрэлы ў спіну — балючай.
Дзяржавы сорам — за грош не збудзеш.
Салінкай чорнай — законаў смецце,—
Сучаснік! Годнасць — ад залацін!..

*

Гісторыю ў яму распіхвалі чорна.
Зямля расступалася безліч разоў.
Адвесненай праўды ўскалошвала ніва,
Пергамент падзей — з Маладзечна да Мінска
*Прывёз Ермаловіч Мікола вачмі!*

*

Случанка й мінчанка. Дзве повязі часу.
Вясковасць і горад — метафар тэатр.
Гармонія ў генах, мазольна-гаючых.
Малодзівам песень успоена радасць,—
*Паэта пазнайце па вершы адным!*

*

Каўтун на ляльках не валосіць звеку.
Баравікі растуць не з гладышоў.
Каноплі сеюць не на асфальце.
Мяцёлка-венік не з пяску вязана,—
*Ад мужнасці і чысціні — радок!*

*

Ад Слуцкіх паясоў вякі — ва ўбранні.
Валошка праступае праз травы агонь.
На ткацкі выраб дзівіцца камп'ютэр.
Сінтэтыка і лён — два раздарожжы,—
*Жанчыны рукі — свечкі са слязы.*

*

З крыві адное — падтэкст і думка.
Нацятых нерваў — струна дрыжыць.
Не кінь камення ў натхненне ночы.
Слязу на ростань не рас-крыш-таль,—
*Даруй любові адчай і горыч!*

*

З Германіі везла калёныя словы:
Страшней фашызму — нічога ў свеце...
Рэйн і рубіны. Маўчанне ў шахтах.
Паўвека вёснаў — бацькавым ранам,—
*Маліся, Вечнасць, за сорак пяты!*

*

Сум не мае хаты. Сум не мае волі.
Камень прымагільны плача за сябе.
Ноч сышлася з небам. Цені ў два засекі.
Чужадол — рабіна ягадай шчыміць,—
*На сваёй радзіме і мазоль да цела...*

*

Раніцай купальскай — смешна ад палітык...
На святло і ружы — голаду няма.
З дзьмухаўцоў і лілій — настальгія лета.
Пацеркамі росы да травы-дыхання,—
*Вечару стагоддзя маладосць дару!*

# СЛУЧАРЫНЫ

*

Случ на ўсю случову сетку не закінеш,—
Долечку парчову апранеш — не скінеш.

*

Божа, з неба высокага глянь дарогі ў разгляд,—
Вёсны ўзвеснены — сокалам. Аніводнай — назад.

*

Пайду да казачкі ў найапошні раз,—
Слуцкі, вышываны, згублены пояс.

*

Хто йдзе — не мінае, бярозу ламае,—
Ніякага жалю нялюбасць не знае.

*

Да сцяны гаворыць толькі ноч начы,—
Да сваёй любові чужань не ўлучы.

*

Запалілі свечачку з яркае вашчыны,—
Богу што насуперак — з грэшнае прычыны.

*

Не сушы, сум, галавы, не з сухой жыццё —
травы,—
Берагі два, з часу плыні — маладосці рукавы.

*

То не ў Кіеве — агонь, не ў Тураве — дымна,—
Апякло расстанне скронь — думкам неабдымна.

*

Не гаршчок шчарбаты слова — вінаваты,—
Не хадзі ва ўчора сённяшнім ля хаты.

*

Праўда з ног да галавы і люба, і гожа,—
З воўчай воўчана травы — не вянчаных ложа.

*

Без віны як вінавацяць — чужалюбых
сваццяць,—
Развязаныя дзве долі — у Мікітаў лапаць.

*

Галубкоў не двое — некаханне тое,—
Што ў хвалях-глыбосці плавае, як тоне.

*

Як ад кручы да даліны горда случыць Случ,—
Так сваю з маёю доляй, казачэнька, злуч.

*

Направа — радзіма, налева — любоў,—
Што ж ты, мой далёкі, плавіш зоркі ў боль?!

*

Не на старане, на сусед-двары,—
Гневалася ў верш песня да зары.

# БАСАНОЖ ПА ЗОРАХ

*Паэма сустрэчы*

*Славаміру Добрычу,*
*са светласцю кахання*

## УСТУП

Красавік каля Свіслачы гойдаў вясну,
Як калыску з лясною русалкай.
Цырк сталічны з афішаў распальваў касцёр.
Адвячорак закрэсліваў сонца.

Нерухомасць святла маладзіла крыжы
На старэнькай царкве. Звон расціла.
Мінск-метро: затуляліся ў шэры граніт
Перад позіркам злоснай гандляркі,

Што букеты пярсцёнкаў (на пальцах-руках)
Вінавата паказвала веку.
Гітарыст уступаў эскалатар чарзе,
Нерухома-нахабна-цынічнай.

Дзень нябыт аклікаў, нібы хлеб жабрака,
Селяшчук — у майстэрні "маліўся".
І партрэт маляваў (з воску спелай слязы)
Вось калі мы сустрэліся, любы!

## БАРАЎЛЯНСКАЯ НОЧ

Караткевіча томік загойваў трывогі,
Выпраменьваў святло ў бараўлянскую ноч.
Ты не плакаў, калі нервы боль не прымалі.
І гарачыя вусны лёд клікалі ў сне.

Засланялі вясной — Беларусь, песні мамы,
Чарнавік (маладога ў мазолях) пісьма.
Ты не плакаў, калі Вечнасць вобзем упала —
І Чарнобыль стаў пасткай для гордай Зямлі.

## ПАРТРЭТ ВАЧЭЙ

Тры шрамы ад агню Афганістана —
Вайны, выродлівай наскрозь.
Партрэт вачэй блакітных... кужаль скроняў,
Як лён павыбеленых. Боль —

Чужы і свой, і тых, хто ў маладзёнах
Застаўся "брэжнеўскай пары..."
Параненага кроку — вокліч грузкі.
І сэрца ў абалонь-крыві.

Маўчанне, калі крык вулканы тушыць,
Салодзіць травы-палыны,
Апёк дыхання над жывой аортай.
Стагоддзя — вечар. Лёс і ты.

## ТРЫ ІСЦІНЫ

Трывога касою ўплятаецца ў зрэнкі:
Чырвонаю стужкай, зялёнай... ці знаць,
Што фарбы не хопіць камусьці святочнай?
І белая з чорнай — скрыжуюць пагляд?

Дарога касою ўплятаецца ў лёсы.
Кароткая — гэтаму, доўгая — тым,
Хто каменем злосць не кідае
ў твар плачу,—
Я знаю цяпер, як сляза п'е святло.

Каханне крывёю ўплятаецца ў сэрцы:
Глыбока, як дно акіяна, звініць.
Запомні, адзіны, на скрыпках надзеі
Фальшывай мелодыі — мёртвы акорд!

## АПРАЎДАННЕ ВЯСНЫ

Спрачацца з цынікам — як неба разгаворваць,
Прысудам аб'явіць найпершы снег.
Кастры распальваць на случанскім крэпень-лёдзе.
Вясёлкі лета зачарняць смалой.

Расу студзіць у высмаглай Арал-пустыні,
З чырвоных ружаў выкрасаць шыпы,
Гукаць маланкі з размагнічанай Ай-Петры,
З вачэй сляпых выпрошваць яркі зрок.

Выменьваць ноч на дзень,
нібы цыгане — коней:
Падманліва — за прывід залацін...
Я кожны міг шукаю тайны-апраўдання
Тваёй цярплівай Вечнасці, вясна.

## СЛУЧАНСКАЯ СПОВЕДЗЬ

Да змянення, да годнасці, да празарэння.
(Божа мой... да нязведань-чаго?)
Голас твой — спелым коласам —
зернем наліты,
Перавіты зялёнай расой.

Адмаўленнем пачварнасці і ліхадзейства,
Куплі-продажу, жорсткай хлусні...
Калі будзеш ля Случы,
даспель вёснаў мудрасць,
Пакланіся дзядоў хлебасольнай зямлі.

Яны веры сялянскай нідзе не гублялі,
Ні ў Сібір калі везлі, ні ў пекле вайны...
Ты сягоння — жывы. Пакланіся вяртанню,
Гукі слова святыя — люблю.

## АФГАНСКІ МАТЫЎ

Тэмпература цела апякала лета.
Экватар дня кранаўся аблачын.
Суніцы беглі з Камароўкі, як турысты —
І даспялялі вусны цішыні.

Бальніца — дзён сваячка... кардыёлаг
«Афганскіх ранаў» зведаў астравы,
Распытвае, чаму над кнігамі шпалеры
Валошкаваму колеру — браты.

Пульс веку — разамлелы да пракляцця.
Што мне сказаць прафесару ў адказ?!
Пасля, але не ў гэты дзень, цярплівы
май-галубе,
Прызнаеш, што радні ў слязы — няма.

## ЗАКЛІНАННЕ РАДКОМ

З тэатральнаю хваткай зайздроснік
пляткарыць,
Як камп'ютэрам помсты азмрочвае твар.
Я вароны крык-песень не чула ніколі.
Яны — чорныя, нібы ад смецця — дымы.

Я ніколі спагады ў чужых не прасіла.
Не падкідвала ў гора-няшчасце праклён.
Першы раз (заклінаю!), каханне, пачварных —
Абыдзі... подласць дыхае ядам змяі.

## ЭПІЛОГ

Апошняю з жабрачак...
Басанож — па зорах
*Ішла любоў так доўга да мяне,*
Што скнары — падабрэлі,
                                        печанег з раскопак
Вулканам выбег — і агонь змярцвіў.

Языцкі бог жытамі магму сонца выпіў.
Стамлёны век раптоўна памудрэў,—
Пакуль жыццё не плавіцца
                                        на вейках ночы —
*Чакайце, калі ёсць каго чакаць.*

# ТЫ І Я

## *Дзённік трывогі*

*

Адступяцца — і горыч, і знямога,
І эгаізм (пусцейшы з пачуцця!).
Ад воч тваіх і да маіх — дарога:
Ад сёння і да вечара жыцця.

Ты знаеш, што такое адзінота
І непрыступнасць жаласці ў начы.
Ты ведаеш, як бедаваць употай,
Імкнуць — і болю ўсё ж не памагчы.

Паверыш: сэрца ў сэрца, лёс да лёсу
Дыханне ля дыханнейка... ды зноў —
Ідзе праз восень май, гаротна-босы.
Забарані, маўчанне, клятвы слоў.

Адступяцца — і горыч, і знямога,
І павучанні: як, куды, за чым?
Ад воч тваіх і да маіх — дарога:
Такая, што *не пройдзена нікім.*

*

Сёння дождж, як жабрак, раздаваў
шчасця кроплі,
Па адной і другой... сухадоліў зямлю...
Мы ў расстанні былі, як акцёры два ў ролі,
Баранілі ад грэшнасці слова — люблю.

Ад завеі і грому, ад злога суроку.
І яшчэ (родны мой!) я не знаю — чаго.
З нас смяяліся дзве маладыя сарокі,
Бела-чорны іх спеў зіхацеў, як агонь.

Пустадомнай птушыне ці зведаць трывогу
І маўчанне капрызлівых мар і надзей?
Першы раз я глядзела, як плача дарога,
Як па ёй ходзяць столькі гаротных людзей.

Сёння дождж, як жабрак, раздаваў
шчасця кроплі:
Ад адной да другой — неба гойдаў мячы.
Мы ў расстанні былі, як акцёры два ў ролі,—
*Невядомага ўчора князі-багачы.*

*

А заўтра тое, што й раней?!
Сустрэчы. Ростань. Асцярога.
І груз стагоддзя — на спіне.
Усё да кроплі. І нічога?!

А заўтра тое, што й раней?!
Няпраўда з праўдаю. І тыя—
Імгненні Вечнасці ў акне,
Што да адзінага святыя.

А заўтра тое, што й раней?!
Ты. Я. Жыцця працяг... і ўсё-ткі
На памяці гарачым дне:
Над шчырасцю — ніводнай кропкі?!

*

Радок пра каханне — пракляцце,
Як з дому выгнанне.
Чытач,
Век — ноч у бальнічным халаце.
(Адрознівай: фальш дзе і плач.)

Радок пра каханне — распяцце
Скрыжаваных вуснаў.
Чытач,
Век — гукі аркестра ў санаце.
(Боль — з літарак чорных, як грач.)

Радок пра каханне — шукайце.
Расквечанасць жалю.
                    Чытач,
Век — смелы цыркач на канаце.
(Зямліцы — разгойданы мяч.)

Радок пра каханне — гукайце.
Размовы нямнога.
                    Чытач,
Век — той, што і пры Гіпакраце.
(Праз Вечнасць нясецца наўскач!)

*

Гэтай восені мінскай пячатка адчаю —
На самоце вачэй і цярплівай слязе.
А жыццё (хоць памры!) не пачнецца спачатку.
Значыць, трэцяму, некаму зноў — «балазе».

Эх, удача, тайніца-грамніца, аглушыш —
І адвергнеш сябе, нібы волю цыган.
Каб жа знаць, хто ў наіўныя, любы мой душы
І ў тваю, і ў маю) разлівае туман?!

Каб жа знаць, што ні ты і ні я без дакору
Не сустрэнем ні гэты, ні заўтрашні дзень.
Хто адкажа? Натомлена гордыя зоры,
(Колькі свецяць) а любяць, як дзеці, людзей!

# ПРАЗ ВЕЧАР СТАГОДДЗЯ

## *Маналог начы*

*

Аніхто не адкажа, не знойдзе ратунку
Пра сустрэчаньку тую.

Аніхто не рассудзіць і не запытае:
Ты не той? Я не тая?

Толькі ноч, што над сіняю вечара гладдзю,
З ценьмі будзе ў разладзе.

І жыццё, што (адзіненькі раз!) выпадае,
Да бяды ўсё спазнае.

І замоліш, ці не сваю грэшнасць святую?
Болем — боль твой ратую.

*

Маё каханне позняе... гарача
Чаромхаваму холаду ў начы.
На Случы набірае рост гарлачык.
І зорка — зорцы хоча памагчы

Вышэй узняцца ў цемры над бязлюддзем.
І асвяціць слязіну да слязін.
Маё каханне позняе... ці суддзі
Дазнаюцца ўсе разам:
«Ты адзін

Дазволены на гордасць і сустрэчы
З вялікасцю і радасцю начэй».
Маё каханне позняе... на плечы
Вясны — упала раніца з вачэй.

*

Калі трава зялёныя вузлы
Развяжа, як цыганкі летам хусткі.
Прызнаешся адказна і наўслых,
Што многа тайны ў сэрцы беларускі.

Спявае дзень (сямiструнoвы баль!)
Пра коню сівагрывага на лузе.
Ты незвычайны мне, як блізь і даль,
Як лёгкасць неба і граніт у грузе.

Стамляецца нявопытнасць надзей
Распытваць пра далёканькія планы.
О, хто з былых, ці сённяшніх людзей
*Дазнаўся: як загойваюцца раны?!*

*

Заўтра век пасталее на дзень.
Маладзець будзе мінскі світанак.
І сярод самых гучных падзей
Вусны вымаляць ціха:
«Каханак...»

Ты прынёс слова-дар з боль-вясны,
Ты ўцалеў ад душманскае кулі.
І калі май вяртаецца ў сны —
То, каб кветак размовы ўсе чулі.

*

Настане ліпень, горкі і мядовы;
Цень палыновы травы казытне...
Даспеляцца нясказаныя словы,
Што ты, адчайны, вымавіш і мне.

Зноў будуць нараканні і пытанні.
І справядлівасць рызыкі ў радку.
І адмаўленне: пра чыё каханне —
Вядома што камусьці на вяку?!

*

Ты спазніўся на цэлы мой лёс,
Абвянчаны з мінулым паспешна.
І цяпер дні — як высек бяроз,
І вяртацца з трагічнага — смешна.

Так самотліва клятве: «Адзін»,
Так сцінае душу мілаванне,
І знявечвае слых:
«Не судзі,
Не карай, не кляніся расстаннем».

*

Я цябе не ўкраду ні ад той, ні ад гэтай.
І з вясною не зблытаю смелае лета.

Крыж за крыжыкам вышыю
променем яркім —
Тваё імя на зорах, без гукаў памаркі.

І ў халодную ноч злюцянелай завеі
Паўтару для жывых:
«Беражы шчырасць вельмі!»

*

Непрыдуманы. Просты. Зусім непрыгожы,
Эгаізму і жаласці — сэрцам варожы.

Нехта бавіцца ў касе сустрэч тэатральных.
І шукае загадкавых знакаў астральных,

І спектаклі, як шуфлі, у думкі знарок
І ў сюжэты класічныя сыпле, і ў зрок.

Дапаўняе да смеху, з шумлівай манерай,
Чыставік майго лёсу, звянчаны з паперай.

І кідае, як меч воін-князь на зямлю,
Слова вострае з вострых апёкаў — люблю!

Вось чаму да апошняга ўскліку-дыхання!
Не дазволь анікому счарніць снег вяртання.

*

Двое, праз вечар стагоддзя,
Выйдзем сягоння ў зару.
Ці адзіноты мне годзе?
Ці зноў з вясной гавару?

Спраўна і смагна прырода
Выпрасіць — лівень і гром.
Знікне маланкай нязгода.
Стане шчаслівым мой дом?!

Гэтае? З гэтым зміріцца —
Неўладкаванай душы?
Божа, як сэрца баіцца —
Болем ступаць па цішы.

І асцярожна — праз травы! —
Лета агучвае ноч...
Хто даў мне гордае права:
*Слёзы спяліць твае з воч?*

# УВАСКРЭСЛЫ АГОНЬ

*Купальская паэма*

## УСТУП

Пераступлю, перадарожу,
Збароню чыстае праз чэрнь.
Даруй за ўсе пралікі, Божа:
Ад пят мазольных — да вачэй,

Ад цела белага — да зрэнак,
Ад солану і да слязы.
Пераступлю, знайду без сведак
Высокі шлях жыцця адзін.

І ў разгайданасці Сусвету,
Дзе кожнай зорцы — ясны кут.
Жанчынай — з іменем паэта! —
Адмоўлю непадсудных суд,

Бо толькі ты, Любоў, адзінай
Да неба першай — напрасткі.
Даруй за ўсе грахі, радзіма,
За тое, што твой лёс такі:

Як раскнязёваных княгіняў,
Калі прастол — два берагі.

Даруй радку, Страфа-грахіня,
Што з вершам знаюцца багі,

Што ў перамужнасці суровай
Стагоддзю, зболенаму ў боль —
Случанскае ў Купалле слова,
*Духоўнасці — святая роль!*

*

Не прызвычаюся да звычак —
Дзень адмаўляць такім, як ёсць.
І не прыніжуся да клічак —
Чарніць па чорным маладосць.

Аднойчы з Вечнасцю найвечнай
Не прашапчу ў прышэпт надзей,
З недаравальнасцю сардэчнай:
Ты, Доля здоленая, дзе?!

Адкажа выпытам маўчанне:
На ўсё цяплівы, мудры час,
Знай, ад кахання да расстання —
Дарога тая, што праз нас

Глыбей глыбокага глыбочча,
Стамлёней стомы ў перастом,
Начней, чым цені ўсе праз ночы,
Грымотней, чым вяртання Гром!

*

За Случчу соль калійная і сланцы.
Геолагам — на заўтра і пасля.
Ну, вось і я, каханая «афганцам»,
Да сонца зноў вымерваю свой шлях.

Жаноцкасць да капрызлівасці — тайна.
Адлучанасць ад шчасця — як праклён.
Што дарага адплочана, што танна? —
Імкнецца разгадаць зялёны клён.

Яго ў маленстве з бацькам я садзіла,
Маланкамі прырошчвала ў зямлю.
Памылкі сэрца — не з дзівосаў дзіва.
І словы не з тэатра: «Не люблю

Двурушша і нялюдскасці да жалю,
Няміласці, дзе міласць — горды знак».
Ну, вось і я няроднаму — чужая,
Так нечакана прычакала так:

Што Вечнасць перамерваю вачыма,
І месца для прастору не знайшла,
І ўзважваю вясну на груз плячыма,
Якая сведкай ростані была.

Слязою па слязе плыву ракою,
Для памяці рукаўлю астравы.
Ну вось і я — наскрозь перад сабою!
Займела непапраўныя правы...

*

Трынаццаты аўторак — ні дажджыны.
Насмягласць траў, рамонкавы адчай.
Ствалы рабінавыя — як спружыны —
Адхістваюць ад белага пляча

Маю руку... тваю не дакранаюць.
Ад вышыні да долу — неба круг.
Навошта некаханыя кахаюць?
Навошта ў перамеллі Случ і луг?

Пытаць і перапытваць да зашэптаў,
Да голасу грачынага грачыць:
Навошта забіраць у лета лета?
Навошта невіноўнае вініць?

Трынаццаты аўторак — ні дажджыны.
На ліпах — з пераплачам першацвет.
Праз вострань перасохлае ажыны
Ты праз Сусвет глядзіш мне напаслед

Адвержана, як князь, што не пры ўладзе,
Сваю князёўну раптам не прызнаў.
Трынаццаты аўторак — як у садзе
Вясельных руж ніхто не паліваў...

*

Я ў чужыя двары не ішла цікаваць,
На чужое дабро не развочвала вочы.
Хто навучаны болем: да слёз дараваць,
Той шчаслівае заўтра для заўтра прарочыць.

Я ў чужую душу ні камення, ні зла
Не кідала ўпрыцік... тумакі хоць лічыла,
Ад вясновае лодкі не ўкрала вясла,
З маладосцю лаўцом не лаўчыла.

Ды слязой аб слязу абпалілася ўсё ж...
Ад апёкаў вачэй — праціналіся зоры.
Мыў мне рукі царкоўны рамонкавы дождж.
(Бласлаўляю яго год і ліпень каторы.)

Не ў чужыя гасціны прыгошчваць гасцей.
Не ў прысорам знаць праўду да горкае
праўды,—
Хто навучаны болем — маліцца часцей —
І маленькаму шчасцю быў радасна рады!

*

Слязней слязы... жыццёвы вырак: позна!
Што рана? — адкажы, цярплівы час?!
Змутнелы свет па-рознаму і розна
Гандлярнасцю духоўнай чэрніць нас.

Як шчэпам шчэп, учэпіста і хватка,
Нізводзіць малітоўнае на грош.
Сумленне, годнасць, як на латцы — латка.
А чысціня? Што не ў дарунак больш?

Што белае святло — вузей тунеляў?
І праўда перапраўджаная ў золь?
Стагоддзя сумны вечар... ці арэлі
Разгойдваюць паэтаў зорны боль?

*

Прысядзем, Мама, з раніцаю ўтрох.
Хай лістапад смяецца каля ног.

Дажджаць дажджыны выраю ў адчай.
Ты — ля майго, я — ля твайго пляча.

Так многа дзён, адложаных лазе.
Трывог, што патанулі ў пустальзе,

І выраклі жыццё на сум-гады.
Адмоўчым, Мама. Збудземся бяды.

Прылашчыць снег адлашчаны спакой.
Радкі прачнуцца пад жывой рукой —

На Мове Роднай, доранай Табой.
Прысядзем, Мама. Пераболім боль.

І твой. І мой. Два лёсы ў два вузлы
Час звяжа моцна... адкаснецца злых,

З няверaных і чорных, гідкіх душ.
Прысядзем, Мама, з восенню — ля груш:

Прызнацца свету беламу, што дзень —
Не спляміў аніводнага з людзей.

*

Сяміжыла, да ношаў каменных,
Пойдзе ростань з паводкай слязы,
Як манетаў насыпле разменных,
Як да зораў прыладзіць вазы—

Ад світання ў маланках да іншых,
Што ў агнях, разбудуе масты.
На Зямлі анікога з нас лішніх,—
Паўтарае грахоўнік святы.

Горды ён, ці да жаласці гнеўны,
Разналікі, ці шчыры паэт.
Сяміжыла, да ношы — з паўнеба —
*Пойдзе ростань: агледжваць Сусвет.*

*

Не кожнага прыводзяць да царквы —
Анёлы на сямі высокіх крылах.
Адзіныя ў жывой душы правы —
Да Бога не імкнуць ні ўкос, ні крыва.

Да споведзі прыходзіць кожны з нас,
Грахоўны больш, ці менш сваёй істотай,
Не паспявае ў перасуддзі час
Адрозніваць самоту ад суботаў.

І ўсё ж, калі нябёсаў сіні крыж
Дажджамі пласт магільны перазначыць,
Паміж жыццём адзіным, смерцю між —
Цана для ўсіх аднолькавая ў плачы:

Перакіпіць салёна ў перакіп.
Халодны дол асветліць да крамніцы.
І ўчуеш Багамацеркі ты ўсхліп,
І тайнага разведаеш тайніцы,—

Што з грэху грэх — каханнем папікаць,
Што з бруду бруд — вяртаннем
перасмешваць,
Што з жалю жаль — не жыць, а дажываць.
*І знаць, што кожны міг мудрэе Вечнасць.*

*

Гэта й ёсць прадаўжэнне жыцця,
Калі з «нуліка» ўсё і «спачатку».
З невядомага, як з адкрыцця,
Поруч — з мудрасцю, смела ў аглядку.

Гэта й ёсць з круга Дантава крок —
За мяжу, што не знае размежжаў.

Гэта й ёсць найжаноцкасці зрок,
Калі душы — высокія вежы...

Не кранаецца якіх шэратвань,
Не спустошыць расценне былога...
Гэта й ёсць у світальную рань —
*Праз Радзіму, да вершаў Дарога!*

*

Даравацъ — не для кожнага гонар...
Палітычнай вады кругаверць
Ператоміць духоўнейшы голад,
Перaславіць жыццё, а не смерць.

Веку ў сказ (не ў касмічныя бойкі!)
Прыгадае пра Вечнасць і міг.
Даравацъ — трэба мужнасці столькі,
Каб ставала павек для двaіх,

Каб і грэшным гранілася ў зрэнкі,
І маной не чарновіла фальш,—
*Даравацъ — талент горды і рэдкі.*
А ці зможна на свеце інакш?

*

Дапішу гэты боль вугалёчкам радка,
Што заценены ў яркасць святла на світанні.
Кропку з клічнікам ставіць адчайна рука
Пасля слова, нацятага ў стрэлы: *каханне!*

Княжы позірк начы развярэджвае ціш.
Вось і я перад Вечнасцю мігам мільгаю.
Што ж ты, гонар случанкі, маркотна
маўчыш?
І не верыш прызнанаму: больш не кахаю.

Не заву і не клічу... Зцыганенасць мар
Перахітра гандлярыць, разрушвае нервы.
Кораб восені повен захмараных хмар.
Як трымаць гэткі цяжар высокаму небу?

Як даўмецца душой? Як крывёй зразумець,
Што ўсё плыннае ў свеце адзін раз да грэху?
Дапішу гэты боль вугалёчкам, што ледзь
Вугалеў на зары, бараніўся ад смеху.

*

Яшчэ не ўсё разбітае да шкла,
Яшчэ не ўсё разорвана да ніткі.
На скрыжаванні дабрыні і зла
І ў грэшнага — святыя ёсць памылкі.

Яшчэ разлік — падлікам танных дзён,
Спустошаны да беднасці бядою.
Яшчэ, мой лёс, любові ты жадзён,
Як голад, што звянчаны з лебядою.

Яшчэ падман і праўда — дзве сям'і.
Чужое з родным, існаваць пры сумненні.

Яшчэ пры няньках, *мужнасць*, ты сямі.
А сэрца — пры даверы і сумленні.

І гэта ёсць — жыццё? Зямны міраж?
Ад зорак і да зорак — крок пякельны?
Адкажа хто? Дзень развітання наш —
Як звон крыштальны, сумны,
з невясельных.

*

Апошні дзень кахання — зрок савіны,
Ці Каіна распяцце за грахі?
Плод адчарвелы горкае каліны,
Пустое рэчышча жывой ракі.

Граніт, што з пухам выперадкі ладзіць.
Патоп, што не прамочвае Зямлю.
Суладдзе музыкі ў сляпым разладзе?
І найгаротнае са слоў: люблю.

Апошні дзень кахання... мілы Божа,
Развенчанасць надзей страшней
за смерць.
Пакутуй, сэрца грэшнае ў застрожжы,
Ты рай і пекла зведала на чвэрць!

*

Цвяліў — казачка, жарціў — сяміплачка.
Адыдзецца, мінецца ўсё, павер.
Случанка, перагордая дзівачка,
А што далей? Куды і як цяпер?

Ад засені да засені праз восень
Хавае Вечнасць, у мазолях, твар.
Душу не ў «сем» залічыш і не ў «восем».
Жывых вачэй разбуджаны пажар —

Затушыць хто? Ваду з агнём звянчае?
Пустыню распустыніць задарма?
Расстанне — разгалоджанаю чайкай,
Ля крылаў белых — холад і зіма.

Насычанасць чаканага не ў меру?
Пакорлівасць самотнаму ці ўслад?
Цвяліў — казачка... і расчыньваў дзверы.
Абодва — не вярталіся назад.

*

Фальшываму сяброўству грош цана.
Я сёння — да злачыннага адна!

Дождж парасон на клёнах размачыў.
Як спавядацца споведнай начы?

Святою поўняй цені заліло.
Гаротнае з гаротных — адбыло,

Адмітусніла, адсмяяла так —
Не сціснуць, не разняць надзей кулак.

Запёк слязы на ростані шчацэ.
Ну, што, мой лёс, нязведана яшчэ?

Сум — пакараннем, лютасць — задарма.
Прабач за вырак, Вечнасць... я сама

Над болем — яд самоты праліла.
Ад дабрыні не адлучыла зла.

Служыць любові — смерць развараўжыць.
Аднолькавыя словы боль і жыць.

Прысяжнымі — радок і цішыня.
Мне золатам сягоння — чысціня!

*

Адпускаю — як шторм — караблі,
І як востраў — паўшар'е Зямлі.

Не віню. Колкім словам не джалю.
Шлях не зычу па вугалю-жалю.

На хлеб-соль і ваду не прашу.
Апарожваю болем душу,

Напаўняю святлом даравання.
Гром грыміць, ці я зноў пра каханне

Пры маланцы сляпотнай пытаю,
Ад слязы ключ для смеху шукаю,

І жыццё не кляну колькі змогі?..
Адпускаю ў чатыры дарогі.

Справа й злева. Наросхрыст і ўсцяж.
Лёс і век да чужыннага — наш.

Ні крапёнца, ні шкельца не ўкрасці.
З літар Вечнасці складзена шчасце.

Міг кароткі прыслужвае грэшным.
Не апошнія мы і не з першых

Па крыві, як слязе, басанож!
Як апошні з апошненькіх грош...

Расцыганілі смела ў распродаж рукі,—
Адпускаю ў чатыры (з чацвёртых!) бакі.

*

Не п'е голуб вады ўвечар, болей пралівае.
Сцеражыся злосці нечай — яна зневажае.

І старога. І малога. (Заніштo! Дармова!)
Залацей за залатога — праўда, шчырасць слова.

Як учора ды звячора конь згубіў падковы,
Так і бела тоне ў чорным —
дзве жыцця высновы.

Не шукай благое ў добрым — горкае ў салоддзі.
Паміж жаласным і гордым — радасці разводдзе.

Адлучай неадлучальна ад слязы і болю
Тое, што да скону веку дорана вясною.

*

Белае й чорнае. Радасць і сум.
Звеку выроднае чэрніць красу.

Ноч пераймае ўваходзіны дня.
Век і падзеі. Я з імі — адна.

Божа цярплівы, празорны, скажы,
Як без надзеі мне дыхаць і жыць?!

Светлае, гордае клікае ў верш.
Гнеў — апасля. Я з любоўю найперш.

Мацерка-радасць. Бацькоўскі давер.
Вы самы мудры мой князю цяпер!

Брат-неспакой, не пакінь у бядзе.
Гэтулькіх шчасця жадаюць людзей.

Хто супраць зораў глядзеў хоць калі?
Белае й чорнае — солень Зямлі;

Фарбаў спалучных жыццёвы спакой
Крэслю не леваю — правай рукой!

*

Цярплівы Божа нас не папікне,
Што несуцешна лёсы два ў размежак.
Лік абразоў на ліпеньскім акне —
Ні здзекаў не дазволіць, ні насмешак.

Ні крыку — наўздагон, ні ценяў злых.
Адзін адному вырак і адхланне.
(Як многа ў чыстых жыццяў дзён пустых!
Як мала ашчасліўленых каханнем!)

Як брудзіць чорны колер белы снег,
Заплямленай дарозе шэрыць вочы.
Ані табе цяпер. Ні заўтра мне,
Што значана — раззначыць (не сурочыць!).

Ідзем не ўслед каханню і не ў крок.
(З'інакшаныя душы — як выжары!)
Цярплівы Божа, пад які зарок —
Не дакрануцца б звугленага жалю?

Напругласць нерваў — выпытам крыві.
Нячутны шэпт — мацней грымотных
крыкаў.
*Пры Божым дні па-Божаму жыві* —
З высновы гэтай сэнс жыцця вялікі.

*

Мне ўсё яшчэ дапытвацца пра тое,
Што спрэчкі з лёсам — найчарней смалы.
Кляновы ліст у бездаражы тоне.
Вялікі свет да дзіўнага малы.

Старыя ісціны душу не грэюць:
Жыццё мінае з хуткасцю слязы.
Сярод нямудрых мудрыя мудрэюць,
Як зоркі ноччу над лязом лазы.

І хто спрытней сябе самога і лаўчынней —
Цыганка не «раскіне на валет».
Спрачаецца, як рымскі суд з айчынай,
Сягонняшні разгневаны паэт.

Яму падзей гарачлівая поза
Шэкспіраў — забаронены тэатр...
Мне ўсё яшчэ даведвацца не позна,
Што дзень для ночы, *як сястра і брат*.

## ЭПІЛОГ

Мне слова матчына не ў лішак...
Бязроднасць гневіць камяні.
З імёнаў Вечнасці —
Францішак
Зноў пры духоўнейшым агні:

Гарыць высока і прарочa,
Нібы купальскі яснадзень.
Глядзіць стагоддзю смела ў вочы.
*Ідзе Скарына да людзей!*

Выслоўем Тайнасці і Веры,
Як малітоўнік з гука ў гук.
Радком кранаецца паперы,
Мазоліцца пісьмовых рук.

І не ў падмогу, а ў патрэбу
Душы натомленай, як груз,
Духоўнага чакае хлеба,—
*Як маму — любіць Беларусь!*

# КНЯЗЬ ТЫ МОЙ, СЛАВАМІР!

*Баларды ростані*

*

Маленькая дробязь — забыцца, забыць?!
Закрэсліць да звугленыхісцін?!
Сіротна не помніць?! Навучана жыць?!
Падумаеш — нешта, калісьці

Скрыжоўвала нервы, звярыла, як звер,
Раскрывам крыві халадзіла.
Маленькая дробязь... што неба цяпер —
Маланкамі загарадзіла.

З кахання ў вяртанне — агнём па агні!
Ты чуеш, славенец, як зоркі
Раззораны згорана на далані,
То міг ад гардыні іх толькі!

Маленькая дробязь — забыцца, забыць,
Закрэсліць гранітавым зрэзам?
Ззалочаным золатам слова — любіць!
Вось хлеб твой, мазольная Муза!

*

Далонямі веку твой позірк з вачэй
Прывочу да ўскружанай долі.
Даўжэе — мінулае. Памяць — ярчэй!
Жыццёвае ўдосталь спатолі.

Князюю пры іншых. Злагоджваю лад.
Ад явы — да кніжак царкоўных.
Прысуднае Вечнасці строгі пагляд:
Любові ўсе роўныя з роўных!

Адгневам пачуццяў не сплавіш віны
Слязой, колькі б грошай ні ўгрошыў.
Далонямі веку твой позірк з вясны
Вяду шчодра ў верш, мой харошы!

Змілована. Змудрана. Божа святы,
Што згублена — лёс не вяртае —
Прыходзім да Споведзі: Я, Век і Ты.
Дунаем твой воблік світае.

*

Зноў за поўнач. Санет Мікеланджэла.
Забароньвай спакой, ці дазволь!
Грузкасць зораў расстаннем узважыла:
Вось які ён, збагоўлены боль!

Чорны колер смалы перасмоленай...
(Што жывое — жывым пры жыцці.)
Забароненай і недазволенай
Мне да Храму Любові прыйсці.

Басанож па раздробінах-вышклінах.
(Не параніць паранены б зрок!)
Зноў за поўнач... хто ведаў,
што выйдзе так?
Бараніся хвалыні, *радок*!

З будніх гукаў ты ў святы народжаны.
(Што натхнёнае — не адсланіць!)
Зноў за поўнач. Святлом
князь-злагоджаным:
Гонар ростані мне бараніць.

*

Вечарэе стагоддзе... спакою —
Так бязлітасна ў часе няма.
Талакою — гады! Талакою!
Падабрэла на снежань зіма.

Хістане вецер гойдка тапалі.
Галалёдзіцы — шал (хоць куды!).
Мы заложнікі ўсе сваёй долі —
Хто наймудры і хто малады.

Рэквізітары гневу і болю,
Спадарожнікі — зоркам і дню.
Талакою — гады! Талакою!
Гэты век я і ў новым прысню,

Да знітованай ніткі былога,
Да вясны, звеснавелае ў міг,
Да анёльскага позірку болю,
Што «калядна» глядзеў на дваіх,

Калі неба распільвала Вечнасць,
Фарбавала славенкую сінь!..
Ноч стагоддзя, праз грэшную
грэшнасць –
Найсвятое ў духоўным пакінь.

Ясны снег — разналікі ў сняжынах
Будзе ў боль развярэджваць радкі.
Яны — колкія, нібы ажыны.
Ростань — ростані, любы, пакінь!

*

Плачам сумныя ўтрох: Славамір, дождж і я.
Хмараў ліўневых грозная княжыць сям'я:

Лета вымыць, маланкамі перажахнаць...
(Не кляніся, што вечнае слова — кахаць!)

Маладзік, ледзь жывым, адвартуе зару.
Не ў пару сум, славенец, для нас, не ў пару.

Рукі белыя локцяў. Зямлі чарназём.
Засалонены вочы. Сухі перагром.

Плачам сумныя ўтрох: Славамір, дождж і я.
Божа праведны, праўда святая — твая,

Што расстання пятак — задарма, задарма,
Калі шчасце шчаслівец сваё не ўтрымаў.

Промні — долу: жывыя. Не ўчуць салаўя.
Плачам сумныя ўтрох: Славамір, дождж і я.

*

Ад ісціны — да ісціны: хады —
На век жыцця... ні кроку болей.
Капрызна халадзеюць халады,
Раскалыханыя каліны болем.

Чужэй чужога — слава мітусні.
Святлом не перасмешваюцца зоры —
Любові выпраменьваюць радкі —
(Пэратрывожся імі ў верш каторы!)

Калядны снег прывабіцца шчакой —
Да белага знамення Беларусі...
Жыццё, ты й ёсць — спрадвечны
неспакой.
Цябе ніщто быць іншым не прымусіць!

*

Я прашу даравання ў царкоўных анёлаў,
Нізка-нізка да споведзі схілена голаў.
Воск расплаўлены ў ліках святое Сафіі.
(Гэты век у духоўнай вайне-атрафіі?!)

Б'ецца з грэшнікам грэшнік слязою скупою,
Лістапад спавядальна праходзіць па полі.
Плод каліны-расстання: рубінавы жар,—
Праўда ў зорах — святло... гэта ў ценях — ілжа.

Чорны колер за белым — вянчальная гладзь.
Маці гордая Вечнасць. Любоў не разладзь
На Зямлі, што рассыціла немасць душы,
Дамалюй купал вёснаў, радок! Засняжы!

*

Так... толькі драпінка на твары лёсаў,
А боль такі, што высмаліў вякі!
Куды, расстанне, гэтак безгалоса —
Ад развянчанае ў вуаль рукі?

Так... толькі звугалелы вугаль зрэнак,
А жар такі, што сонца ў пераплаў!
Куды, расстанне, ад купальскіх кветак
Да палыновых прыдарожных траў?

Так... толькі камянёчак дрогкі часу,
А шлях такі — дзве Вечнасці ў адной!
Куды, каханне, даравання чашу
Нясеш, як зоркі п'е хто за спіной?

*

Мне хопіць яркага святла —
Дапаважаць стагоддзе вершам.
На край пісьмовага стала
Прыладзілася мудрасць першай —

Ад гука ў гукі несці крыж,
Да неба ўзняць падзей маленне.
Паміж радком і сэрцам між —
Шлях для духоўнага сталення.

Кранецца зрэнак летні Спас,
Дрыготка яблыня плод зрушыць.
Сярод жывых і гордых, нас,
Сляза слязу — не запарушыць,

Калі яна ў пачуццяў град
Не разнявечвае святога.
Над алтаром і словам над
Любоў і ростань — перад Богам!

*

Ні ў свае, ні ў чужыя — як човен з чаўна,
Калі вір развіраваны вірам.
Дакранецца прадонне случанскага дна —
Як ускормлена плынь дзівасілам.

Ні ў свае, ні ў чужыя — пярсцёнак крыжа,
Як жабраваны, скоціцца ў ружы.

Чуеш, ростань? Дзе тая вянчання мяжа —
Ад замужжа да мукі ў размужжы?

Ні ў свае, ні ў чужыя — дзве кроплі ў адну
(Пераплочана тайнае — тайна!),
Хто залічыць былое былому ў віну?
Шчодры боль,перабольваеш танна!

Ні ў свае, ні ў чужыя — адплывам ракі —
Той, якога адлецілі леты.
Праз малітвы сустрэчам, праз
сэрцаў радкі,—
Вось і ўсё, што ў *прызнанні ў паэта!*

*

Не па-княжаму ў нас... горкі ліпень.
Засалоджаных спрэчак канвой,
Як спякота дня выпіла лівень.
Не паранься высокай травой!

Асаку з медуніцай — не зросціш.
Корань з коранем — нібы чапцы.
Не па-княжаму ў нас... грэшным госцем
Сем рамонкаў цвітуць пры вянцы.

Не краніся пялёсткаў гарачых.
(Столькі злашчаных позіркаў: ніц!)
Ад Дунаю да Случы й да плачу —
Столькі ў зораў зямных вучаніц

Перамерваюць Вечнасць дыханнем.
(Вось і я з імі — з першых сясцёр.)
Не па-княжаму ў нас... ці ў каханні:
Што ні крок — то пажар ці касцёр!

Развуглелы да жаркага жару...
(Так манашкі: ля грэшніцы ў ноч!)
Не па-княжаму ў нас... па выжарах
Маладосці ідзем з веку воч.

*

Не знаць і не ведаць — два імені ў дым?
Расплаўленых вуснаў — пустэча.
Над сэрцаў абрывам — адчайна стаім.
Пад ногі — даларныя рэчы!

Кідае маўчанне свой гром проста так,
Валун з валуном раздымае.
Не знаць і не ведаць... самотнейшы знак.
Вайна пераможная з маем —

Закончана? Бразнулі зоркі святлом.
(Ім месца ў сусвеце не стала?)
Не знаць і не ведаць? Раздомлены дом —
З краін дзвюх... ці ж, вершы, вам — мала?

*

Забаронай кляцьбы — той дзень.
Крышталёвага люстра адбіткі.
*За любоў не судзі людзей!*
(Не с суглінак душа, не з цаглінкі.)

Разаб'ецца радок край стала.
Пераболіць гук, ярка — кожны.
Слова збожана — адбыла!
Крок разлукі наскрозь вяльможны.

Багацейшай слязы — няма!
Пазычаю: свячы ў пазыку.

Як царкоўна ідзе зіма
На Зямлю ў неспакой вялікі!

Забаронай кляцьбы — той дзень.
(Лёсам: вымашчана дарога.)
*За любоў не судзі людзей,*
*Не сароміцца ёй — нікога!*

*

Чужога ні ў рукі, ні ў верш не вазьму!
Ноч няньчыць ля вокнаў стагоддзя зіму.

Дунайская раніца. Крокі — з ільдоў.
Не выкрасліць май з маладосці гадоў!

Ні восень случанскую, ні малачай.
Які ж ты высокі за ростань, адчай!

Я знаю, што стрэнемся ў зорах... і ўсё ж —
Размежжа любові, *радок,* не разбож.

Малітвай маўчання, што з нерваў-крыві!
Свячою, расстанне, любоў ажыві!

*

Будзе ўсё, як раней... ружы, зоркі.
ییралад у падзеях. Грамы.
Снег ля Случы. Дунай — май... вось толькі
Па-за вечнасцю — памяць і мы.

Будзе ўсё, як раней... за мяжою —
Даравальна-ца́ркоўны алтар.
Адхіснецца бядота з ілжою
Ад жыцця, як ад ценяў ліхтар.

Будзе ўсё, як раней... час не змусіць
Развярэджана згневіць адчай.
З Югаславіі да Беларусі —
Вёсны ў сем палыноў прывячай!

*

Закалыхваю памяць радком,
Мудрай восені гнеўлюся ў рукі.
Лісце падае гнеўна, крадком.
*(Міг і Вечнасць — святога зарубкі!)*

На паперы-дыханні з начы,
На кляновым растрэп'і, з галінаў.
Як мінулае перамагчы
Ледзь дыханным агнём успамінаў?

Сум знявольвае нервы на гром,
Расстагоджвае лёс на квадраты.
Закалыхваю памяць радком,
Перакіпам слязы вінаватай...

Каранацый з вяртання — сцягі!
(Дзвюх краін — перамежак нічыйны!)
Зоркі ведаюць: толькі багі
Судзяць гонар славянскай жанчыны,

Што каменіць пялёсткавы дом —
З яркай хуткасцю грознай каметы.
*Закалыхваю памяць радком.*
*Не параньцеся словам паэта!*

*

Вясельны слад... Пякуча палынам
Сустрэчы-парасткі расціць з маўчання.
Багатыя дарункі: памяць — снам!
Разбожанае, мудрым будзь, каханне.

Прачэрнь надзеі — высмаліць смалой.
(Хто з белых руж вясну расой адмые?)
Калядныя вандроўнікі зімой —
Снягі (да променяў святла!) — прамыя!

Наўскос вятры ў сумёты і ў віры
Кідаюць ноч, як вэлюм·ззалачоны.
Вясельны слад... пры згорчанай зары
Ты з Вечнасцю, радок, да слёз звянчаны.

*

Як і ўсе мы з табой... толькі крышку —
За прадоннем падзей, за «ледзь-ледзь»,
Перапоўнілі суму кілішкі,
На мяжы, дзе расстанне — як смерць.

Растрывожаны век да трывогаў,
Ростань гучная — з імем нямым.
Як і ўсе мы з табой... толькі ў Бога
Час кароткі адведзен жывым.

Пералічвай да гукаў світанні —
Па абодва жыцця рукавы.
Як і ўсе мы з табой... а ў маўчанні —
І на заўтрага заўтра правы!

*

Вырай мружыцца светлым крылом адбыцця.
Вось і мне без цябе — так удосталь Жыцця.

Прынадзейна, цярпліва, пры Божым судзе.
Вось і мне без цябе — як Зямлі без людзей!

Прытаропка разлука прыводзіцца ў гнеў.
Вось і мне без цябе — зімам як пры вясне!

Колер суму — адзіны: палын-сухадол,—
Вось і мне без цябе — *плодзень песень на стол!*

*

Пэратомлены век. Раны зорак
Гоіць мацерка-Вечнасць адна.
Ласкі часу. Яны — не з аборак.
І падзеі не з ружаў: сцяна.

Нас радзіма аднойчы прывеціць,
*Мовай матчынай* слых закране.
(І ў дзяржаўных падзеях ёсць смецце.
І духоўны захмель — не ў віне.)

Залатоўнікі грэху зямнога,
Мы ад кожнасці кожнай святой
Патрабуем замнога — ад Бога.
(Гэты — з гэтымі, тая не з той...)

Прыдаларнай палітыкі веча —
Размурашыць касмічную рань.
*Князь ты мой, Славамір!*
Шляхам Млечным —
За сабою стагоддзе не рань,

Калі новае ўвойдзе ў крывіны,
Адкасне пазаўчорашні сцяг...
Вулкановаму слову: «Адзіны!» —
Васільковыя вочы жыцця.

Пярсцёнкаў магма расплавіць зрэнкі.
Не дакраніся васковых струнак,—
Акорды сэрца — з крыві ў агні.

*

Дунай ад Случы — на чырвань ружаў.
З шыпшыны дзікай — мёд на стале.
Каштуй былое. Хмялей ад заўтра.
З сягоння крошак — жабрак смяецца,—
Багачка-памяць майструе верш!

*

Сваю б дагледзець... Любові іншай —
Не знаць, не ведаць нідзе й ніяк.
Змяёй у нервы — падману джала.
З цынізму гнёздаў — кусае й сонца,—
Прамёны праўды саткалі лёс!

*

Іншаземнае... божухна мілы,
Ад жанчыны да неба — багі...
Разгнявілі каханне на межы.
На прыступках расстання — вякі,—
З белых росаў — збудаваны храмы!

*

Тваім іменем зоры гуканы.
Аніводная ў жаль не засвеціць.
За мінулым (укрышань!) граніты.
Бласлаўляю сустрэчы (да кожнай!) —
Не ўсаромся таго, што ў аднойчы!

*

Шчаслівей маладзёнаў. Вузельчык Еўропы
Развязаны шаўковым шнурком каралеўскім

Не ўкароцься, дарога, як вернешся ў будні.
Што з любові — святоўнае ў першую
святасць,—
Незваротнае — вежы з зялёнай вясны!

*

Ростані раніца. Вечар стагоддзя.
Дзесяць вякоў з нелюбові ў любоў.
Зерне радзімак на твары надзеі.
Плачка-трывога смяецца дзяўчынкай,—
Двое (за рукі!) з адзіным жыццём!

*

Дай Бог Дунаю — міру! Случы — вёснаў.
Сем Вечнасцей — любові ў новы век.
Ад верша ў верш, *мой дарагі чытача,*—
*Акраец музы (з чэрствае скарынкі!)* —
*Святла адболены, мазольны груз!*

*

Дабрадзейная сталасць. Маўклівасці веча.
Ад случанскае долі — ні кроку назад!
Мама кожны мой верш перачытвае плачам,—
Беларусіца-доля славянскія сцежкі
Праз каханне слязой абыйшла!

*

Малюнкі словам. Скаромнасць славы.
Духоўнай ежай карміся, Верш!
Ноч адбудуе масты праз Вёсны.
Жыццём Натхненне — да мазалінак! —
Да азарэння — дзён маладосць!

# СЛУЧАНСКАЯ «ПЕСНЯ ПЕСНЯЎ»

I пакуль прахалода дзень поіць і ценяцца
цені — кахаю!

*

Віно з яблыкаў спасавых той — хто ад Бога.

*

Не ўграшыце зрок пацешыць —
ля ложа случанкі.

*

Вочы любага — голуб у высіні Случы малочнай.

*

Найхацелага голас — ад ліры,
з дзікучых лілеяў.

*

Найцялеснага волас — ад ворана ў чэрні.

*

Не ўзбудзіце случанкі, пакуль яна неба
не вып'е дыханнем.

*

Мае тысяча сонцаў — Любові і дзве —
яе стражам.

*

Рэўнасць — лютасці стрэлы, што
ў вогненным чадзе.

*

Багацействы Зямлі — для любоўства:
жабрацтвы.

*

З вінаграднай лазы і каліны — страсць Неба.

*

Промняў яснай зары і сцягоў пераможных —
вышынней каханне.

*

Мае рукі над перснем любоўца —
з анёлавых крылаў.

*

Маё сэрца на сэрцы любоўца —
пячатка з шыпшыны.

*

Мужней смерці ваярскай —
світанне з любоўцам.

*

Не патопяць Любові —
паводкі Палесся, не згасяць агненнасць.

*

І пакуль прахалода дзень поіць
і ценяцца цені — кахаю!

## БЕЛАРУСКІ ПАЭТЫЧНЫ ТЭАТР

*Напісаць сатырычную камедыю-маналогі мяне натхніла само жыццё. Здарылася гэта нечакана і лірычна-бунтоўна... Пасля адной з творчых сустрэч у самым цэнтры стольнага Менска — на бібліятэчным калідоры мой позірк апякла «спісаная» новая беларуская літаратура (лістапад 1991 г.) Над «бракованым» кніжным стосам пунсавеў выдадзены яшчэ пры Сталіне «Піянер-герой Паўлік Марозаў». Паэтычны тэкст ахмельвала «спаражнёная макулатура». Кіраваў жа вялікай культурнай установай — былы «службіст»...*

*А я ж перад гэтай літаратурнай аказіяй так светла і ўзнёсла спавядала пра Максіма Багдановіч і Уладзіміра Караткевіча! Каму? І навошта? — пыталіся ў мяне як паэта Мікалай Гогаль і Кандрат Крапіва... Каб віноўнікі маральнай апляувухі шчодрыліся на сваіх пасадах і сёння? Сучынскія і Дурначы, Баранчыкавы і Шпількіны, Верабейкіны і Цуркіны, Дохвінавы і Дзяледзькіны — жывыя прататыпы маіх сатырычных «случарын» Жартуйцеся, калі ласка!*

# ПРАКУРОР І КАЗІНО

*Сатырычная камедыя-маналогі ў адной дзеі і ў сямі саркастычных карцінах*

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Лысы Юзік з казіно, — ён жа асуджаны дырэктар раскрадзенага банка, спадар Сучынскі;

Лысы Медзя з казіно, — ён жа асуджаны рэвізор спаленага харчовага склада, спадар Дурнач;

Лысы Грэва, — ён жа асуджаны рэжысёр раздрэсіраванага цырка, спадар Верабейкін;

Лысы Клёрчык з казіно, — ён жа асуджаны ветэрынар «мёртвага конезавода», спадар Дохвінаў;

Лысы Смоўжык з казіно, — ён жа асуджаны інспектар крымінальнага вышуку, спадар Баранчыкаў;

Хітры Борсік з казіно, — ён жа асуджаны рэктар Інстытута Жабалогіі, спадар Цуркін;

Пракурор Стагоддзя

Суддзя-Кампазітар

Вясёлы танцавальны Дуэт «Доля-Долечка»

Народны жартаўнік Несцерка

Голас Уладара Сусвету

Уступ і эпілог аўтара

# Дзея першая і апошняя

Мінск часоў касмічнай перабудовы. Сталічны тэатр адстаўных авантурыстаў — на духоўным рамонце. Яго функцыі падмяняе гарадское казіно, пад назвай «Палітычныя жабы». Яно спешна адчынена на Сем Вечароў Вясёлай Таемнасці. Сярод наведвальнікаў — шасцёра лысых разбэшчаных палітычных сяміжонцаў. Кожны з іх трымае ў руках па асінаваму кію, што куплены за вялікія ліпавыя грошы. Побач з грахоўнікамі ляжаць, туга набітыя сухой чорнай смалой, більярдныя шары. Зялёнае сукно смехатворных гульбішчаў густа пасыпана эканамічным дустам. Над дзвярыма Стагоддзя электроннае табло ярка высвечвае імёны-карыкатуры: Лысы Юзік з казіно, Лысы Медзя з казіно, Лысы Грэва з казіно, Лысы Клёрчык з казіно, Лысы Смоўжык з казіно, Хітры Борсік з казіно, якія з саркастычнай іроніяй агучвае Пракурор Стагоддзя... Тэатральнай зале жартоўна падміргвае Суддзя-Кампазітар. Вясёлы танцавальны Дуэт «Доля-Долечка» дэманструе гледачам і судзейству касцюмы, пашытыя ў вясёлкавых колерах. Перад вачыма Праўдзівай Памяці ярка палаюць Сем царкоўных свечак і праз кожную камедыйную карціну залаціцца абраз Уладара Сусвету...

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Першы Вечар Вясёлай Таемнасці. Гарадское казіно, пад назвай «Палітычныя жабы», рашуча наведвае Пракурор Стагоддзя, каб вынесці канчатковы прыгавор шасці сяміжонцам-лысачам. Ён ветліва кланяецца шаноўнай публіцы і гасцям паэтычнага спектакля. Блакітная мантыя і бліскучы жэзл у правай руцэ Пракурора Стагоддзя робяць яго выгляд строгім і загадкавым. Сярод прыцемненай залы стаяць два судовыя сталы з чорнага мармуру і ярка палае Першая царкоўная свечка. Перад вачыма Праўдзівай Памяці за ўсіх зямных недаверцаў шчыра моляцца Суддзя-Кампазітар і вясёлы танцавальны Дуэт «Доля-Долечка». За сцэнічным падстоллем не знаходзіць сабе месца і нервова падрыгвае Лысы Юзік з казіно. Цень першага грэшніка-сяміжонца лісліва ахоўвае, успацелы чорным потам і пакуль што не заўважны судзейству і гледачам, Лысы Медзя з казіно...

# УСТУП

Аўтар-паэт абвяшчае пачатак лірычнай камедыі:

Сядай бліжэй, Сучаснік, да Стагоддзя!
Камедыя лірычная не ў модзе...

Але аспрэчваць час — купляць не рэчы.
Грахоў да перахочу — чалавечых.

Смяяцца з іх, мой дружа, далікатнасць
Жывой Душы патрэбная і вартасць...

Як Лысы Юзік з казіно «юзічыў»,
Мяняў па сем разоў свой твар-абліччы,

Сем раз жаніўся ў «путчы маладыя»,
(Палітыцы — усе хлопцы ж халастыя!)

Камедыя з'іроньвае й пра тое,
Як грэшны Медзя сватаўся ў святое.

Вучыўся грамаце ў зладзейскім класе,
Духоўнасцю й радзімай свінапасіў...

Як Грэва абхітрыў цыганскі табар,
За жонак сем меў «камароўскі хабар».

Распродажам займаўся маладосці,
Па сем разоў выблытваўся з чагосьці...

Герой наступны, з імем брудным: Клёрчык —
Любошчаў пералазіў сад-гародчык.

Па сем разоў быў венчаны з турысткай,
(Найспрытны, з казіно, авантурыст ён!)

Які герой чарговы? Лысы Смоўжык:
Маной перакрыжыў свой лёс, разбожыў.

Маўчанне з вуснаў выкраў і дыханне,
Па сем разоў заблытваўся ў каханнях...

Геройчык найапошні: хітры Борсік —
Прыстойнасці расхмельваў солад-морсік,

Да Бога і Царквы дастаў рукамі.
Ён самы брыдкі. (Гэта — паміж намі.)

Хто сёмы? Строгі Пракурор Стагоддзя,
Прысуднік чалавечага выроддзя.

Святло ад зораў ён адклікаў з Неба,
Каб здраднікі раскайваліся нема,

Дачыста ўсе вар'яты-сяміжонцы...
Камедыя — сем тайнаў у скарбонцы!

Пра сем вячэр і казіно адное,
Пра грэшнае і самае святое,

Пра выкуп-перакуп Падзей, Былога,
Пра Смешнае й Вясёлае раз многа...

Хай Полькай Жарт уславіць Кампазітар,
Яго Дуэт — з вясёлых гукаў-літар.

Сядай бліжэй, Сучаснік, да Стагоддзя!
Пра Бога, забывацца грэшным — годзе!

Суддзя-Кампазітар вітае Пракурора Стагоддзя *музычным паклонам:*

*Вечар першы. Юзік грэшны,*
*Пракурор і казіно.*

*Суд найпершы. Смех пацешны.*
*Жарты, хмельцеся віном.*

Вінавата, з перакошаным тварам, апраўдвае грэшную прысутнасць на судзе ўсіх шасцярых сяміжонцаў Лысы Юзік з казіно. З-пад чорнага мармуровага падстолля яму падсуфлёрвае Лысы Медзя з казіно. Ён вужам маскіруецца ў ценях Вечара і пакуль што не заўважны для судзейства і гледачоў. *Галасы спалоханых лысачоў пісклявым і да Ікоты шапялявыя:*

*Мы лысыя ўсе да шасцёра (шасцёра...)*
*За здраду такое нам гора (нам гора...)*

*Былі з валасамі мы ўчора (мы ўчора...)*
*Як з казкамі бабка Фядора (Фядора...)*

*А сёння за ноч аблысеЛі (злысеЛі...)*
*Як боб хто на цемях пасеяў (пасеяў...)*

*Згнявілі святога Майсея (Майсея...)*
*Сем справілі кожны вяселляў (вяселляў...)*

*Мы лысыя ўсе сяміжонцы (сяміжонцы...)*
*Купалі ілбы ў самагонцы (самагонцы...)*

*Мы лысага Веку — нядольцы (нядольцы...)*
*Грахоўных падзей абаронцы (абаронцы...)*

*Паводзінаў брыдкіх двурушша (двурушша...)*
*Засудзіць шэсць душанек-душаў (шэсць душаў...)*

*Зжывёліць шэсць целаў да тушаў (да тушаў...)*
*Галовы злысовіць — лысушша (лысушша...)*

*Хлусілі і кралі мы ўчора (мы ўчора...)*
*За здраду такое нам гора (нам: гора...)*

*Мы лысыя ўсе да шасцёра (шасцёра...)*
*Вушам — сорам з гэткага хора! (нам —*
*сорам!)*

Строгі голас Пракурора Стагоддзя перапыняе нервовае кудахтанне лысачоў абуральнымі *словамі судовай Праўды:*

Бачыш, бач, чарцёвы чэрці,
Шэсць патэльняў на агні.

Веку — трох паўнюткіх чвэрцяў,
Соль жыцця — на далані,

А яны сабе танцуюць,
Тупака ўпрысяд даюць.

Як жаробчыкі гарцуюць.
Наліваюць грэх — і п'юць...

Не адводзяць воч ад кіяў.
З месца грэшным не сысці?!

Лысачы, вы хто такія,
Да адзінага шасці?

Сем раз хто грашыць знядоліў,
Пыл дарог смалой чарніць,

Лысачы, вас хто прыволіў
Да турмы Душы дажыць?

Страшна ў сёмавых сянёчках?
Граблі рук і ног — не луг?

Пры шасці, з асін, кіёчках —
Лысачоў злыселы круг.

Разамкне яго хай Божа.
(Ён суддзёю — для Людзей!)

Лысачы, лысець нягожа
Ад мілосці: кожны дзень.

Валасіны вашы жонкі
Выскублі з галоў шасці...

Лоб, ці белыя галёнкі?
Вось што з сёмавых гасцін!

Адстагоджвае Стагоддзе...
З грэшных — грэшная Зямля.

Лысачы, страшыць нас — годзе!
Праўда, Весялосць — твая!

Вясёлы танцавальны Дуэт «Доля-Долечка» выконвае *Першую судовую Польку:*

*Разыдзіся, Суд ідзе.*
*Вечар Першы ў казіно.*

*Грэх расце не наградзе.*
*Горка-скіслым ён віном.*

*Асцярожна! Суд ідзе.*
*Судзяць лысых лысакоў.*

*Зман хлусліваcць не ўкрадзе,*
*А расплодзіць хлусакоў.*

*Расступіся, Суд ідзе.*
*Судзяць лысых лысавяк.*

*Не схавацца ім нідзе.*
*Ні за грошы й ні за «так»...*

Пракурор Стагоддзя брыдліва здымае з Лысага Юзіка з казіно новы сінтэтычны парык, які бессаромнік толькі ўчора ўкраў у лялечным тэатры, і гнеўна абвінавачвае *першага грэшніка-сяміжонца:*

Гэй, з канопляў лысасей,
Тваe выбрыкі ці ўсе?

Свет дурнее з галавы.
Валасіны ж — не з травы.

Корань лысасці скарнеў.
Юзік, ты чаго здурнеў?

Шлюбаў сем за год адмеў,
Летам кланяўся зіме,

На агонь ільдом ступаў,
Ранамі касу кляпаў?

Што: з кахання лапці сплёў?
Тумановых мазалёў —

Зарабіў за «проста так»,
Небарака з небарак?

Жонкі плачуць плачма ўроў
На святы дзянёк Пакроў.

Іх сямёра. Ты — адзін.
Лысы, лесам не хадзі.

Не наведвай казіно,
Там ёсць чортава акно.

Брудны, чорны ты — наскрозь.
Суд не выйдзе не «авось».

Калі грэшнік грэх займеў —
То ў духоўнай век турме.

Жалю воўчае пітво,
Юзік, з лысай галавой,

Перапіць табе да слёз,
Безвалосых — горкі лёс.

Коўзка нават і шыпам.
Ну, знаёмства — досыць нам!

Перад мінскімі Людзьмі
З самых грэшных першы — ты!

Суддзя-Кампазітар і вясёлы танцавальны Дуэт «Доля-Долечка» Полькай вітаюць першую судовую рашучасць Пракурора Стагоддзя і сваёй гарэзнасцю яшчэ раз перапалохваюць лысача-сяміжонца Юзіка:

*Полька — танец: міражы.*
*Для сваіх і для чужых.*

*Над падлогай столь дрыжыць.*
*Му-зы-ка, да-па-ма-жы!*

*Полька — танец маладых —*
*Не ўсе звонкія лады.*

*Падлівай да ног вады —*
*Перакіпваюць гады!*

*Полька: танец малайчын,*
*З маладосцю на плячы.*

*Смех вясёлых не ўрачы.*
*Польцы светла і ўначы!*

*Полька — танец: весялосць.*
*Знай, каханне — рэдкі госць.*

*Абышла любосць кагосць!*
*Растапчы, таемнасць, злосць.*

*Польцы ў танцах доўга жыць —*
*Для сваіх і для чужых...*

*Над падлогай столь дрыжыць.*
*Му-зы-ка, да-па-ма-жы!*

На сцэну Вечара выпаўзае з-пад чорнага мармуровага падстолля Лысы Юзік з казіно. Са згорбленым целам і з распацелым да агіднасці тварам ён паўстае перад гледачамі і Пракурорам Стагоддзя. Голас яго нагадвае *кваканне балотных жабаў-рапухаў:*

Спадар Пракурор! Я — віновен.
Грахоў маіх прыпяцкі човен

Плыве ў пекла з чорнай смалою,
Я з лысай цяпер — галавою.

Прыклей хоць адну валасіну —
На споведзь, на свечак часіну.

Галяк, а не скура на цемі.
Любошчамі змоўжана цела.

Вяроўкамі — нервы з дыхання.
Наеўся да енку кахання,

Напоены клятвамі з вуснаў,
Пачуццям і млосна, і пуста,

А хлопчыкам рос не такенькім:
Саромным, касцямі — худзенькі,

Каб п'яных дзе бачыў ці лысых —
Згубіў чалавечыя рысы б.

Адмовіўся б твару людскога —
Я ж з роду, павер, гарадскога,

Дзіця ад натоўпу і крамаў.
Душой хаджу крыва, не прама.

Сваёй маладосці падножкі —
З'іржавіў цвікамі ад дошкі.

За год аблысеў я з-за дзевак,
А маю ўсяго ж дваццаць дзевяць.

Бягу ў казіно я ад цешчаў.
Іх: сем. Я: адзін, клешч ля клешчаў.

Спадар Пракурор! Баламутам
Я стаў: з палітычным хамутам,

Як з мітынга кожнага ў сваты
Бег бегма ў жаночыя хаты.

Каля гастранома ў сталіцы —
Без харчу сумуюць паліцы,

А тут — склад вачмі адчыняеш.
Спадар Пракурор, ты ўсё знаеш!

Напіўся. Наеўся. І ў дамкі!
Каля светлавокай Святланкі.

Праз месяц мядовы — на сходку
Я сумнаю крочыў паходкай.

Палітыкі сытыя рэчы
Галодны не ўскіне на плечы.

Пракорму шукаў я на плошчы —
Прачнуўся ж з Наталляю ўночы.

Яна мне — нявеста другая.
Дарога праз шлюб — не даўгая...

Скароціць экватар, як трэба.
Вясельнага згосціў я хлеба:

Раз трэці, як мітынгі спелі
Жытамі. А Душы — мялелі,

Сухотамі лета канала.
Прычыны тае ж хіба мала?

Чацвёрты раз кланяўся шлюбу.
Да слёз называў Любу: любай.

Праз месяц на мітынг, на новы!
Палітыкі ўспенены ж бровы...

Па пятаму разу вянчаўся,
Калі «так!» і «не!» накрычаўся.

Дні: помнікі рушылі з месцаў.
Палітыкі ж хворае сэрца.

Ледзь што — і ўцякае ў каханне.
Быў шостым я мужам для Тані.

Яна — рэвізорам на складзе,
Працуе... (з сабой не ў разладзе!)

Сябруе са Славамі славы.
Засватаў мільёны я ў Клавы,

Дарма, што кульгава і сіва —
*(Ёсць долар й жывецца шчаслівa!)*

Але палысеў ад жаніцьбаў.
Мо прашчур быў генамі з «віцьбаў» —

Асуджаных, перапалонных?!
Хто лысы — да смерці, як сонны.

Судзі, Пракурор! Пакаяння —
Не ведаюць звеку лысяне.

Душой насвінячыў да схочу.
Грахоўныя грэшнікаў вочы.

Судзі, Пракурор. Лысы Юзік —
Стагоддзя з'іржаўлены гузік.

Судзі, Пракурор! Я гатовы.
Палітыкі — лысыя ж бровы

Мяне напалохалі «ўдрожкі».
Праз сорам хадзіць мне дарожкі,

Мець лысіну — пнём ад асіны...
Вярні мне мае валасіны!

Спадар Пракурор! Разжанюся.
Да людскага — сэрцам вярнуся.

Сямейнага Шчасця Світанак —
З адной, не з сямі: шлюбных чарак!

Заўважае, як п'яны Грэва выпаўзае з-пад падстолля і чокаецца з чортам-ценем:

Глядзі, з чортам п'е лысы Медзя?!
Стагоддзю — духоўнай ён меддзю.

На лысіне — вугаль грашынаў.
Няўжо гэткі лысы — з мужчынаў?

(Разгрэшнік, навостраны ножык,
Злыселы ў вугольнічак вожык.

Растлум яго звёў да зладзейства.)
Што можа сягоння Судзейства?

Разлысіны — Злева і Справа.
Стагоддзе — судоваю Стравай:

Да смаку яе наспытаўся,
Таму й з Пракурорам спаткаўся?!

Гэй, Медзя! Ахвярнік ахвяраў,
Другі — ты, з шасцёркі пачвараў...

Падае ў непрытомнасць судовага Вечара. Першая дагарэлая свечка Праўдзівай Памяці чорным цыркулем кружыць над расплямленай лысінай грэшніка-сяміжонца Юзіка. Адратоўваць лысача падхалімна выбегла чарадзіна лысабокіх чарцей-ценяў. Электроннае табло над Дзвярыма Стагоддзя чорнай крэйдай закрэслівае Першае імя — карыкатуру: Лысы Юзік з казіно... Вясёлая музычная паўза змяняецца на строгі абраз Уладара Сусвету, што ад падлогі да столі грозна засланяе сабой камедыйную сцэну.

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Другі Вечар Вясёлай Таемнасці. Гарадское казіно, пад назвай «Палітычныя жабы», шчыльна зачынена на лазерныя замкі. Перад прысутнымі ярка палае Другая царкоўная свечка Праўдзівай Памяці. Бязмоўнага Лысага Медзю з казіно дапытліва разглядвае Пракурор Стагоддзя. Другі па ліку грэшнік-сяміжонец чакае свайго абвінавачвання. За шырокім більярдным сталом саромна прытойваецца Лысы Грэва з казіно, каб падцікоўваць за аднагрэшнікам. Суддзя-Кампазітар *музычным паклонам вітаецца* з Пракурорам Стагоддзя:

*Другі Вечар. Хваткі Медзя.*
*Пракурор і казіно.*

*Суд — друrенькі. Грэшнасць — меддзю...*
*Залатовак не відно!..*

Вясёлы танцавальны Дуэт «Доля-Долечка» новай *судовай Полькай* высмейваюць падсудных лысачоў-сяміжонцаў:

*Лысы Медзя, Лысы Юзік,*
*Век разломаны на гузік.*

*Не падняць грахоўны грузік.*
*Карапуз — не карапузік.*

*Лысы Медзя, Лысы Юзік,*
*Валасоў злыселых грудзік.*

*Казіно: тузам — не тузік.*
*Хто грашыў — грахоўны дзюдзік.*

*Лысы Медзя, Лысы Юзік,*
*Сяміжонства — з грэшных музык.*

*Суд Стагоддзя — не як «мюзікл».*
*Весялосці смелай — грудзік.*

*Лысы Медзя, Лысы Юзік,*
*Грэх падманства ваш — не гузік.*

*Лысых голаў — як гарбузік.*
*Хто грашыў — духоўны «дзюдзік».*

Пракурор Стагоддзя халодным бліскучым жэзлам дакранаецца да згорбленых плячэй Лысага Медзі з казіно:

Прызнайся, лысач лысавейшы,
На месцы другім ты з лысейшых?

Грэх — чортам з балота танцуе.
Прызнанне й каменьчык зглянцуе.

Грахоўнасці — з чорных пажараў —
Даволі «іржавых металаў»,

Яны расплаўляюць і Душы.
На лысых галовах — ігрушы

Не спеюць. І жолуд не плодзіць.
Нягоднік, хто сэрцам нягодніць.

Хто грэхам забруджвае й сцены —
Вачыма да смецця пусцезны.

З мядзяных ён медненькі грошык.
Ад лысай галованькі вошык

Паўзе праз Стагоддзе падлюжна.
Што подлае — воўча й гадзюшна,

З клыкамі дзіка маладога.
Грызне — і ўзамен анічога.

Скажы, Медзя, Веку і Людзям,
Што з лысай палітыкі будзе?

З яе што ўрасце на галовы?
Падзей наламаныя ж дровы —

То злева, то справа, то ў цэнтры...
Радзімы ж — высокія цэны!

Прызнайся, злысованы Медзя:
Сібірскіх хто корміць мядзведзяў?

«Парыж дыпламаціць» хто сёння?
Ля Афрыкі грэецца скроняў?

Ты офіс украў у Анфісы?!
Крэдыты выпрошваем лісам?!

Прапоўз праз Святое гадзюкай,
Ты, Медзя, злысеў без прынукаў?!

Ці кошт-перакошт цябе змусіў?
Ці ласкай прылашчыў Марусяў?

«Цурмуры», скажы, хто такія,
З більярдавым шарам і з кіем?

З'ядуць да апошняе крошкі
І лысага й чортавы рожкі,

І пекла, і рай адмахлююць,
Згандлююць сабой, адчарнуюць?

Жыццё, што зязюляй кукуе,
Зладзействам ўгалод адсмакуе?

Накорміць (да лысага з лысых!)
Крывёй чорнай з чорнае місы?

Табе ж пакаранне за тое,
Што згрэшваў нахабна Святое,

Што золата ў медзь пераплавіў,
Палітыку хворую ўславіў,

Прыняў казіно, як падачку.
І поўзаеш лысым сабачкам.

Ману выгароджваць навошта?
Адплочвай Стагоддзю звышкоштам,

Звышмерай, звышлысінай лысай!
Ты офіс украў у Анфісы?

Яна на цябе ў Суд заяву
Прынесла па гордаму праву.

Пакайся, злысованы Медзя,
Суд тайнае з тайных разгледзеў.

Чаму ты махлярыў сам-насам,
Духоўным служыў свінапасам?

Згандлёўваў Радзімаю часта,
Ці Доля твая — з яду чашы?

Чаму ўвосень сем раз жаніўся?
І ў лысіне Веку ўтапіўся?

На дне жывеш здоленай Долі.
Даволі, грахоўнік, даволі!

Прымай Пакаранне, лысача!
Грэх — візгам падзеяў свінячых...

Відаць, чысціня — не для лысых.
Грашыць — не расціць кіпарысы

Ля Чорнага мора на пляжы...
Духоўнасць не выцерпіць кражы!

Грэшны Медзя з казіно пасля абвінаваўчых слоў Пракурора Стагоддзя пакрываецца шэрым потам і спрабуе схавацца за вясёлы танцавальны Дуэт «Доля-долечка», але слізгаецца аб гладкі паркет падлогі і правальваецца ў суфлёрскую яму. Наўздагон за ім чуваць *Другая судовая Полька:*

*Пракурорскі грозны жарт*
*Медзю Лысаму — да пят.*

*Хто танцуе — менш бядуе.*
*Казіно — адказінуе!*

*Пракурорскай полькі хват*
*Медзю Лысаму ў разлад...*

*Хто танцуе — маладуе.*
*Казіно — адказінуе.*

*Пракурорскай ласкі гнеў,*
*Медзя Лысы, чуй і ў сне.*

*Хто танцуе — смех частуе.*
*Казіно — адказінуе!*

*Пракурорскі прыгавор —*
*Не цукеркі, з чорта — здор!*

*Хто танцуе — смех частуе.*
*Казіно — адказінуе!*

Лысы Медзя з казіно ажно з сёмага падскоку «вызваляе» ад, няўклюднага, сябе суфлёрскую. Яму дапамагаюць вылузацца да святла і чарнабокія цені. Лысы Юзік, які ачнуўся ад судовай непрытомнасці, штурхае сяміжонца — грэшнага пабрацiма, на сярэдзіну сцэны. Заікастыя словы другога лысача выклікаюць смешнае спачуванне ў Пракурора Стагоддзя, які вымушаны выслухаць маральнага нягодніка.:

Спадар Пракурор! Медзі кола —
Зялёна. Пад мэблю — час: колер.

Сталічныя «банкі ў абанках»,
Расслізганы грошы на санках —

Палітыкі, лысай і голай.
(Такой і мая сёння галаў.)

Ніводнай жывой валасіны.
Няшчасныя з лысых, мужчыны,

Хто жэніцца сем раз увосень,
Вянчаецца пяць раз па восем.

Адзін раз багі ж дазваляюць!
Хто ў лысых — звярына кахаюць,

Нялюдска, канюшна і брыдка.
Стагоддзе — кульгавай кабылкай

Да лысых жаробчыкаў пнецца,
Змякінела ў лысенькіх сэрца...

Спадар Пракурор. Я — нягоднік.
Сямі чужых жонак — разводнік.

Адкраў іх за долар замежны.
(З табой ад яго мы залежны!)

Я суд падкупіў для разводаў.
(Для лысых — даволі выгодаў.)

Дзень плача рублём. Чорт смяецца.
А ў ноч з лысакамі нап'ецца.

Раскрадваюць хмелем Стагоддзе.
Хто з лысых — махлюе па модзе.

Палітыка — голая ў лазню.
Хто лысы — лысовішчаў вязень.

Спадар Пракурор, перапомні,
Што й сонца раскрадзены промні.

Глядзі, казіно ў ладкі плешча.
(Зяцьмі пераеліся й цешчы?!)

Іх сем у мяне «пракуроршаў».
Палітыкі нораў пагоршаў.

Няма валасоў... Голь патыліц.
Жульма казіно грошы жыліць.

Прайграў я ў грахах Мінск, Стагоддзе.
Злысеў. Розум мой пры няўродзе.

Жывое ледзь цемечка, ледзьве.
Што хочаце, Людзечкі, з Медзі?

Ён лысы — Душою і Лёсам.
Злыселі й Стагоддзя калёсы?!

Не коцяцца ўперад. Стоп-стопам!
Няўжо й аблысела Еўропа?

Чубы і прысочкі забылі?
Да нітачкі голай згалілі,

Раскралі Прыроданьку ў Людзях?
Хто ж злодзеяў Веку засудзіць?

Дзівак, Пракурор, ты, як дзеці.
Мільярд куды ж лысенькіх дзеці?

Турмой забароніш іх цемі?
(Палітыка — Дні у расценнях!)

Падманнага ў Свеце — да енку.
Заблытана рыбамі ў сетку

Раздольнае ў волю Стагоддзе.
Хто лысы — той родам з выроддзя:

Шаптала мне першая жонка,
Любоўю маёй пракажона.

Ты гнойны лішай, незагойны:
Чуў выкрык другое я сонны.

Ты твар ад вар'ята счарнелы:
Бяліў твар ад трэцяй крык смелы.

Струпень — ты, струпамі набіты:
Чацвёртай наеўся слоў сыта.

Ты — чорт, расчарнелы да гневу:
Выплаквала пятая небу.

Хто лысы, абходзь і здалеча:
Касціла мне шостая ў плечы.

А сёмая — варам лінула,
(Як зоркі за раз праглынула.)

Сабраліся ўміг жонкі разам.
(Жанчыны — такая ж зараза!)

Лупілі мяне ўсе, без сведак,
Здаровы цяпер я — на чвэртак.

Злысеў за суботу адную,—
Хто выцерпіць жытку такую?!

Судзі, Пракурор, мяне, братка.
На лысым — згарэлая шапка.

Прыняць згодзен кару за волас.
Стагоддзя — згалошаны голас.

Які прыгавор — такі й грэшнік.
Хто лысы — да смерці пацешнік.

Сяджу ў казіно — напаследак.
Гукай, Пракурор, новых сведак.

Вось трэці з лысовішча: Грэва.
Душа яго — высахлым дрэвам.

Нішто не адгоіць такога —
Забыўся чарнотнік пра Бога.

За мой яго грэх — багацейшы.
Паглянь, Пракурор, ён: лысейшы!

Лысы Медзя з казіно спрабуе выцягнуць з-пад більярднага стала аднагрэшніка Грэву, каб той паказаўся на камедыйныя вочы, але дарма: слізкі паркет робіць сваю справу — і абодва лысачы скочваюцца ў праход глядзельнай залы, пад ногі Другога судовага Вечара. Другая свечка Праўдзівай Памяці ярка развітваецца з воскам. Электроннае табло над Дзвярыма Стагоддзя чорнай крэйдай закрэслівае Другое імя-карыкатуру: Лысы Медзя з казіно... *Вясёлая музычная паўза* змяняецца на строгі абраз Уладара Сусвету. Маланкавы Гром грозна засланяе сабой камедыйную сцэну ад падлогі да столі.

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Трэці Вечар Вясёлай Таемнасці. Гарадское казіно, пад назвай «Палітычныя жабы», працуе пры шчыльна зачыненых дзвярах. На мармуровым стале ярка палае Трэцяя царкоўная свечка Праўдзівай Памяці. Пракурор Стагоддзя цярпліва чакае, пакуль сяміжонец Лысы Грэва з казіно паўстане перад Судом Чалавечай Справядлівасці. Пад більярдным сталом чуецца звонкі трэск: гэта толькі што падпоўз падрыхтавацца да пакаяння грэхаводнік Лысы Клёрчык з казіно. Ён пакуль што нікім не заўважаны. Кульгавыя Медзя і Грэва, пры сіняках, дапамагаюць адзін аднаму падняцца на сцэну. Суддзя-Кампазітар *вясёлым паклонам вітае ўсіх прысутных:*

*Трэці Вечар. Лысы Грэва.*
*Пракурор і казіно.*

*Грэшнік — справа. Грэшнік — злева.*
*Праўды — зчорненае дно...*

Вясёлы танцавальны Дуэт «Доля-Долечка» напамінае лысачам-сяміжонцам пра Суд і Пакаянне:

*З лысых, Юзік, Медзя, Грэва!*
*Правасуддзя час не дрэмле.*

*Бруд Душы ваш — напаказ,*
*Пракурор засудзіць вас.*

*З лысых, Юзік, Медзя, Грэва!*
*Валасінаў недагрэбак.*

*Святой Праўды — празапас!*
*Пракурор засудзіць вас.*

*З лысых, Юзік, Медзя, Грэва!*
*Злых вуголляў недагрэвак.*

*Холад жалю ў смех якраз.*
*Пракурор засудзіць вас.*

*З лысых, Юзік, Медзя й Грэва!*
*Сяміжонства ўсохла дрэва.*

*Грэшнік — чортаў свінапас.*
*Пракурор засудзіць вас.*

*З лысых, Юзік, Медзя й Грэва!*
*Грэх — направа, грэх — налева.*

*Сведак гурт — не для прыкрас.*
*Пракурор засудзіць вас.*

Пракурор Стагоддзя дачытвае Трэцюю судовую паперу і высмейвае вынішчальным позіркам прысутнасць Лысага Грэвы з казіно:

Так. Так. Лысачон лысачэйшы,
На грэх ты за Медзю старэйшы.

Грашней, чым нагрэшаны Грэва...
Ні справа такога, ні злева.

Што, Юзік — з'іржаўлены гузік?!
Ты, Грэва, з касцей воўчых грузік,

На пацеркі зоры нанізваў.
Чарцям чорным пяткі падлізваў.

Радзіму прадаў за капейку.
І выкраў цыганскую дзеўку,

Як табар — на сем распадаўся.
З цыганкамі смела кахаўся,

Барону ж пра грэх не прызнаўся,
І ў схованках ночы хаваўся —

І ўпаў у палітыкі яму?!
Сумлення у цябе — ані граму:

Сем раз шлюбаваўся на тыдзень.
Ты, Грэва, злюбошчаны злыдзень.

Злысеў да абсмаленых кураў,
Духоўны слюнявы акурак.

Сядзіш на судовым прысудку,
Дудзіш у свінячую дудку.

Ад сораму — лысы да гляку,
З якімі цяпер з небаракаў?

Ты, Грэва, як стэп палыновы.
Для лысага — лысыя й словы

Пра вернасць, сямейную святасць.
Грахоўных да грэху заклятасць.

Загрывак злыселы твой, Грэва.
Вясна ж не ўсіх каралевай

Бывае, а толькі для толькіх,
Хто Сэрца не пэцкае долькі

Ні ў бруд, ні ў размен пачуццёвы.
Ты, Грэва, Жыццём не свянцоны.

Цыганак злюбіў сем харошых?
Ты — Вечнасці ўкрадзены грошык!

Як толькі бароны сцярпелі?
Цябе не спушынілі ў пер'е?

Ты, Грэва, схуднелы, як шчэпка.
Душа твая — зглiненым злепкам.

Разлысенькі Грэва прыблуднік,
«Цурмураў» падманутых «цурнік»:

Скажы, хто яны — Пракурору?!
Хай Суд рассмяецца да змору.

Ты дзе тая дзеешся, Дзея?
Што Век у раздзетым адзенні

Стаіць перад цэрквамі гола,
На лысіне — з чортавым колам.

Вачмі казіно падпірае,
Сталіцы парык прымярае?

Няўжо і яна палысела,
Як задам на цвік востры села?

Павер Пракурору Стагоддзя —
Над Грэвам Праўдзівы Суд пройдзе!

Лысы Грэва з казіно пасля едкіх абвінавачванняў Пракурора Стагоддзя губляе ўсе свае зубы. Яго шапялявае апраўдванне вартае смешнага жалю і спачування гледачоў. Вясёлы танцавальны Дуэт «Доля-Долечка» яшчэ раз нагадвае

грэшніку-сяміжонцу, што Суд над ім — сапраўдны і па ўсіх мерках чалавечай Справядлівасці:

*Полька-полечка Стагоддзя,*
*Грэх на сметнік Веку пойдзе.*

*Сяміжонцы, вы куды*
*Ад любошчаў барады?*

*Полька-полечка Стагоддзя,*
*Лысых суд не ў агародзе,*

*А ў сталічным казіно.*
*Вечар — смехам, кулем-дном!*

*Полька-полечка Стагоддзя,*
*Што благое — знішчам пройдзе.*

*Ценьмі кінецца ў акно,*
*Зказінуе казіно!*

*Полька-полечка Стагоддзя,*
*Лысых хлусакоў нам — годзе!*

*За мілосці і грахі*
*Кожны з іх Душой — глухі.*

*Полька-полечка Стагоддзя,*
*Лысых Суд не ў агародзе,*

*А ў сталічным казіно.*
*Вечар — смехам, кулем-дном!*

Лысага Грэву з казіно падштурхоўвае бліжэй да Пракурора Стагоддзя чарадзіна чорных чарцей-ценяў і тут жа выскоквае праз акно Стагоддзя ў касмічную ноч. Бяззубы грэшнік-сяміжонец вымушаны раскайвацца перад Судом:

Палітыка стогне залевай,
Трывожнасць — і справа і злева.

Хрумсціць снег загадаў і ўрадаў.
Дзе ёсць казіно — Смерць для Праўдаў.

Сіротна Стагоддзю сягоння.
Дзе лысіны — прысак-жар скроням.

Галованькі й без валасінаў.
О, колькі такенькіх мужчынаў!?

Згубіў розум розуму корань,
Ссалонена ўсё ў перасолень,

Дрыжыць казіно ад разгулаў...
Грашовых збаяцца акулаў,

Спадар Пракурор, мне ўдалося!
На ліпах — злыселая восень.

Клён жоўты зжаўцеў да бурштыну.
І лысаму ў гэту часіну —

З прычоскай быць позна і рана.
Спадар Пракурор, я старанна

Расскайванні значу й на лобе.
Хто лысы — баліць і ў вантробе!

Спадар Пракурор, па парадку.
Пра кожную слухай цыганку:

Іх сем для вушэй адзванчэла,
Слязой малдаванскай з'ярчэла.

Да кожнай знайшоў падыходы.
(Любові ўсе роўны ж народы!)

Ніводзін не змог без кахання,
Мы ведаем гэта, лысяне:

Абы толькі добрая дзеўка,
(Ат, што там Вякоў перадзелка!)

Сам знаю, што грэхам награшан.
Сяміперажонствам нацешан.

Мо тхор маю гушкаў калыску?
Душу ён абгрыз да абгрызкаў.

Нашто ў сем любосцяў любіцца?
Нашто ў сем вяселляў жаніцца?

Пытала й цыганка Жакарта,
Як сем разварожвала картаў,

Падэшвай агонь частавала
І шоўкамі танец кранала.

З ёй грэшная лялечка Ляля,
З сястрою, цыганкаю Таяй,

І цёткай яшчэ маладою —
Цвялілі слязой залатою,

І срэбрам жывых завушніцаў,
З вачыма — ад чорных чарніцаў.

Пры іх дзве, з цыганак, суседкі.
Хто з табара — ласкай не гэткі!

Ат, што там краін перадзелка!
(Цыганкі — найлепшыя дзеўкі!)

Ні шлюбаў табе, ні кватэраў,
Зялёнае сонца шпалераў

Высока над травамі й лугам,
За кожным праменьчыкам-кругам.

Каханне з цыганкамі проста.
Сватоў аніякіх і тостаў...

Да сёмай я сам падбіраўся,
Як месяц без зорак застаўся:

Зана́ ад гітары ўсе струны
Раскідала ў ранак той юны.

(Ад шостай мяне перакрала.
Зладзеек такіх сёння мала!)

Вучыла распродваць Стагоддзе:
З нягодамі жыць пры выгодзе.

Хоць горшы, а быць сярод лепшых.
Хоць боязна, красці ў смялейшых.

Хоць чорт, а здавацца прыгожым.
Пры сціплых — нахабства грэх множыць.

Як з дробязяў — значнае скласці,
Купляць коней яркае масці.

Любіць — без любовейкі тое.
Шлях грэшніка не праз Святое.

Спадар Пракурор, я — гатовы...
Судзіце за хітрыя бровы.

І здраду Вясны перад Богам.
(Хто лысы — з нябогаў нябога.)

Падману жыцця пераеўся.
Век хворы да боляў збалеўся.

Я выкраў жаніцьбаў сакрэты,
Судзейству ўманецiў манеты.

Таму, знайце, лысага вочы
Чарней за цыганскія ночы,

Чым хабар хітрэй і падманней,
За жнівень з туманам — туманней.

Судзіце Судом перасудаў.
Я з лысых прыблудаў-разблудаў:

Свой Гонар, сумленне й Радзіму
Згубіў за сем грэшных гадзінаў.

Няма тых цыганак з Малдовы.
Меч Праўды прымаю суровы!

Спадар Пракурор! Прыгаворы
Стагоддзя заслоняць і зоры,

*Так,* з лысагаловых кароны
Здымаюць Суды, не бароны...

Заўважае схованага пад більярдным сталом і расчырванелага ў пунцовы мак Лысага Клёрчыка з казіно:

Вунь Клёрчык (па грэшнаму ліку!)
Да лысых шкрабецца бязліка.

Яго грэх за мой багацейшы,
Спадар Пракурор! Ён — лысейшы!

З гадзючынай плямай на цемі.
(Палітыка ж: дзеўкі ў зацennях)

Як Клёрчык набыў гастраномы —
Сямёра ўсе ведаюць Томы.

*Цяпер сямімуж ён разголляў.*
*Раздолена Клёрчыка Доля...*

Нервовымі рукамі пакутнік Грэва хавае ад людзей свой бяззубы рот і становіцца на калені перад казіно. Трэцяя дагарэлая свечка Праўдзівай памяці капае на яго лысіну гарачым воскам. Электроннае табло над Дзвярыма Стагоддзя чорнай крэйдай закрэслівае Трэцяе імя-карыкатуру: Лысы Грэва з Казіно. Вясёлая музычная паўза змяняецца на абраз Уладара Сусвету. Маланкавы Гром ад падлогі да столі грозна засланяе сабой камедыйную сцэну.

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Чацвёрты Вечар Вясёлай Таемнасці. Гарадское казіно, пад назвай «Палітычныя жабы», перавешвае шэрыя шторы на іржавыя металічныя сеткі. Перад грэшнікамі ярка палае Чацвёртая царкоўная свечка Праўдзівай Памяці. З-пад більярднага стала з асінавым кіем выбочваецца Лысы Клёрчык з казіно. Пад ногі яму шчаніцца, хітра схаваны ў мармуровым падстоллі Вечара і выпацканы ўвесь у сажу, грэхаводнік Смоўжык, але напалоханы яркасцю блакіта з пракурорскай мантыі маскіруецца ў ценях сцэны. Пракурора Стагоддзя *радасным паклонам вітае* Суддзя-Кампазітар:

*Вечар-чвэртачак і Клёрчык,*
*Пракурор і казіно,*

*Грэх стаптаў Вясны гародчык.*
*Сямiжонства йдзе на дно.*

Вясёлы танцавальны Дуэт «Доля-Долечка» выстройвае ў камічную шарэнгу чацвярых лысачоў:

*Юзік, Медзя, Грэва, Клёрчык,*
*Лысых — лысенькі загончык.*

*Валасоў праполка ўся.*
*Сем раз не жа-ні-це-ся!*

*Юзік, Медзя, Грэва, Клёрчык,*
*Лысы сам сабе — замоўшчык.*

*Лось не выхітрыць ласяы.*
*Сем раз не жа-ні-це-ся!*

*Юзік, Медзя, Грэва, Клёрчык,*
*Пракурор — не пракурорчык:*

*З'еў хто — знойдзе! парася.*
*Сем раз не жа-ні-це-ся!*

*Юзік, Медзя, Грэва, Клёрчык,*
*Лысы лысаму — адмоўшчык.*

*Карасёк — не карася.*
*Сем раз не жа-ні-це-ся!*

*Юзік, Медзя, Грэва, Клёрчык,*
*Лысых — грэшненькі паромчык.*

*Наша Полька-жарт уся.*
*Сем раз не жа-ні-це-ся!*

Пракурор Стагоддзя спыняе свой грозны позірк на Лысым Клёрчыку з казіно. Той не ведае куды кінуцца з перапалоху-спуду і дрыжачымі рукамі абхоплівае адразу ўсе тры лысіны: Юзіка, Медзі і Грэвы. Пры такой камічнай позе, з нервовых рухаў, ён і выслухоўвае судовае Абвінавачванне:

Суд, знай, Клёрчык — моцны арэшак,
Мяшчанства ён чорны застрэшак,

Грахам — адслужыў, адмазоліў,
Сем Доляў жаночых раздоліў,

Здыміў сем, з хлусні, цыгарэтаў.
Зламаў сем вясельных карэтаў.

За сорам і брыд пакаранне
Прымайце пакутна, лысяне.

Якое? З чаго? І на колькі?
Грэх зведае джала іголкі.

Яно з чорнай ніткі і з белай.
З лысейшых чацвёрты — злыселы,

Разлысы, (такіх свет не бачыў!)
Чаго ж ты сябе так з'іначыў?

Звалосіўся ў голь валасінаў?
Цяпер плач да слёз — галасінай.

О, лысенькі Клёрчык, разгорчык,
Накраў не адзін ты вагончык —

Салодкага мёду ад сотаў,
Разганьбіў святых сем суботаў.

Дзяржаўныя ўведаў сакрэты.
З банкірамі ладзіў банкеты.

З чарцямі куляўся за грошы...
Палітыка — звошана ў вошы?!

Стагоддзя адсвечаны зоркі?!
Сем лёсаў звязаў ты ў аборкі.

Карціны з майстэрняў выносіў?
Што, злодзей, (ёсць меты й на носе?!)

Разнюхваў, дзе тонка — і рвецца?
Судом, Клёрчык, грэх твой, ікнецца!

Радзіму разлаціў на латкі.
Ты, Клёрчык, да хваткага — хваткі.

З царквы Крыж на кроў раскрыжовіў?
Знажовіў сябе, разружовіў.

Малебен спраўляў па Стагоддзю?
Палітыкі зглыбіў разводдзе?

Вясновую квецень ля вішні
Спаліў. Стаў Духоўнасці лішнім?!

Жыццю ад цябе — толькі млосна...
Хто з лысых — злысованы слёзна.

З гасцініцы ўкраў як турчанку
Стагоддзя на слізенькім ганку?

За Месяц змяніў сем замежніц,
Турысцкіх маршрутаў залежніц?

Ты — Вечнасці пашпарт засмеціў!
Няўжо ў галаве лысых — вецер?

Такі галячок над вушамі!
Адпоўзаў ты, Клёрчык, вужамі.

Святое цябе: перабудзе.
Лысовішча лысых забудзе.

Знай, Памяць адгневіць благое.
Жыццё: з усяго ж дарагое,

Што ёсць на Зямлі і над ёю.
Сямёравай кляты кляцьбою,

Грахоўнейшы Клёрчык, змярцвееш,
Наўслед чамярыцы згарчэеш,

Пітва перап'еш чорны кубак,
Ты, Клёрчык, Стагоддзя разрубак.

Не знаць табе Светласці мукі.
Счарнелыя твар твой і рукі.

Ты з чорнае здрады сляпушчай.
Для радасці ты — не відушчы.

Прымай пакаранне за грэшнасць!
Для лысых — судамі лысейнасць.

З більярднага кія ты, Клёрчык,
Адмоўшчык любові, разгорчык.

З духоўнага склепу — шчанятка,
Дарослае ў лысасць лысятка.

Наведай музей валасінаў,
Партрэты там лысых: з асінаў

Дрыжаць перадрыгам дрыготаў
З дрыжачых нядзель да суботаў.

Іх крык да Людзей — безгалосы.
Ты, Клёрчык, за грэх — безвалосы!

Лысы Клёрчык з казіно пасля рэзкага абвінавачвання Пракурора Стагоддзя ўчэпваецца за сваю лысую галаву і — намацвае там «чортавыя рожкі». Вясёлы танцавальны Дуэт «Доля-Долечка» высмейвае карыкатурнае аблічча грэшніка-сяміжонца:

*Полька-полечка, сталіца!*
*Чужым грэхам не ўкарміцца.*

*Клёрчык братам стаў чарцям.*
*Не праўдзівы ані грам.*

*Полька-полечка, сталіца!*
*Грэшным — чорт з рагамі сніцца:*

*На патэльні грэх пячэ —*
*Смалой чорнаю з вачэй.*

*Полька-полечка, сталіца.*
*Клёрчык, перастань жаніцца!*

*Ты — адзін, а жонак — сем.*
*Гэта знаюць чэрці ўсе!*

*Полька-полечка, сталіца!*
*Як грахоўным адграшыцца?*

*Знае суд у казіно.*
*Яго — тайненькае дно.*

*Полька-полечка, сталіца!*
*Грэшнік — грэшніка баіцца.*

*«Рожкі чортавы» — імжаць,*
*Сяміжонцы ўдрыг дрыжаць..!*

Лысы Клёрчык з казіно накідвае на сябе іржавую металічную сетку і спрабуе заблытаць ёю на сваёй бліскучай лысіне "чортавыя рожкі", але дарма. Рагатым і з асіплым голасам, ён апраўдваецца перад Пракурорам Стагоддзя:

Я, Лысенькі Клёрчык, разгорчык,
Духоўнасці скорчаны корчык.

Растрэскана лысіна страхам,
Сяміперуалюбствам, без свахаў.

Сяміпераjонствам за месяц.
Хто з лысых — балотаў сем месіц.

Я, грэшны лысач з Лысачовак,
А быў з валасамі ж учора...

Калі б не турчанка-турыстка,
Пачуццяў зямных актывістка.

Мой позірк грудзьмі падпаліла,
Праз тыдзень мяне ўраз забыла,

Стамбул як вярнуўся да ночак
Яе змусульманеных вочак...

Праз вечар сірыйка ў ахапак
Маіх валасоў пышных статак

Праз фортку Стагоддзя кідала.
(Хіба сваіх косаў ёй мала?!)

Я, Клёрчык, быць лысым згадзіўся,
Як на негрыцянцы жаніўся!

Прыслужна на месяц калядны
Насіў фрак сямейства парадны.

Змяніў негрыцянку ж вясною —
Як хмельнаю ўпіўся вадою.

Хто лысыя — хлусяць мужчыны
Ад першага дня й да канчыны —

Якой не было б там каханцы!
Хто лысы, катам на прыманцы:

Смятанай як лысіна блісне —
Вусаты, пры лапах, павісне

На слізкай патэльні, з вушамі...
Набыўся я ўдосталь мужамі

І полькі, і немкі, і рускай.
Яшчэ не кахаў — беларускі!

Ніколі. А лысы ж і хворы.
Нервовыя тонуць не ў моры,

А ў штормах хвароб і падзеяў.
Адзін я цяпер. Без надзеяў.

Раскайванні... грэх перад грэхам.
Я, Клёрчык — скалоўся арэхам

На дробныя частачкі лёсу.
Душа, нібы склеп, безгалоса.

Жанчын столькіх ласкай здурманьваў.
Радзім столькіператуманьваў.

Так, грэх мяне злысіў грахоўны.
Разлысы я з лысай лысёўні.

Хаджу ў казіно, дзе ўсе з лысых.
Стагоддзейка ў лысых калысах

Гайдаецца ж не як арэлі.
Злаўжэлі, хто у грэшных, злыселі.

Заўважае, як з-пад мармуровага падстолля казіно выпаўзае, увесь у чорнай сажы, Лысы Смоўжык з казіно:.

Вунь Лысы выпоўзвае Смоўжык,
Змяснелай палітыкі ножык —

Наточвае. (Рэзаць што будзе?)
Хто лысы — ідзе праз разблуддзе.

Ён пяты з лысёўні лысовых.
(Лысоўныя ж — чорныя совы!)

Засовы ўзвядуць над замкамі.
За Смоўжыкам — кроў за нажамі,

Брыдоты піла і сякера,
І лысая ў голень галера...

Хай выйдзе — й Суду ўсё раскажа,
Чаму ўвесь запэцканы сажай,

Зачэрнены грэхам да бруду.
Скажы, Пракурор, гэта Люду,

Хай знаюць усе да аднога:
Смаўжы: найагідай — для Бога.

Пад смех публікі Лысы Смоўжык з казіно сцягвае з грэшніка Клёрчыка іржавую металічную сетку, каб самому прыкрыцца ад чорнай сажы, але абодва сяміжонцы заблытваюцца ў вечары. Чацвёртая дагарэлая свечка Праўдзівай Памяці нагадвае, што казіно на сёння зачыняецца. Электроннае табло над Дзвярыма Стагоддзя чорнай крэйдай закрэслівае Чацвёртае імя-карыкатуру: Лысы Клёрчык з казіно. Вясёлая музычная паўза змяняецца на абраз Уладара Сусвету. Маланкавы Гром грозна ад падлогі да столі засланяе сабой камедыйную сцэну.

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Пяты Вечар Вясёлай Таемнасці. Са столі гарадскога казіно, пад назвай «Палітычныя жабы», пачынае капаць чорны капеж. Перад більярдным сталом ярка палае Пятая царкоўная свечка Праўдзівай Памяці. З-за яе страхотліва выглядвае хітры Борсік з казіно. Яго адзенне саткана з шэрых павуцінаў ночы — і не заўважнае для прысутных. Пракурор Стагоддзя пяты раз уважліва перачытвае судовыя паперы на палітычных сяміжонцаў. Суддзя-Кампазітар *музычным паклонам вітае* Пяты Вечар Вясёлай Таемнасці:

*Пяты Вечар. Грэшны Смоўжык.*
*Пракурор і казіно.*

*Смеласць — звон і колкі ножык —*
*Пасля сну і перад сном.*

Вясёлы танцавальны Дуэт «Доля-Долечка» пацешваецца з таго, як не могуць выблытаць свае лысіны з іржавай металічнай сеткі грэхаводнікі Клёрчык і Смоўжык, і выконвае чарговую судовую Польку:

*Юзік, Медзя, Грэва й Клёрчык,*
*Братам грэшненькім вам — Смоўжык.*

*Лысы й хітры, й сяміжонны,*
*Пракажоны з пракажонных.*

*Юзік, Медзя, Грэва й Клёрчык,*
*Найспрытней за спрытных Смоўжык:*

*Выкраў сем Зямных Маўчанняў,*
*Выпіў сем Вясны Дыханняў.*

*Юзік, Медзя, Грэва й Клёрчык,*
*Найлысей за чорта — Смоўжык.*

*Пракурор яму раскажа,*
*Што такое з Сэрцаў кража.*

*Юзік, Медзя, Грэва й Клёрчык,*
*Награшыў да енку Смоўжык.*

*Пракурор, выцягвай лысых*
*З чорнай чортавай калысы!*

*Юзік, Медзя, Грэва й Клёрчык,*
*Да смаўжа падобен Смоўжык.*

*Пракурор, судзі лысят,*
*Яны — грэшныя да пят.*

Пракурор Стагоддзя паказвае Лысаму Смоўжыку з казіно на Пятую царкоўную свечку Праўдзівай Памяці і прыглушаным голасам выносіць яму смелае Абвінавачванне:

Знай, Смоўжык, ідзе Пакаранне!
Раскайвацца будуць лысяне.

Ці прыме царква дараванне
За ліпкае ў дзёгаць каханне?

Ты ж так наслядзіў і набрудзіў —
Стагоддзе й пасля не забудзе.

Як лысых на свеце не стане —
І камень цябе не ўспамяне...

Знай, Смоўжык, які ж ты дурненны.
З найлысых лысцоў — найлысенны.

Клапоцішся толькі — пра ежу,
І лоб твой, з разлысінаў-межаў.

Ад вуха, праз цемя, да вуха —
Пустых валасоў завіруха.

Палітыкі голенькі кораб!
За розум твой, Смоўжык, смех-горань.

Твар гідкі твой, кобры як вочы.
Зчарнелы ты днямі і ўночы.

Крычыш, пералысы, бязлікі,
Што кій у більярднай — вялікі.

З удараў шары — як квадраты.
Ты, Смоўжык, смаўжом вінаватым

Радзімы адрэзаў кавалак.
Стагоддзе — з памылак, з памарак?!

Склаў новую карту для зорак?
Ты, Смоўжык, сляпога паўторак.

Смяешся — як плачуць жывыя.
З магіламі ж жарты святыя!

Кранеш, што пад прахам — і ў пекла —
Да чорта, з усмешкаю пены,

Патрапіш замольваць смаўжова,
Што коўзка Душы і вужова.

Ты выкраў за Ноч сем Маўчанняў,
Звуголіў сем жаркіх Дыханняў?

Падглядваў, падвушваў, падсочваў,
З дарогі Духоўнае збочваў?!

Браў грошы, нахабнік, за тое,
Што самае ў сэрцах святое?!

...Адзін Чалавек перад Богам...
Не спаў. Плакаў горка і многа.

З ім Тайну разгадвала Вечнасць.
Ты ж нос свой прасунуў, авечак.

Што светла — смаўжам забаронай!
Ты, Смоўжык — Стагоддзя варона!

То там-технатам, то «тут-тутам...»
Лазняр — чалавечых пакутаў.

Згнявіў лысачоў сабой, Смоўжык,
Змяснелай духоўнасці ножык.

З Душою пусцезнай свінееш,
Лысееш, бруднееш, самееш.

Раскайся, рассмоўжаны Смоўжык.
Для лысых — з канопляў рагожы!

Як выкраў за Ноч сем Маўчанняў?
Як выпіў за Ноч сем Дыханняў?

Звянчаўся з падманам хітрушчым,
Сем зорак падглядамраструшчыў,

Тхарых сем злюбіў адным разам?
Ты чорная, Смоўжык, зараза!

Прызнайся Суду і лысоўцам
Праўдзівым, не «ўсмоўжаным слоўцам».

Глядзіць казіно табе — у зрэнкі,
Ты сам сабе, Смоўжык, у сведкі,

Смаўжыністы, тлусты, як сала.
Табе ўсяго людскага мала?

Што зыркаеш — Неба раскрасці?!
Смаўжыстаў смаўжовае шчасце —

Схавана за восем засоваў,
Ты, Смоўжык, з лысоўцаў — лысовы!

Пракурор Стагоддзя ставіць пячатку і свой подпіс на абвінаваўчым пратакольным лісце судовай паперы. Вясёлы танцавальны дуэт «Доля-Долечка» рашуча высмейвае пятага грэшніка *новай беларускайІлькай:*

*Полька Праўды найсамой:*
*Смех не вымерзне зімой,*

*Жарты жартамі кіпяць.*
*Танцаваць — не бедаваць.*

*Полька Праўды найсамой:*
*Смех — шнуровачкай прамой,*

*Жарты — кругам, лебядой.*
*Весялосці — поўны дом.*

*Полька Праўды найсамой:*
*Жарт — з табой, і жарт — са мной.*

*Смех — на дваццаць пяць ладоў.*
*Смех — з вясёлай барадой.*

*Поль Праўды найсамой:*
*Жарт не вымерзне зімой.*

*Вочы — кіпенем кіпяць.*
*Танцаваць — не гараваць!*

*Полька Праўды найсамой:*
*Смех — шнуровачкай прамой.*

*Весялосці — поўны дом.*
*Казіно, з грахоў — на злом!*

Лысы Смоўжык з казіно нарэшце выблытваецца з іржавай металічнай сеткі і спрабуе страхнуць з сябе густы слой сажы, але дарма: яна брыдка чарнее на даўгавязым і згрэшаным яго целе. Пракурор Стагоддзя не скрывае з'едлівай усмешкі з духоўнага трутня, калі пяты сяміжонец пачынае апраўдвацца перад Судом:

Спадар Пракурор! Пачакайце.
Віновен я, грэшан — прызнайце.

Судзіце па міласці Боскай,
Застраў у Душы грэх, як костка.

Я, лысы з крыві маладзёнай,
Праўдзівасць мая раскрадзёна:

На лапкі, на рыльцы, на пер'е.
Для лысых праз подласць знявер'е.

Аголены нервачкі ў лысых.
Жыццё іх з крысінае крысы —

Паўзе перапоўзам Стагоддзя.
Чарвяк я ў Вясны агародзе,

Зямля мне гнілая ўспадобу,
На радасць злыселаму лобу.

Не знаў чысціні я ніколі:
Я, Смоўжык, пры зволенай волі.

Да грэшных людзей выпаўзаю.
І чорта з лазы выразаю,

Гляджуся ў разлысыя твары.
(Стагоддзя змаўжоўлены мары!?)

Спадар Пракурор — як дазнанне —
Пра сем раскрадзёных Маўчанняў:

Што лысы я з першага дзёнца —
Самое упрыкмецiла й сонца.

На промнях жа з лысін — ніводнай.
Святло — чысцінёю дароднай.

Як моляцца перад багамі —
Не ведама намі, Смаўжамі...

Аднойчы, як снежань снег снежыў,
І Вечнасць ішла праз размежжа,

Я ўгледзеў Слязу залатую,
І ўкраўся ў хвілiначку тую.

Зняміла яе расцалоўваў,
Як сохла яна — выпільноўваў

Над свечкай, што воскам дрыжала,
Я Смоўжыка выпусціў джала.

Яна й ззалацела ў зняхочы.
Смаўжыныя высмаліць вочы б

За кражу дзявочых Дыханняў,
Звуголеных жаркіх Прызнанняў:

Іх роўна па сем. Божа мілы,
Смаўжам мала смоўжавай сілы?!

Навошта чытаў пісьмы Болю?
Саліўся Духоўнаю соллю.

Я, Смоўжык, здурнелы ў раздужань.
(Стагоддзе: расчужана ў чужань!)

Расклятьі я, Смоўжык, за брыдкасць.
Духоўная знікне хай гідкасць

Для Сённяга дня і для Ўчора.
Для Заўтрага, што не ў пячорах,

А побач з малітвай гарачай,
Я, Смоўжык, адмыюся Плачам!

Даруй, Пракурор! Лысы Смоўжык
Спіс новых грахоў не прадоўжыць.

Заўважае, як лоўка крадзецца да сцэны Хітры Борсік з казіно:

Але тут з Лысовенек — Борсік,
Ён мае крывавенькі носік;

Чапае таго, хто з адзіных —
Душою і тварам. З арліных

Вышыняў, з раскрыллем анёлаў.
На Борсіку — лысенькі голаў.

Паўзе — дзе ніхто не праходзіць.
Стагоддзя агонь ён халодзіць.

Сам з карліка, кнопкай-расточкам,
На лысіне — з гною прымочка.

З ім карліца, лысая з лысых,
Лісіцаю хвосціць за лісам.

Яна й казіно расчыняе,
Як з лысых хто ключ забывае.

Хутчэй, Пракурор, праўду ўгледжвай.
Духоўнасці груз пералежан...

Як Борсік хітрэй — анікога.
Сабою ўзлаваў ён і Бога.

Грахі яго ўсе — з адмысловых!
(Ён, Борсік, найхітры з лысовых.)

Спадар Пракурор! Пакарайце.
Ад Борсіка ўсіх нас пазбаўце!

**Бухае ў ногі Хітраму Босіку з казіно, але той сам урашчэнт палохаецца самапрызнанняў Лысага Смоўжыка перад Пракурорам Стагоддзя і са злосці дубасіць кулакамі па спіне няўклюдную крываногую карліцу, што не прамінула і на гэты раз прыкульгавіць у казіно «Палітычныя жабы», але паслізнулася — і ўпала ў чорную лужу, што ўтварылася ад дзіравай столі казіно.**
**Ля грэшнікаў-сяміжонцаў чыста і светла дагарае Пятая царкоўная свечка Праўдзівай Памяці. Электроннае табло над Дзвярыма Стагоддзя чорнай крэйдай закрэслівае Пятае імя-карыкатуру: Лысы Смоўжык з казіно. Вясёлая музычная паўза змяняецца на абраз Уладара Сусвету. Маланкавы Гром грозна ад падлогі да столі засланяе сабой камедыйную сцэну.**

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

Шосты Вечар Вясёлай Таемнасці. Гарадское казіно, пад назвай «Палітычныя жабы», пачынае смела разрушвацца. Знікла столь, самі сябе разбураюць цагляныя сцены. Перад расчыненай Вечнасцю ярка палае Шостая царкоўная свечка Праўдзівай Памяці. Пракурор Стагоддзя спрабуе мірна разняць, сашчэпленых у смешнай бойцы за свае грахі, хітрага Борсіка з казіно і яго няўклюдную карлічыху. У гэтым яму дапамагае судзейскі жэзл. Нарэшце духоўныя прайдзісветы падаюць адзін перад адным на свае чорныя і слізкія калені. Суддзя-Кампазітар *музычным паклонам вітае* Пракурора Стагоддзя:

*Шосты вечар. Хітры Борсік.*
*Пракурор і казіно.*

*Грэх — нацягнуты, як тросік.*
*Суд Апошні перад сном.*

*Вясёлы танцавальны Дуэт* «Доля-долечка» выклікае з-пад мармуровага падстолля ўсіх сяміжонцаў-грэшнікаў.

*Юзік, Медзя, Грэва, Клёрчык,*
*Хітры Борсік, Лысы Смоўжык,*

*Шэсць вас грэшных ліхадзеяў.*
*Пракурорскі гнеў — зладзеям!*

*Юзік, Медзя, Грэва, Клёрчык,*
*Хітры Борсік, Лысы Смоўжык,*

*Вас шасцёра баламутаў.*
*Пракурорскі гнеў — тут-тутам!*

*Юзік, Медзя, Грэва, Клёрчык,*
*Хітры Борсік, Лысы Смоўжык,*

*Лысых шэсць вас сяміжонцаў.*
*Суд вас высвеціць да донца!*

*Юзік, Медзя, Грэва, Клёрчык,*
*Хітры Борсік, Лысы Смоўжык,*

*Вас шасцёра прайдзісветаў —*
*Пакарае суд за гэта!*

*Юзік, Медзя, Грэва, Клёрчык,*
*Хітры Борсік, Лысы Смоўжык,*

*Шэсць грахоўнікаў вас грэшных,*
*Да агідлівасці ўсмешных!*

Пракурор Стагоддзя камічна абвінавачвае Хітрага Борсіка з казіно — і даказвае Суду яго палітычную віноўнасць:

Ты, Борсік — з барсучыных норак,
Лысеў за свой век разоў сорак?!

Стагоддзю падточваў карэнне?
Ці ж лысым прычоскі — збавеннем?

Грэх плодзіць прастору пустога,
Грэх — неба хавае ад Бога.

Лысееш — сцэнічна і лоўка?!
Сплятаецца з лысых — вяроўка,

Калі дзень разгрэшвае грэшнік?
Ты, Борсік, развырадак-смешнік.

І хітры, як камень пры камні,
Калі ноч падмігам — з вякамі.

Вясна веснавее ж пры ружах.
Ад Борсіка ж — лысасці сцюжа

Імжыць над Стагоддзем імжою.
Ад Борсіка ж словы ілжою...

Сем раз ты вянчаўся з маною.
Шпіёніў, у пары з сабою.

Цяпер з «казіном казіновіш?!»
Стагоддзе ў разлысасць лысовіш?!

Эх, Борсічак, росцікам — кнопка,
Расклёпак гнілая расклёпка...

З расчэпамі — грэшнікаў бровы.
З заклёпамі — лысых галовы.

З лысовішчаў, грэшнік, ты — шосты,
Да жалю трохвостны, трохносны.

Стагоддзе збарсучваеш, Борсік?
Духоўнасці ржавенькі тросік,

Ад ко̀га да ко̀га ў кудынькі —
Праз кроў ты цягаеш барсінкі?

Як карліца — карліка церпіць?
Хто з лысых — і серп перасерпіць.

Ці ведае ў дурасць дурніца,
Што маеш ты сем лысавіцаў.

Зашлюблены з імі — барсова!
Лысовым — да смерці лысова?!

Але гэта кветанькі — Борсік...
Ты ў тайны дзяржаўныя носік

Працiснуў — і чмыхаеш едка.
Духоўнасці ж, з дзіркамі, сетка

Парвалася ад лысадрогкіх.
Ад лысых хістаецца ў бокі...

Прыдбаў казіно Веку, Борсік!?
Грашовасці лысай начосік —

Начэсваеш грэхам кудлатым.
Ты з самых усіх — вінаваты!

Скупіў чвэрць гародаў Стагоддзя,
Мядзведзя на пчольнай калодзе?

Займеў штат нямых дэтэктываў?
Дзе лысы — няма аб'ектываў.

Да дочкі «унучку прыхочыў».
Зашлюбнага сына адвочыў.

Мяжу паміж чыстым і гадкім
Ты, Борсік, правёў марка й гладка.

«Цурмураў», без цела і душаў —
Ад ружаў Стагоддзя да лужаў —

На пузе грахоў колькі згушкаў?
Духоўнасці ў камень падушка?

Знай, сыценькі Борсік, пра тое,
Стагоддзе ў брыдзе не патоне!

Нацешаны, Борсік, маною,
Магілай — мана за табою...

Вось так, лысавейшы барсуча,
Радзіме ты родны — ануча.

Паўзі ад грахоў — перапоўзам,
Цяпер ты — ніякай пагрозай.

Прысуд табе страшны за ўцёкі
Ад чорнай, без крылаў, сарокі,

Што сына табе нарадзіла...
(Як лысых зямля напладзіла?)

Што брудзяць святое і дзетак?
Сам Бог табе, грэшнік, да сведак

Ідзе праз Грамы і Нябёсы.
Трымайся, лысак безвалосы!

Раскайвайся перад ўсімі!
Духоўнасць — святая жывымі.

Прадаў чужакам Мінск-сталіцу
За тое, каб сем раз жаніцца?!

Сем раз скрыўдзіў Век чалавечы.
Душою ты, Борсік, з авечых.

Паўзбаў ад сябе людскі горад!
Тут месца — праўдзівым і гордым!

Незаўважна на сцэне з'яўляецца народны весяльчак Несцерка, які падлівае жартоўны агонь у раскалёную да вясёлых слоў камедыю:

*Ты, Камедыя, жартуй!*
*Ты, Камедыя, картуй!*

*Смехам смачным жарты жуй.*
*Весялосць — ад прыгажунь.*

*Ты, Камедыя, святкуй,*
*Танцамі агонь падкуй.*

*Жарт залоціцца ў руку.*
*Лысых столечкі адкуль?*

*Ты, Камедыя, дзівач.*
*Лепей смех, чым горкі плач.*

*Жартам жарт не перайнач,*
*Вечар чорненькі, як грач.*

*Ты, Камедыя, танцуй.*
*Коньмі пры́ткімі гарцуй.*

*Жарты жартамі пярцуй.*
*Весялосцю смех мацуй.*

*Ты, Камедыя, смяшы.*
*Жарт слязою не тушы.*

*Грэх — з грашынак і грашын.*
*Суд — задачкаю рашы!*

Незаўважна для Хітрага Борсіка з казіно яго карлічыха сем раз куляецца праз сябе і ператвараецца ў чорную пляму ад дзёгця, у якую «спакусліва» трапляе і шосты сяміжонец. Ад перапалоху ён становіцца ў два разы меншы ростам і з пачарнелым у вугаль тварам спавядаецца Пракурору Стагоддзя, за спіной якога праменяцца вочы Уладара Сусвету:

О, Суд найсвяты з найсвятога,
Дажыў Борсік лысы ж да то́га,

Што сам Уладар разгнявіўся —
І карай грахоўнай з'явіўся,

Крыж язваў на целе пакінуў.
Лысовішчаў пашчу разінуў —

Каменнем ільє раскалёным.
(Ад неба ніхто не збаўлёны!)

Дзе сем маіх лысых лысачак,
Адмоўлены сын галалячак?!

Да схочу — духоўнай атравы!
Зямля, росы, зоркі і травы —

Знікаюць ад зроку і слыху?
Куды ж ад мяне сем лысіхаў?

Адзін я цяпер і без грошай!
Духоўнасць — не выпаўзень з вошаў.

Я злодзей — Стагоддзя і Сонца.
Грахоўны і брыдкі — бясконца...

Няўжо казіно варта тога,
Каб выклікаць з Вечнасці Бога?!

Карай, Пракурор, да збаўлення:
Я з мёртвых сем выкраў адзенняў,

Я Мінск прадаваў за бясцэнак,
(Радзіма ж — звыш торгу, звыш цэнаў!)

З гадзюкамі сем раз вянчаўся,
Гульбою з чарцямі вітаўся,

І ядам распырскваўся ў пырскі,
Які ж я падонлівы й нізкі?!

Карай, Божа, лютаю карай,
Каменне згарачвай на карак,

Знай, Борсік — ахвяра нядолі,
Злыселае цемя ў вуголле!

Нашто казіно мне і грошы?
Суд Веку — бязлітасны й Божы.

О, гэта ўсё карліцы — прага!
(Стагоддзе — расхмельнаю брагай?)

Духоўнасці ветэрынары,
Вы з лысай непарнае пары

Ад коней — да стольнага Мінска.
Хто лысыя — цешацца піскам

Чужое бяды і гароты...
Радзіма ж, ты сёння і потым,

На Заўтрае і на Святое!
(Хто лысы — шчасліўцца ўпотай.)

Чаму ж мяне, Божа, аднога
Караеш ты нема і строга?!

Стаю на каленях Стагоддзя.
*Даруй здраду, горды Народзе!*

Прашу пакаяння ў Радзімы.
О, Божа магутны й адзіны,

Палі казіно з лысакамі!
(Хай дохнуць яны прусакамі,

Пяском пры магільным спяць грудзе!)
*Даруйце грахі грэшным, Людзі!*

Хітры Борсік з казіно сем раз жагнаецца і пачынае шаптаць малітву аб дараванні грахоў. Сцены гарадскога казіно, пад назвай «Палітычныя жабы», правальваюцца ў густую цемень Вечара. Высока і ярка дагарае Шостая царкоўная свечка Праўдзівай Памяці. Пракурор Стагоддзя пераможна зашнуроўвае абвінаваўчыя паперы ў Судовую Папку камедыі. Суддзя-Кампазітар насвіствае мелодыю новай судовай

Полькі. Электроннае табло над Дзвярыма Стагоддзя чорнай крэйдай закрэслівае Шостае імя-карыкатуру: Хітры Борсік з казіно. *Вясёлая рытмічная мелодыя паступова пераходзіць ў царкоўны звон, і палова тэатральнай сцэны пачынае нагадваць твар святога Кірылы Тураўскага.*

## КАРЦІНА СЁМАЯ — РАЗВІТАЛЬНАЯ...

Сёмы Вечар Вясёлай Таемнасці. Перад уваходам у царкву Божай Маці Жыровіцкай справа ад тэатральнай сцэны дзічацца людзей шасцёра жабракоў. Гэта былыя грэшнікі-сямiжонцы: Лысы Юзік з казіно, Лысы Медзя з казіно, Лысы Грэва з казіно, Лысы Клёрчык з казіно, Лысы Смоўжык з казіно, Хітры Борсік з казіно, паўз іх на сустрэчу-размову з Вечнасцю мудра праходзіць Пракурор Стагоддзя.
Каля царкоўнага алтара ярка запальваецца Сёмая свечка Праўдзівай Памяці.
Злева ад тэатральнай сцэны Суддзя-Кампазітар *музычным паклонам вітае* фінал Лірычнай Камедыі:

*Сёмы Вечар. Голас Бога.*
*Пракурор і казіно.*

*Зямлі грэшнай — Тайнаў многа.*
*Зор для кожнага — відно!*

Вясёлы танцавальны Дуэт «Доля-Долечка» звяртаецца да высмеяных лысачоў-сямiжонцаў, што, як малады асіннік, дрыжаць адзін перад адным і дзічацца Пракурора Стагоддзя:

*Полька, полечка Стагоддзя,*
*Казіно на сметнік пойдзе.*

*На дрывотніку — згарыць.*
*Што ёсць лысых клан — забыць!*

*Полька, полечка, сяброўка,*
*Адміргай для бровак лоўка.*

*Лысавокія — мінуць.*
*На свой грэх смалу лінуць.*

*Полька, полечка, сястрыца,*
*Святы Бог не ганарыцца,*

*Што ўсіх грэшных пакараў.*
*Быць сумленным, Век, пара.*

*Полька, полечка, мінчанка,*
*Рухаў смелая маўчанка,*

*Адтанцуй, адваражы,*
*Весялосць пабеҏажы!*

*Полька, полечка Стагоддзя!*
*Танцаў сем у карагодзе*

*І ў камедыі, і ў вершах,—*
*Суд над лысымі — завершан!*

Пракурор Стагоддзя са здзіўленнем і шчодрай радасцю вітае новыя дэкарацыі на тэатральнай сцэне.
Перад судзействам і грэшнікамі ярка дагарае Сёмая свечка Праўдзівай Памяці. Над маланкавым небам аднначасова праменяцца Сонца, Месяц і Зоркі... Пракурор Стагоддзя зачытвае камедыйны прысуд:

Такі мой загад пракурорскі:
Далоў клан зладзейскі Лысоўскіх,

Галячкіных, Лысікаў, Лысак!
Палітыка — звуглена ў прысак.

Камедыя звенчана з вершам...
Сказ гнеўны пра лысых завершан.

Фінал развітальнае дзеі?
Куды танцы з песнямі дзелі?

Танцуй «Доля-Долечка» Польку.
Спявай, Кампазітар, пра зоркі.

Яшчэ не ўшчасліўленых столькі,
Па-божаму каб усё толькі —

Было, заставалася й будзе.
Для Бога мы Дзеці ўсе, Людзі.

Запомніце словы Пракокаў:
Духоўнасць з царкоўных вытокаў,

Ад маці, што плача ў далоні.
Царкоўнасці — Божыя скроні...

Крыжы залатыя для тога,
Хто ўвесь да крыві — са святога!

І з гордага, летам як ружы!
Далоў казіно! Суд быў мужным.

Дабрэюць хай тыя, хто ўчуе,
*Што Вечнасць у Мінску начуе!*

Вясёлы танцавальны Дуэт «Доля-Долечка» звяртаецца да асуджаных і высмеяных лысачоў-сяміжонцаў:

*Голас Бога чуйце ўсе!*
*Моцна, шэптам, пакрысе...*

*Ён вас, Людзі, беражэ.*
*Грэшным каяцца цяжэй.*

*Словы Бога знайце ўсе!*
*Людзі — кветанькі ў расе.*

*Навастрыце востра слых:*
*Справядлівы Бог для ўсіх.*

*Вобраз Бога клічце ўсе,*
*Калі грэшнік грэх нясе.*

*Справядлівы Бог адзін.*
*З правам першага Суддзі.*

*Голас Бога чуйце ўсе,*
*Грэшнік і святы Майсей.*

*Бог памілуе й цяля,*
*Ля царквы яно каля.*

*Словы Бога знайце ўсе!*
*Людзі — кветанькі ў расе.*

*Навастрыце востра слых:*
*Справядлівы Бог для ўсіх!*

На тэатральнай сцэне і ў глядзельнай зале грыміць маланкавы Гром. Голас Уладара Сусвету звяртаецца да зямных Людзей:

Добрай Вечнасці, вечар Стагоддзя!
Зоркі з Вершам, з Радзімаю ў згодзе?

За чубы хай бяруцца ўсе тыя,
Хто Душою, як смецце — пустыя.

Пэцкаць Неба — пустая забава!
Размілосці горкотная ўтрава.

Рукі крыжам — хто ўгневіць Радзіму!
Звеку так, як за летамі — зімы.

Хто ачэрніць Каханне, разбрудзіць,
Пры царкве не акліквайце: «Людзі!»

Хто зямлю пакалечыць, згвалтуе —
Рукі пеклам смалы засмалуе.

Хто дарогу слязы ў плач пяройдзе —
Свечкі чорныя ў ножаньках знойдзе.

Маладосць хто раскрышыць, разбожыць —
Галаву, як на пласе, спарожніць.

Хто святло ў перачэрнь кіне ценяў —
Сонца промняў не ўгледзіць на целе.

Добрай Вечнасці, Гордасць і Годнасць,
Весялосці людская заўсёднасць!

Вочы ў вочанькі. Ружамі ў ружы!
Дзякуй, Век, што благое ўсё здужаў.

Не ў камедыі — шчасця сакрэты.
Хто з Радзімай і з Богам — паэты!

На сцэну выходзіць Аўтар лірычнай камедыі. Ён па-народнаму, нізка ў пояс, кланяецца Пракурору Стагоддзя і Суддзі-Кампазітару.
Вясёлы танцавальны Дуэт «Доля-Долечка» выконвае *развітальную Польку:*

*Полька ўслед і напаслед.*
*Век рассмешвае паэт.*

*Хто камедыю счакаў, —*
*Багацеем смеху стаў.*

*Полька ўслед і напаслед:*
*Жартаў спеліцца ранет.*

*Хто камедыю счакаў —*
*Смеху поўная шчака.*

*Полька ўслед і напаслед.*
*Не танцуй адзін, сусед!*

*Хто камедыю счакаў —*
*Жартаў сто перагукаў.*

*Полька ўслед і напаслед:*
*Смех расколвае паркет.*

*Хто камедыю счакаў —*
*Сябра верная рука.*

*Полька ўслед і напаслед.*
*Сочыць за Зямлёй Сусвет.*

*Хто камедыю счакаў —*
*Смеху поўная рака.*

*Полька ўслед і напаслед.*
*Злых рассмешвае паэт.*

*Хто камедыю счакаў —*
*Смеху поўная шчака!*

## ЭПІЛОГ

Ну, вось, Сучаснік, кропак-весялосць...
Стагоддзе адстагоджвае, як госць!

Згарае, як камета над вачыма.
Паэтаў звеку клопат — пра Айчыну!

Пра гордае і роднае — наскрозь...
Смяхотнае закончыцца вось-вось!

Хто з Юзікаў — хай сам сябе пазнае,
Ад лысых — аніштО не вырастае...

Падзей картэж хіба каго надзівіць?
Грамы грахоў мо толькі Бог змаўклівіць...

Як сажай чорнаю чарніўся Медзя,
Духоўнаю ззялёньваў сябе меддзю,

Як выціраў ён аб Каханне ногі.
На лысіне — насіў ад чорта рогі:

Даведаліся хлопцы маладыя.
(Мы на Зямлі па-рознаму святыя.)

Пра Грэву, што прыгодаў меў патрэбу,
Камедыя скамеджвала і Небу,

Цыганак разлюбошчваў як з Малдовы,
Сем раз на ноч агрэшваў шчасця словы.

Запісана — і ў пратакол судовы,
Як Клёрчык шчырасці выскубваў бровы,

З замежнымі турысткамі — любіўся.
Сем раз на месяц з кожнай як жаніўся.

Да казіно як краўся слізкім вужам,—
Ад гэткіх толькі — мокранькая лужа.

Радзіме і духоўнасці ж — нічога.
Бывае й відавокі — ад сляпога

Народзіцца, як куст лазы пры плоце.
Стагоддзе — рамкі часу ў пазалоце! —

Прызнаўся Смоўжык вуснамі распусты,
Як лысіну яго ссыпалі дустам.

Не дзіва, што і Борсік перабольшваў —
З сямёрымі любоў адну злюбошчваў,

Дагневаўся да саменькага Бога —
І заплаціў раскайваннем, нябога...

Згарэла казіно, з маны і бруду!
Як, Пракурор, ты выцерпеў прыблудаў,

Гулякаў, пасаромшчыкаў праклятых?
Што ёсць Суды — Багі не вінаваты,—

Прызналіся разлысыя ўсе з лысых.
(Не чалавек, калі губляе рысы.)

Жыццёвым смецщем сэрцы запаўняе,
Да ліку грэшных грэшна адбывае.

Духоўнае ж — з жыццёвага падтэкста.
Яно не вішні і не куст агрэста.

Радзіма — не бразготкі і не цуркі.
Каханне — не шматкі і не акуркі.

Сяброўства і сям'я — не лапаць лапцем.
Святло і боскасць — госць пры кожнай хаце!

Век-Пракурор, Суддзя бліжэйшы з блізкіх,
Паклон радкам мой вершаваны нізкі!

Высока — далеч, смех і перажарты.
Камедыі — даіграныя карты!

Табой яна, Сучаснік, разгадана?!
(Хто з Весялосцю — сем загоіць ранаў!)

Тэатральная заслона

# Змест

## *Ні з учора звячора свет народжаны ў свет*



## *Мінскія партрэты*

*Князь ты мой, Славамір!*



*Пракурор і казіно*



---

Літаратурна-мастацкае выданне

**АКОЛАВА Валянціна Валянцінаўна**

**СЛУЧАРЫНЫ**
*Кніга паэзіі*

Загадчыца рэдакцыі *Л. І. Круглова*
Рэдактар *А. І. Саламевіч*
Мастацкі рэдактар *Л. І. Мялоў*
Тэхнічны рэдактар *Л. В. Сторажава*

Набор і вёрстка выкананы на камп'ютэрнай тэхніцы выдавецтва «Полымя». Падпісана да друку 27.09.94. Фармат 70х90 1/32. Папера афсетная. Гарнітура "Тип Таймс". Афсетны друк. Ум. друк. арк. 15,79. Ум. фарб.-адб. 16,08. Ул.-выд. арк. 12,85. Тыраж 4500 экз. Выд № 9263. Зак. 1225

Выдавецтва «Полымя» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь.
Ліцэнзія ЛВ № 432. 220600, Мінск, пр. Машэрава, 11.

Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа.
220600, Мінск, вул. Чырвоная, 23